







# У выходны дзень

На ўскраіне асушаных балот, там, дзе пачынаецца густы сасновы лес, размешчаны соўгас «10 год БССР» Любанскага раёна Бабруйскай вобласці.

Соўгас славіцца высокімі ўдоямі малака.

На сядзібе соўгаса — тыповыя жывёлагадоўчыя пабудовы, правільна распланаваны жылы пасёлак. У парку, які размешчаны каля двухпавярховага будынка клуба, у выходны дзень — ажыўленне.

На стадыёне праходзяць масавыя спаборніцтвы з удзелам фізкультурнікаў бліжэйшага калгаса імя БВА.

У парку ў гэты час выкладчык сярэдняй школы інструктар-масавік А. Кунцэвіч праводзіць заняткі гімнастычнай секцыі, а таксама займаецца з дзецьмі рабочых і служачых соўгаса.

Секцыяй цяжкаатлетаў кіруе Ю. Растаргуеў.

Вялікую цікавасць выклікаюць сустрэчы шахматыстаў соўгаса з шахматыстамі калгаса імя БВА, якія арганізоўваюцца паштальёнам А. Ткачук.

Электрык соўгаса П. Адзярыха рыхтуе да спаборніцтваў гарадошнікаў, а секцыя акрабатыкі падрыхтоўвае масавыя пірамiды.

У фізкультурным калектыве, якім кіруе столяр соўгаса інструктар-масавік таварыш Сярогін, займаюцца таксама секцыі веласіпеднага спорту, бокса, лёгкай атлетыкі, валейбола, футбола і лыжная.

Калектыў налічвае 117 членаў таварыства «Ураджай» і займае першае месца ў раёне па валейболу і лёгкай атлетыцы, другое месца па гарадках. Па лыжнаму спорту і валейболу калектыў займае другое месца ў вобласці і ўдзельнічае ў розыгрышы кубка па футболу.

Моладзь соўгаса весела праводзіць свой вольны час.

Фотанарыс **Д. СМІРНОВА.**



Група кіраўнікоў семінараў прапагандыстаў Гродненскай вобласці: (злева направа) Віктар Лішнёў, Тамара Бачкарова, Лідзія Гарбачык, Іван Булыка і Надзежда Нікалаева.

Фота А. Дзітлава.


# МАЛАДОСЦЬ

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

№ 7. Кастрычнік, 1953 год.

# ПАРТЫЯ - НАШ РУЛЯВЫ

Малады майстар Мінскага тонкасуконнага камбіната Аляксандр Турноўскі — адзін з лепшых агітатараў прадпрыемства. Рабочыя і работніцы любяць слухаць яго гутаркі па самых рознастайных пытаннях жыцця савецкай краіны. Аляксандр Турноўскі працуе на камбінаце з дня яго заснавання. Камсамольцы абралі яго членам камітэта камсамола. Партыйная арганізацыя прыняла Турноўскага ў рады КПСС. Нядаўна Аляксандр Турноўскі правёў у ткацкім цэху гутарку на тэму «Партыя — наш рулявы». Слухаць яго сабраліся маладыя рабочыя і работніцы, якіх большасць на камбінаце. Друкуем запіс гэтай гутаркі.

Сёння мы з вамі пагутарым аб нашай Вялікай партыі — кіруючай і накіроўваючай сіле савецкага народа. Камуністычная партыя Савецкага Саюза заслужыла бязмежную любоў і давер'е народа сваёй самаадданай барацьбой за справу простых людзей, за справу рабочых і сялян. Створаная вялікім Леніным, Камуністычная партыя прывяла наш народ да перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, арганізавала дыктатуру пралетарыята, падняла шматлікія масы працоўных нашай Радзімы да свядомай творчасці, забяспечыла пабудову сацыялістычнага грамадства і ўпэўнена вядзе савецкі народ уперад да камунізма.

### Як стваралася наша партыя.

Нядаўна ўвесь савецкі народ і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва за мяжой адзначылі слаўную дату — 50-годдзе нашай Камуністычнай партыі. 30 ліпеня 1903 года адкрыўся II з'езд РСДРП. На гэтым з'ездзе была створана агульнаруская баявая марксісцкая партыя. Гэтая партыя, якая вырасла ў гіганцкую сілу і загартавалася ў баях пад кіраўніцтвам геніяльнага правадыра працоўных Леніна і вучня і прадаўжальніка яго справы — вялікага Сталіна, прайшла слаўны баявы шлях і дабілася сусветна-гістарычных поспехаў.

Маркс і Энгельс — заснавальнікі навуковага камунізма — далі асноўныя палажэнні аб партыі пралетарыята. Владзімір Ільіч Ленін, зыходзячы з гэтых палажэнняў, першы ў гісторыі марксізма распрацаваў вучэнне аб цэнтралізаванай і дысцыплінаванай партыі рабочага класа як палітычным правадыру пралетарыята, яго асноўнай зброі ў барацьбе за камунізм.

Ленін пісаў у той час, што старая Расія памірае, на яе месца ідзе свабодная Расія. Цёмныя сілы, якія абаранялі царскае самаўладства, гінуць. Але толькі свядомы, толькі арганізаваны пралетарыят зможа нанесці смяртэльны ўдар гэтым змрочным сілам. Толькі свядомы і арганізаваны пралетарыят зможа адваяваць народу сапраўдную свабоду. Толькі свядомы і арганізаваны пралетарыят зможа даць адпор усякай спробе буржуазіі ашукаць народ.

Гэтыя гістарычныя задачы магла вырашыць толькі рэвалюцыйная марксісцкая партыя, якая-б згуртоўвала ўсе сілы рэвалюцыі, мільёны працоўных у партыю рабочага класа.

Гэтыя гістарычныя задачы вырашыла наша Камуністычная партыя.

Прыгадаем гістарычную абстаноўку перыяда нараджэння партыі, абстаноўку II з'езда РСДРП.

Гэта быў пераломны момант у міжнародным рабочым руху. Капіталізм уступіў у сваю вышэйшую і апошнюю фазу — імперыялізм, пачаў ператварацца ў капіталізм паразітычны, загніваючы, паміраючы. Пралетарская рэвалюцыя стала надзённым пытаннем. Расія была ў той перыяд вузлавым пунктам усіх супярэчнасцей імперыялізма.

Задачы растучага рабочага руху ў Расіі патрабавалі творчага развіцця марксісцкай тэорыі, трывалага злучэння рабочага руху з сацыялізмам. Вялікі прадаўжальнік справы Маркса, Ленін распрацаваў ідэалагічныя асновы марксісцкай партыі, высока ўзняў значэнне рэвалюцыйнай тэорыі. Ленін давёў, што толькі партыя, якая кіруецца перадавой тэорыяй, можа выканаць ролю перадавога барацьбіта і сапраўднага правадыра працоўных.

Такой і стала наша партыя.

На II з'ездзе РСДРП разгарнулася вострая барацьба Леніна і яго аднадумцаў супраць апартуністычных элементаў. На з'ездзе Ленін і ленінцы адстойвалі карэнныя марксісцкія палажэнні аб ролі партыі, як перадавога, свядомага атрада рабочага класа, узброенага рэвалюцыйнай тэорыяй, веданнем законаў развіцця грамадства і класавай барацьбы, а таксама аб дыктатуры пралетарыята. Барацьба, якая разгарнулася на II з'ездзе з ворагамі партыі, у далейшым усё больш абвастралася.

Такой партыі, як наша, у гісторыі чалавецтва яшчэ не было. Нарадзіўшыся ў агні самай суровай рэвалюцыйнай барацьбы, яна ўсклала на свае плечы сусветна-гістарычную задачу і з гонарам выканала яе. Ішоў час, і здзейсніліся словы Леніна аб тым, што рускі свядомы пралетарыят здолее выпрацаваць сабе партыю на справе, а не партыю на словах.

### Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя.

Наша партыя, узброеная марксісцка-ленінскім вучэннем аб пралетарскай рэвалюцыі, аб дыктатуры пралетарыята, смела і рашуча павяла рабочы клас і ўсіх працоўных на штурм царызма і капіталізма, на заваяванне дыктатуры пралетарыята і стварэнне першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян.

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, накіраванай на звяржэнне царызма і капіталізма і ўстанаўленне дыктатуры пралетарыята, з'явілася важнейшым вынікам дзейнасці Камуністычнай партыі. Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі з'явілася таржаством ленінскай тэорыі пралетарскай рэвалюцыі. Скінуўшы ўладу імперыялістаў у Расіі і ўстанавіўшы дыктатуру пралетарыята, наша партыя ажыццявіла праграму, прынятую II з'ездам РСДРП.

У тэзісах аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС і Інстытута Маркса — Энгельса — Леніна — Сталіна пры ЦК КПСС «Пяцьдзесят год Камуністычнай партыі Савецкага Саюза» гаворыцца: «Для арганізацыі перамогі такой рэвалюцыі, як Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, неабходна была партыя, узброеная перадавой рэвалюцыйнай тэорыяй, валодаючая найвялікшай мужнасцю і гераізмам, партыя, гатовая пайсці на любыя ахвяры ў інтарэсах народа і Радзімы, партыя, якая мае найглыбейшую сувязь з шырокімі масамі працоўных. Іменна такой партыяй і з'явілася магутная партыя камуністаў, створаная і выпеставаная вялікім Леніным».

Наша рэвалюцыя адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва — эру знішчэння капіталізма і таржаства сацыялізма і камунізма. Свет убачыў здзяйсненне справы, гістарычныя перамогі сіл Кастрычніцкай рэвалюцыі.

### Вядучая і накіроўваючая сіла нашага народа.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і ўстанаўлення савецкай улады Камуністычная партыя стала кіруючай партыяй. Яна з'яўляецца вядучай, накіроўваючай сілай нашага народа, нашага грамадства. З першых дзён савецкай улады партыя вядзе барацьбу супраць старога, што аджыло, і смела сцвярджае нябачаныя формы новага грамадства, на якое з надзеяй і радасцю глядзяць працоўныя ўсяго свету і са злосцю — шматлікія ворагі, якія спрабавалі не раз знішчыць Дзяржаву Саветаў.

За ўсе гады існавання савецкай улады наш народ усімі сіламі падтрымліваў сваю гераічную родную Камуністычную партыю. Імёны многіх герояў-камуністаў, якія паказалі беззаветную храбрасць у баях грамадзянскай вайны, у баях супраць узброенай інтэрвенцыі, засталіся ў памяці народа, як і многія імёны агітатараў перамогі сацыялізма ў наступныя гады.

Выкрываючы здрадніцтвы і антынародную сутнасць меншавікоў, эсэраў, трацкістаў, бухарынцаў, буржуазных нацыяналістаў — ворагаў партыі і народа, Камуністычная партыя павяла рабочы клас і сялянства па шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

Цвёрда трымаючыся ўказанняў геніяльнага Леніна і яго вучня — вялікага Сталіна, Камуністычная партыя выпрацавала і ажыццявіла палітыку сацыялістычнай індустрыялізацыі краіны. Без ажыццяўлення гэтай палітыкі, без цяжкай прамысловасці, немагчыма было-б пабудаваць сацыялізм у нашай краіне, якая, як вядома, была краінай адсталай.

Савецкі народ паспяхова ажыццявіў план сацыялістычнай індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, які быў выпрацаваны нашай партыяй. У выніку гэтага наша краіна зрабіла гіганцкі прыжок уперад, ператварылася з адсталай аграрнай краіны ў магутную індустрыяльна-калгасную сацыялістычную дзяржаву.

У Савецкім Саюзе назаўсёды знішчана эксплуатацыя чалавека чалавекам, канчаткова ліквідаваны эксплуататарскія класы. Савецкі народ, якім кіруе Камуністычная партыя, першы ў гісторыі чалавецтва пабудаваў новы грамадскі лад — сацыялізм. Перамога сацыялізма ліквідавала беспрацоўе і прынесла нашаму народу карэнныя палепшанні матэрыяльнага дабрабыту, стварыла неабходныя ўмовы для заможнага і культурнага жыцця працоўных. У краіне ажыццёўлена сапраўдная культурная рэвалюцыя. Камуністычная партыя вызваліла народы Расіі ад шматвяковага прыгнёту, дабілася пераадолення іх эканамічнай і культурнай адсталасці, згуртавала ўсе нацыі нашай Радзімы ў адзіную брацкую сям'ю, стварыла магутную многанацыянальную сацыялістычную дзяржаву — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

У нашай краіне стварыліся і ўзмацнелі магутныя рухаючыя сілы савецкага грамадства — маральна-палітычнае адзінства, дружба народаў СССР, савецкі патрыятызм.

Перамога сацыялізма ў нашай краіне забяспечыла адзінства народа і яго любімай партыі. Камуністычная партыя магла спакойна і смела вызначаць грандыёзныя планы будаўніцтва, маючы мільёны народных мас на сваім баку, маючы ў іх асобе той невычэрпны запас энергіі і магутнасці, вынаходніцтва, з якімі толькі і можна было да канца пераўтварыць родную краіну, зрабіць яе перадавой індустрыяльнай, магутнай дзяржавай.

Сур'ёзнай праверкай сілы і жыццёвасці нашага грамадскага і дзяржаўнага ладу з'явілася Вялікая Айчынная вайна. У гады вайны савецкі народ пад кіраўніцтвам партыі атрымаў рашаючую перамогу, разграміўшы імперыялістычных агрэсараў. Наша партыя выступіла як натхніцель і арганізатар усенароднай барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў. За гады вайны Камуністычная партыя яшчэ больш парадніласся з народам, яшчэ цясней з'едналася з шырокімі масамі працоўных. У дні выпрабаванняў вайны, пераадолеўшы сур'ёзныя цяжкасці і перашкоды на шляху да перамогі, Камуністычная партыя зноў паказала, што яна з'яўляецца адзінай баявой арганізацыяй, якая не ведае хістанняў і рознагалоссяў у сваіх радах.

У пасляваенныя гады савецкія людзі пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў нябачана

кароткі тэрмін аднавілі народную гаспадарку і дамагліся новага ўздыму ўсіх галін савецкай эканомікі і культуры.

Велічныя вынікі барацьбы і перамог савецкага народа былі падведзены на XIX з'ездзе партыі. З'езд намеціў шляхі далейшага развіцця нашай краіны да комунізма. З'езд з'явіўся новым яркім сведчаннем непарушнай маналітнасці і згуртаванасці партыі, цеснага еднання партыі і народа, непахіснай рашучасці партыі прывесці народы нашай краіны да перамогі комунізма.

**Наша ўдзячнасць роднай партыі.**

Ажыццяўляючы гістарычныя рашэнні XIX з'езда КПСС, партыя забяспечыла росквіт прамысловасці, усёй народнай гаспадаркі і культуры. Наша краіна знаходзіцца на далейшым магутным уздыме.

Возьмем для прыкладу нашу рэспубліку, наш Мінск, дзе ўсе мы з вамі жывем і працуем. Мінск быў амаль цалкам разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Усе фабрыкі і заводы быліператвораны ў руіны. Цалкам былі выведзены са строю вадаправод, каналізацыя, тэлефон і тэлеграф, узарваны электрастанцыі. Урон, які прынеслі гораду фашысцкія захопнікі, складаў 4,5 мільярда рублёў.

Зараз наш родны Мінск цалкам адноўлены. І не толькі адноўлены, ён стаў яшчэ лепшы, чым быў да вайны. Паглядзіце самі, якія цудоўныя вуліцы, будынкі, паркі, заводы, фабрыкі выраслі тут! Праспект імя Сталіна робіцца адной з самых прыгожых вуліц гарадоў краіны.

Цяпер жылы фонд горада значна перавышае даваенны ўзровень. За 1945 — 1952 гады толькі на жыллёвае будаўніцтва ў Мінску было выдаткавана 3 мільярды 171 мільён рублёў, пракладзена і збудавана 200 новых вуліц, уведзена ў карыстанне 610,4 тысячы квадратных метраў жылой плошчы.

А прамысловасць нашага горада! Зараз Мінск з'яўляецца буйнейшым прамысловым цэнтрам у краіне. Адноўлены ўсе разбураныя ў час вайны прадпрыемствы. І не проста адноўлены, а ўзброены перадавой тэхнікай. Пабудаваны такія гіганты машынабудавання, як аўтамабільны і трактарны заводы, наш тонкасуконны камбінат, дзесяткі другіх заводаў і фабрык. Па ўсёй краіне вядома прадукцыя мінскіх прадпрыемстваў — станкі, тралёвачныя трактары і трактары «Беларусь», магутныя 25-тонныя самазвалы і іншае.

Будаўніцтва працягваецца. У гэтым годзе будзе здана ў эксплуатацыю яшчэ 110 шматпавярховых жылых дамоў, будуюцца школы, тры кінотэатры, Палац культуры ў цэнтры горада, дзіцячыя яслі і сады. Мінск з'яўляецца таксама буйнейшым культурным цэнтрам нашай краіны. Тут знаходзіцца Акадэмія навук БССР. У горадзе налічваецца 12 вышэйшых навучальных устаноў, у якіх навучаецца больш 11 тысяч студэнтаў, вялікая колькасць сярэдніх школ і тэхнікумаў. Нашы мінскія тэатры па праву лічацца аднымі з лепшых у краіне.

Клопаты партыі аб совецкім народзе добра бачны на прыкладзе нашага камбіната. Разам з будаўніцтвам прадпрыемства ўзводзіліся жылыя дамы для рабочых. Цяпер на Танкавай вуліцы вырас цэлы пасёлак. Многія маладыя рабочыя і работніцы атрымалі тут добраўпарадкаваныя кватэры.

Партыя ўдзяляе вялікую ўвагу вучобе маладых рабочых. На нашым камбінаце, напрыклад, ёсць школа рабочай моладзі, дзе вучыцца каля. двухсот чалавек. Мы з вамі маем усе магчымасці для заняткаў спортам, мастацкай самадзейнасцю. Як вам вядома, недалёка ад камбіната будуецца новы клуб.

Усё гэта нам дала наша Партыя, таварышы, наш Совецкі ўрад!

**На карысць народа.**

Пятая сесія Вярхоўнага Совета СССР, якая адбылася ў жніўні месяцы ў Маскве, зацвердзіла Дзяржаўны бюджэт нашай краіны.

З законнай гордасцю совецкія людзі ўспрынялі прыведзеныя на сесіі даныя аб поспехах цяжкай індустрыі ў Совецкай краіне. За 28 год, якія прайшлі пасля XIV з'езда партыі, дзе быў узяты курс на соцыялістычную індустрыялізацыю краіны, выпуск прамысловай прадукцыі ў СССР узрос у 29 разоў. Ніводная краіна ў свеце не ведала і не магла ведаць такіх высокіх тэмпаў індустрыяльнага развіцця. Палітыка нашай партыі накіравана і далей на тое, каб усямерна развіваць цяжкую індустрыю і металургію, паліўную, энергетычную, хімічную, лясную прамысловасць, машынабудаванне, будаўнічую індустрыю, развіваць і ўдасканальваць транспарт. Партыя вучыць, што цяжкая індустрыя з'яўляецца асновай асноў нашай соцыялістычнай эканомікі, без яе развіцця нельга забяспечыць далейшы рост лёгкай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, нельга ўмацоўваць абароназдольнасць краіны.

«Цяпер, — сказаў на сесіі таварыш Маленкоў, — на базе дасягнутых поспехаў у развіцці цяжкай прамысловасці ў нас ёсць усе ўмовы да таго, каб арганізаваць круты ўздым вытворчасці прадметаў народнага спажывання... Да гэтага часу ў нас не было магчымасці развіваць лёгкую і харчовую прамысловасць такімі-ж тэмпамі, як цяжкую прамысловасць. У сучасны момант мы можам і, значыцца, абавязаны ў інтарэсах забеспячэння больш хуткага павышэння матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа ўсямерна фарсіраваць развіццё лёгкай прамысловасці».

Аб новым росквіце эканамічнага жыцця краіны, усебаковым развіцці ўсіх галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі, аб больш поўным задавальненні запатрабаванняў працоўных гаворыць той факт, што расходы бюджэта ў гэтым годзе на 70,2 мільярда рублёў перавышаюць расходы мінулага года.

У мэтах паслядоўнага ажыццяўлення ў калгасах прынцыпу правільнага спалучэння грамадскіх і асабістых інтарэсаў калгаснікаў, сесіяй прыняты Закон аб сельскагаспадарчым падатку, намечана значнае зніжэнне норм абавязковых паставак з асабістай гаспадаркі калгаснікаў і павышэнне нарыхтоўчых цэн на прадукцыю жывёлагадоўлі, бульбу і гародніну. Ад правядзення ў жыццё мер па эканамічнаму заахвочванню калгасаў і калгаснікаў, а

**Аляксандр Турноўскі вядзе гутарку.**



таксама мер у галіне падатковай палітыкі прыбыткі калгасаў і калгаснікаў павялічацца ўжо ў 1953 годзе больш чым на 13 мільярдаў рублёў, а ў разліку на поўны год — больш чым на 20 мільярдаў рублёў.

На аснове поспехаў народнай гаспадаркі з года ў год у нашай краіне расце вытворчасць тавараў шырокага спажывання. Пастаўлена задача: у бліжэйшыя два-тры гады мець у краіне дастатковую колькасць харчовых і прамысловых тавараў, каб у кожным горадзе, у кожным сельскім раёне можна было купіць усе неабходныя тавары.

Вялікае значэнне наша партыя надае жыллёваму будаўніцтву, палепшанню медыцынскага абслугоўвання працоўных, пашырэнню сеткі школ і дзіцячых устаноў. На гэтыя мэты Дзяржаўным бюджэтам 1953 года прадугледжаны буйныя асігнаванні.

Працоўныя нашай рэспублікі з вялікім задавальненнем успрынялі сур'ёзнае павелічэнне бюджэта Беларускай ССР на 1953 год. Трэцяя сесія Вярхоўнага Савета БССР зацвердзіла бюджэт у суме 3 мільярды 929 мільёнаў 140 тысяч рублёў.

**Будзем працаваць яшчэ лепш!**

Савецкі народ чакае ад нас далейшага павелічэння выпуску выдатных шарсцяных тканін. Калектыў нашага камбіната, спаборнічаючы за датэрміновае выкананне заданняў пятай пяцігодкі, увесь час нарошчвае тэмпы вытворчасці, пашырае асартымент прадукцыі, павышае яе якасць.

Выпрацоўка шарсцяных тканін за сем месяцаў гэтага года павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам 1950 года на 63,6 працэнта. Сямімесячная праграма па выпуску валавай прадукцыі выканана на 109 працэнтаў, па выпрацоўцы гатовых тканін — на 106,6 працэнта. У параўнанні з 1952 годам на 2 працэнты павялічыўся выпуск прадукцыі першага гатунку. Калі ў 1952 годзе наш камбінат выпускаў першым гатункам 90,5 працэнта прадукцыі, то зараз мы выпускаем першым гатункам 92,97 працэнта прадукцыі.

Рашэнні пятай сесіі Вярхоўнага Савета СССР наш калектыў сустрэў з пачуццём вялікага задавальнення. У цэхах і на камплектах з новай сілай разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва за павелічэнне выпрацоўкі выдатных шарсцяных тканін. У адказ на рашэнні сесіі калектыў камбіната ўзяў павышаныя абавязацельствы — закончыць выкананне гадавога задання да Дня Канстытуцыі СССР, звыш плана выпрацаваць 100 тысяч метраў тканін і сэканоміць 100 тысяч рублёў.

У нашым калектыве выраслі выдатныя наватары вытворчасці, якія смела, як гэтага патрабуе партыя, укараняюць перадавыя прыёмы працы, асвойваюць навейшую тэхніку. Рацыяналізатары ўносяць каштоўныя прапановы па лепшаму выкарыстоўванню абсталявання, беражліваму расходаванню сыравіны і дапаможных матэрыялаў, па палепшанню расцветак тканін, павышэнню іх якасці і зніжэнню сабекошту.

Толькі ў першым паўгоддзі гэтага года паступіла 46 рацыяналізатарскіх прапаноў, большасць з якіх ужо ажыццёўлена. Лепшыя рацыяналізатары нашага калектыва — слесар Н. Бандарэнка, красільшчык Н. Шулікін і многія другія ўнеслі нямала каштоўных удасканаленняў у тэхналогію вытворчасці, якія паскараюць асобныя працэсы і павышаюць якасць тканін. Я мяркую, што кожны рабочы, кожная работніца нашага камбіната і нашага цэха павінны стаць рацыяналізатарамі.

Ёсць у нас многа і такіх рабочых і работніц, якія ўсю прадукцыю выпускаюць толькі першым гатункам. Гэта Лілія Макарэвіч, Марыя Сіњкевіч, Інна Шаблоўская, Яня Палішчук, Ірына Вашкевіч, Надзя Фралова. А чаму мы ўсе так яшчэ не працуем?!

Наша партыя, наш народ патрабуюць ад нас прадукцыю толькі выдатнай якасці, толькі першага гатунку. Нездарма таварыш Маленкоў сказаў на сесіі: «Тавары масавага ўжытку, выпускаемыя нашай прамысловасцю, хоць і вызначаюцца, як правіла, трываласцю, але па сваёй аддзелцы і знешняму выгляду пакідаюць жадаць многа лепшага. Да сораму работнікаў прамысловасці пакупнік нярэдка лічыць за лепшае набываць тавары замежнай вытворчасці толькі таму, што яны больш прыгожа аддзеланы. Між тым, у нас ёсць поўная магчымасць вырабляць добротныя і прыгожыя тканіны, добротнае і прыгожае адзенне, трывалы і прыгожы абутак; у нас ёсць поўная магчымасць добра аддзелваць усе тавары, якія ідуць на задавальненне патрэбнасцей народа... Абавязак кожнага прадпрыемства выпускаць прадукцыю высокай якасці, пастаянна клапоцячыся аб добротнасці і добрай знешняй аддзелцы выпускаемых вырабаў».



**Камсамолка-стаханаўка Марыя Сіњкевіч.**

У барацьбе за павышэнне якасці прадукцыі немалую ролю адыгрывае распаўсюджванне і ўкараненне перадавых метадаў працы. У нас на камбінаце працуе стаханаўская школа. У першым паўгоддзі ў ёй навучалася 230 чалавек, 50 маладых рабочых прайшлі тэхмінімум. За параўнаўча кароткі тэрмін яны вывучылі перадавы прыём зарадкі чаўнака па метаду Няфёдавай — работніцы Маскоўскай фабрыкі «Вызваленая праца», а таксама змены чаўнака па метаду маладых ткачоў нашага камбіната Ірыны Вашкевіч і Надзі Фраловай. 35 чалавек авалодалі прыёмамі масквічкі Ніны Амельчанкавай па выпуску прадукцыі першым гатункам. Але-ж усяго гэтага мала. Ці не праўда? Нам трэба больш актыўна ўкараняць перадавыя прыёмы працы.

На нашым камбінаце выпрацоўка тканін будзе павялічвацца. І гэта зразумела — гэтага патрабуе ад нас наша партыя. У 1954 годзе мы павінны павялічыць выпуск гатовай прадукцыі на 35 — 40 працэнтаў у параўнанні з гэтым годам. На камбінаце ўжо распрацаваны мерапрыемствы, якія дазволяць зрабіць гэта пры невялікіх капітальных затратах. Для гэтага мы выкарыстоўваем рэзервы вытворчых плошчаў, якія ёсць у нас, часткова заменім старыя машыны новымі. У чацвертым квартале гэтага года і ў першым квартале 1954 года мы атрымаем новыя машыны.

На камбінаце створаны спецыяльны мастацкі совет з рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў. Яго задачай з'яўляецца распрацоўка мерапрыемстваў па палепшанню знешняга выгляду выпускаемых тканін і стварэнню новых малюнкаў. Мяркуецца выпускаць мінскае трыко пад камволь. Асвойваецца новы від прадукцыі — драп «троіцкі».

Увесь савецкі народ уключыўся зараз у спаборніцтва за датэрміновае выкананне пяцігадовага плана, за павелічэнне выпуску тавараў шырокага ўжытку. Мы з вамі павінны працаваць добра, як ніколі, каб справай адказаць на клопаты партыі аб простых людзях, аб задавальненні іх запатрабаванняў.



**Новы шматкватэрны дом камбіната.**
Фота А. Дзітлава.

**П. МАШЭРАЎ,**
**удзельнік III Кангрэса моладзі і IV Сусветнага фестываля моладзі і студэнтаў у Бухарэсце**

# НЕЗАБЫЎНЫЯ ДНІ

Трэці Кангрэс моладзі і IV Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў, якія адбыліся летам у Бухарэсце, прайшлі пад знакам пашырэння і ўмацавання дружбы і супрацоўніцтва паміж моладдзю розных краін свету, пад знакам умацавання адзінства моладзі свету ў барацьбе за мір, за лепшую будучыню маладога пакалення. Гэтыя знамянальныя падзеі сведчаць аб росце аўтарытэту і ўплыву Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі на шырокія кругі моладзі розных краін свету, аб умацаванні сярод моладзі прагрэсіўнага, дэмакратычнага руху.

Лозунг «Мір і дружба!» быў на кангрэсе і фестывалі самым папулярным лозунгам, які гучаў на многіх мовах свету. Сяброўскія абставіны, якія склаліся на кангрэсе і фестывалі, часам ператвараліся ў сапраўдную дэманстрацыю дружбы, брацтва і адзінства моладзі розных палітычных поглядаў.

IV Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў у Бухарэсце з'явіўся масавым сходам моладзі зямнога шара. У фестывалі ўдзельнічала звыш 30 тысяч юнакоў і дзяўчат з 111 краін свету і ў рабоце кангрэса 15,5 тысяч чалавек ад 106 краін свету. Сярод іх былі прадстаўнікі асноўных палітычных, рэлігійных і спартыўных арганізацый моладзі і студэнтаў.



Адкрыццё IV Сусветнага фестываля моладзі і студэнтаў у Бухарэсце. Узняцце сцяга.
Фота В. Егорава і В. Савасцянава. (Фотахроніка ТАСС.)

Далёка не ўсе госці — удзельнікі кангрэса і фестываля — свабодна прыехалі на сваё свята. Для таго, каб пасланцы звыш ста краін маглі сабрацца разам, ад многіх з іх патрабавалася выключная настойлівасць, а часам і сапраўдны гераізм. Некаторыя з іх прабіраліся ў Бухарэст многія месяцы. У многіх капіталістычных і каланіяльных краінах дэлегатам кангрэса і фестываля адмаўлялі ў замежных пашпартах, пагражалі рэпрэсіямі, заключалі ў турмы.

Удзельнікі кангрэса і фестываля, не гледзячы на розніцу ў палітычных і рэлігійных пераконаннях, выказалі адзінадушнае імкненне ўмацоўваць дружбу і адзінства моладзі ў барацьбе за мір. Прадстаўнікі моладзі самых розных накіраванняў і груп — католікі, соцыялісты, камуністы, пацыфісты, незалежныя і іншыя падкрэслілі ў сваіх выступленнях неабходнасць сувязей і адзінства моладзі ў барацьбе супраць пагрозы новай сусветнай вайны.

Дэлегаты з вялікім уздымам прынялі Зварот да моладзі свету з заклікам умацоўваць супрацоўніцтва і адзінства моладзі ў барацьбе за мір, за лепшую будучыню моладзі.

Усе выступаўшыя на пленарных паседжаннях і ў камісіях падкрэслівалі, што адзінства моладзі ў барацьбе за мір і свае правы павінна стаць галоўнай мэтай у дзейнасці ўсіх арганізацый моладзі. Многія ўдзельнікі кангрэса гаварылі аб пагоршанні становішча моладзі ў тых краінах, дзе велізарныя сродкі выдаткоўваюцца на вытворчасць узбраення. Аб адукацыі моладзі не можа быць там і гутаркі. Насельніцтва цэлых краін зямнога шара, велізарная маса моладзі зусім пазбаўлена магчымасці атрымаць адукацыю. Асабліва цяжкае становішча ў каланіяльных і залежных, слаба развітых краінах. У Індыі, напрыклад, налічваецца 88,8 працэнта непісьменных, у Алжыры — 85 працэнтаў, у Турцыі — 75 працэнтаў. Большасць насельніцтва Лацінскай Амерыкі таксама непісьменная.

Уся работа кангрэса праходзіла ў прыязнай, узнятай абстаноўцы. З асаблівай цеплынёй і сардэчнасцю было сустрэта выступленне кіраўніка дэлегацыі савецкай моладзі тав. Шэлепіна. Усе ўдзельнікі кангрэса слухалі прамову Шэлепіна з велізарнай увагай. Яна суправаджалася неаднаразовымі бурнымі авацыямі. Дэлегацыя савецкай моладзі ўсюды і заўсёды сустракала цёплы і радасны прыём і ўвагу з боку другіх дэлегацый. Сустрэчы савецкай дэлегацыі з іншымі дэлегацыямі ператвараліся ў сапраўдную дэманстрацыю дружбы, у дэманстрацыю любві і давер'я ўдзельнікаў кангрэса і фестываля да нашай Савецкай Радзімы. Усюды можна было чуць савецкія песні, якія спяваліся на розных мовах народаў свету.

У час работы кангрэса мы даведаліся аб заключэнні перамір'я ў Карэі. Гэтую вестку ўдзельнікі кангрэса сустрэлі з выключнай радасцю і энтузіязмам. Брацкія абдымкі і авацыі прадаўжаліся больш гадзіны. У зале ў гэты час панавала сапраўды ўсеагульнае лікаванне, якое ахапіла ўсіх удзельнікаў кангрэса.

Кангрэс закончыў сваю работу, адзінадушна ўхваліўшы кіруючыя органы Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі.

Праз два дні ў Бухарэсце пачаўся IV Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. Палітычнай асновай усіх мерапрыемстваў, што праводзіліся на фестывалі, была ідэя барацьбы за мір і супрацоўніцтва народаў, за дружбу моладзі ўсіх краін, за лепшую будучыню маладога пакалення. Такая шырокая палітычная аснова фестываля забяспечыла яму поспех, садзейнічала аб'яднанню і згуртаванню членаў дэлегацый капіталістычных і каланіяльных краін.

Праграма фестываля была вельмі разнастайнай і цікавай. Яна складалася з масавых палітычных мерапрыемстваў, канцэртных выступленняў, мастацкіх конкурсаў, спартыўных спаборніцтваў, сустрэч паміж дэлегацыямі, паказу выставак аб жыцці моладзі розных краін, разнастайных экскурсій і дэманстрацый кінофільмаў.

Штодзённа ў Бухарэсце праходзіла больш сарака канцэртаў і спектакляў. У 52 кінотэатрах дэманстраваліся карціны, на пляцоўках, стадыёнах, у спартыўных залах кожны дзень праводзіліся дзесяткі розных спартыўных спаборніцтваў. Адзін румынскі журналіст падлічыў, што калі-б хто-небудзь з удзельнікаў фестываля пажадаў паслядоўна прысутнічаць усюды, дзе ў самых разнастайных формах кіпіць бурлівае жыццё фестываля, дык для гэтага яму спатрэбілася-б больш сямідзесяці год.

Велізарную работу правялі румынскія арганізацыі па прыёму дэлегацый і паспяховаму правядзенню фестываля. Гасціннасць міралюбівай і свабоднай краіны ўдзельнікі фестываля адчулі адразу пасля перасячэння румынскай граніцы. На кожнай станцыі, кожным раз'ездзе



На адной з выставак у час фестываля.



На стадыёне імя «23 жніўня» адбываўся парад пасланцоў моладзі, якія прыехалі з многіх краін свету. На здымку: дэлегацыя Міжнароднага саюза студэнтаў на парадзе.



Савецкая каманда гімнастак на Міжнародных таварыскіх спартыўных спаборніцтвах заняла першае месца. Усе яе ўдзельніцы ўзнагароджаны залатымі медалямі. На здымку: каманда-пераможца. Злева направа: М. Джугелі, Л. Дзірай, Г. Рудзько, Т. Маніна, П. Данілава, М. Бачарова, Т. Жалеева, Г. Канавалава.

Фота В. Егарава і В. Савасцянава. (Фотахроніка ТАСС.)

сотні і тысячы людзей горача віталі дэлегатаў, уручалі ім букеты кветак, запіскі, асабістыя падарункі. Школьнікі і пажылыя людзі, юнакі і дзяўчаты ў нацыянальных касцюмах ад усёй душы, з пачуццём шчырай любві паціскалі нам рукі, скандыравалі на рускай мове «Мір і дружба!». У Бухарэсце на прывакзальнай плошчы нашы дэлегаты пачулі Гімн дэмакратычнай моладзі, які выконваўся, па меншай меры, на пятнаццаці мовах адначасова. Цудоўная сталіца Румыніі ператварылася ў горад маладосці, у сталіцу дружбы і міру. На ўсіх плошчах горада да двух, а часам і да трох гадзін ночы прадаўжаліся танцы і гульні.

Для правядзення фестываля ў Бухарэсце за кароткі час быў пабудаваны стадыён на 80 тысяч месц. Былі таксама пабудаваны два летнія тэатры на 7 тысяч месц кожны, адзін кінотэатр, басейн для плавання, значная колькасць спартыўных пляцовак, эстрад для канцэртаў. Бухарэст даў у распараджэнне фестываля такую колькасць спартыўных збудаванняў і канцэртных пляцовак, што на іх адначасова магло прысутнічаць звыш 200 тысяч гледачоў.

На фестывалі побач з правядзеннем спартыўных і мастацкіх выступленняў дэлегацый быў праведзены шэраг масавых палітычных мерапрыемстваў, у якіх дэлегаты фестываля і насельніцтва Бухарэста прынялі актыўны ўдзел. Звыш сямі тысяч юнакоў і дзяўчат ад дэлегацый розных краін свету прынялі ўдзел у мітынгу, прысвечаным барацьбе за вырашэнне спрэчных міжнародных пытанняў шляхам перагавораў. Дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат удзельнічала ў мітынгу салідарнасці моладзі каланіяльных і залежных краін. Як свята юнакоў і дзяўчат усяго свету прайшоў дзень румынскай моладзі і карнавал, які праводзіўся ў Бухарэсцкім парку.

Велізарнае значэнне для ўмацавання дружбы і ўзаемаразумення моладзі мелі шматлікія сустрэчы дэлегацый розных краін. Совецкая дэлегацыя правяла 27 сустрэч з дэлегацыямі 61 краіны. У гэтых сустрэчах прыняла ўдзел каля 6,5 тысячы зарубежнай моладзі. Намі былі праведзены сустрэчы з дэлегацыямі Кітая, краін народнай дэмакратыі, Францыі, Швецыі, Нарвегіі, Даніі, Англіі, Фінляндыі, Аўстраліі, ЗША, Ірана, Італіі, Егіпта, Індыі, Лацінскай Амерыкі, Германіі, Канады і іншых краін.

Выключную цікавасць уяўлялі на фестывалі мастацкія і спартыўныя выступленні. У канцэртах фестываля ўдзельнічалі мастацкія калектывы і салісты-выканаўцы з 65 краін. У праграме канцэртаў большасці дэлегацый былі ўключаны народныя песні і танцы, музыкальныя і драматычныя творы, якія апавядалі аб барацьбе за мір і лепшае жыццё.

Небывалым поспехам карысталіся канцэрты совецкай дэлегацыі. Совецкія музыкальныя, харавыя, танцавальныя калектывы і салісты-выканаўцы далі за час фестываля 87 канцэртаў, на якіх прысутнічала больш трохсот тысяч чалавек. Маладыя совецкія выканаўцы прадэманстравалі высокі ўзровень майстэрства. Асабліва добра былі ўспрыняты выступленні хора маскоўскіх студэнтаў, сімфанічнага аркестра Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі, калектыва Ленінградскага харэаграфічнага вучылішча, групы танцораў хора імя Пятніцкага, Омскага рускага народнага хора, выступленні вялікай групы салістаў.

Выступленне совецкіх выканаўцаў на фестывалі пераканаўча паказала разнастайнасць форм выканання, багацце і прыгажосць мастацтва народаў Совецкага Саюза, выключна высокі ўзровень совецкай музыкальнай культуры.

На фестывалі былі праведзены міжнародныя мастацкія конкурсы. Усе совецкія ўдзельнікі конкурсаў занялі прызавыя месцы і заваявалі 55 медалёў, у тым ліку 40 залатых і 12 сярэбраных.

Паспяхова выступілі на конкурсе прадстаўнікі краін народнай дэмакратыі, што з'яўляецца сведчаннем хуткага і паспяховага развіцця мастацтва ў гэтых краінах. Некаторыя салісты — удзельнікі конкурса з краін народнай дэмакратыі аказаліся сур'ёзнымі прэтэндэнтамі на першыя і другія прызавыя месцы. У той-жа час у капіталістычных краінах наглядаецца заняпад мастацтва. Асабліва гэта рэзка прыкметна ў класічных спевах і балеце.

У час фестываля праводзіліся міжнародныя таварыскія спартыўныя сустрэчы. У выніку гэтых спаборніцтваў нашы спартсмены заваявалі 333 медалі, у тым ліку 202 залатых, 72 сярэбраных. У спартыўных сустрэчах нашы спартсмены прадэманстравалі ўзрослае спартыўнае майстэрства, высокую тэхніку, вялікую волю да перамогі. У складзе спартыўнай совецкай дэлегацыі была група беларускіх спартсменаў. Ад нашай рэспублікі былі пасланы лепшыя, усім вядомыя спартсмены, такія, як Юлін, Лунёў, Салтыкоў, Крываносаў і другія. Яны ўнеслі свой дастойны ўклад у справу перамогі совецкай спартыўнай дэлегацыі на фестывалі.

Спартыўныя спаборніцтвы на фестывалі праходзілі арганізавана і ў прыязнай абстаноўцы. Яны несумненна адыгралі вялікую ролю ў справе ўмацавання супрацоўніцтва паміж маладымі спартсменамі розных краін.

Для азнаямлення з жыццём і барацьбой моладзі розных краін на фестывалі экспаніраваліся выстаўкі дэлегацый 61 краіны. Асаблівую цікавасць выклікала дакументальная фотавыстаўка «Совецкая моладзь» і выстаўка совецкага выяўленчага мастацтва.

Дэлегацыя совецкай моладзі на фестывалі правяла вялікую работу, усямерна садзейнічаючы таму, каб фестываль прайшоў як масавая дэманстрацыя адзінства і згуртаванасці моладзі ў барацьбе за мір, супраць пагрозы новай вайны, за лепшую будучыню маладога пакалення.

Совецкая моладзь, як і ўвесь совецкі народ, сваім актыўным удзелам у руху за мірнае ўрэгуляванне міжнародных праблем з новай сілай дэманструе перад усім светам сваю нязменную волю да міру, яшчэ цясней згуртоўвае свае рады вакол роднай Комуністычнай партыі і Совецкага ўрада, якія цвёрда і паслядоўна адстойваюць палітыку міру ва ўсім свеце.

Сцяпан ШАПО

## З нас кожны у жыцці паэт

З нас кожны у жыцці паэт,
І творчасць наша — велічная праца.
І калі мы здзіўляем ёю свет,
Дык, значыць, варта ёю захапляцца.

Канал збудуем — расцвіце зямля,
Ваца ракой цячэ, як на прадвесні...
Чуваць, як на абноўленых палях
Народ спявае радасныя песні.

У цэху на заводзе наш юнак
Імкнецца быць заусёды сярод першых...
Дэталі на станку шліфуе так,
Як адшліфоўваюць радкі у вершах.

Там, дзе жыты шумелі з краю ў край,
Дзе ўлетку скарб нябачаны сабралі, —
Там мараць зноў падвоіць ураджай.
Вышэй і ў вершах мары не ўзляталі!

Куды-б народ на працу не паслаў, —
Усюды з шчасцем дружым мы нязменна,
Бо кожны з нас душу у працу ўклаў,
Як у сваю
Любімую паэму.

З нас кожны у жыцці паэт,
І творчасць наша — велічная праца.
І калі мы здзіўляем ёю свет,
Дык, значыць, варта ёю захапляцца!

## Карэльскі край

Рака бурліла,
Сосны — да нябёс,
Гранітныя патрэсканыя скалы...
Калісьці іх ляднік сюды прынёс
І навакол раскідаў, як папала.

У гушчарах блукалі лось і дзік,
Балоты зараслі трысцём і мохам...
Звінелі камары, ды соваў крык
Тут не людзей, а цішыню палохаў.

Мы перайначалі карэльскі край,
Раку спынілі моцнаю плацінай,
Сказалі:
— Электрычнасцю зазззяй! —
І загулі магутныя турбіны.

Наш цёплы позірк растапіў ільды,
Наш смех вясёлы абудзіў прастору...
Даўгі канал праклалі мы сюды,
Злучылі Белае з Балтыйскім морам.

І сёння тут і ветразі шумяць,
І хвалі б'юцца аб прычалы з гулам...
І толькі скалы сведкамі стаяць,
Напамінаюць краю аб мінулым.

Мы ішчэ не скарысталі гэтых скал,
Але іх заўтра скарыстаюць людзі:
Яны ўзвядуць з граніту п'едэстал
Пад помнік нашых
Незабыўных будзен.

Наум КІСЛІК

## У студэнцкім інтэрнаце

Не бяда, што тут знаёмых
І сяброў амаль няма, —
Я ў пакоі гэтым скромным
Пяць гадоў жыў нездарма.

Адчыню без стуку дзверы,
Шапку скінуўшы сваю,
І стаю — сабе не веру,
І гляджу, і пазнаю.

Ці не ты гэта тут сёння,
Аднакашнік мой, сябрук,
Паважаны супрацоўнік
Акадэміі навук?

Ну, а ты — юнак вясёлы?
(Абазнацца як я мог!)
Ты-ж цяпер дырэктар школы,
Вельмі строгі педагог.

Ну, а гэты, а вось гэты?
Хоць вачам сваім не вер!
У раёне ў нас газету
Рэдагуеш ты цяпер.

Ці-ж ты гэта, ці, магчыма,
Твой двайнік перада мной,
Толькі з іншымі вачыма
І па знешнасці не той?

У кожным жэсце, кожным слове
Ты — такі, як ён тады,
Толькі мы былі суровей
У ягоныя гады.

Так падобны, хоць другія,
Хоць і новыя хлапцы.
Добры шлях вам, дарагія
Дома нашага жыльцы!

Добра так, хоць не запросяць,
У жыцці праз колькі год
Завітаць сюды у госці
Да юнацтва да свайго!

Пераклад з рускай мовы
Ул. Нядзведскага.

П. ШАЎРОЎ

# ТАВАРЫШ МАЙСТАР

Нарыс

Важкі чамадан муляў плячо. Уладзімір на нейкі момант прыпыніўся, зняў ношу і прысеў на абочыну дарогі. Было горача. Сушыла смага. Дастаў з кішэні лімон, выцер яго хустачкай і, адгрызшы кавалачак жоўтай скуркі, з прагнасцю пачаў смактаць сок.

— Прыемнага апетыту! — пачуў Уладзімір незнаёмы голас і са здзіўленнем пачаў разглядаць каржакаватага ў сіняй гімнасцёрцы рамесніка, які стаяў перад ім і ўсміхаўся.

— Прыемнага апетыту, кажу, — паўтарыў юнак. — Выбачайце, калі перашкодзіў! Гэта па прывычцы.

— Прывычка культурнага чалавека. Жадаеце? У мяне яшчэ ёсць, — і Уладзімір палез у кішэню.

— Што вы, што вы! — замахаў рукамі незнаёмы юнак. — Дзякую!

Юнак быў гаваркім.

— А вы, па ўсім бачу, — казаў ён, — з вакзала? Вось шкада, што спазніўся! Ведаеце, люблю чыгунку. Часам здаецца, ускочыў-бы на паравоз і паляцеў-бы з ветрам навыперадкі!

— Бачу, браток, што ты рамантык! — і Уладзімір усміхнуўся.

— Рамантык, кажаце? Гэта толькі слова. А вось у жыцці інакш склалася. З дрэвам справу маю.

Хлапец прылёг, адкінуў галаву назад і доўга моўчкі глядзеў у блакіт неба.

— Так, значыцца, ты маеш справу з дрэвам?

— Працую на «Комінтэрне», — быў адказ. — Вось тут, рукой падаць!

— А я да вас, на камбінат. Бачыш, як добра атрымалася: ужо знаёмага маю. Ты праводзіш мяне да месца?

Уладзімір падняўся, атрос з пінжака пыл, тужэй зацягнуў пояс на чамадане...

Дзесьці за пералескам пачуўся гудок. Уладзімір адразу пазнаў, што ідзе параход. За тры гады вучобы ў Бабруйску ён навучыўся нават па гудку распазнаваць назву парахода. Радасць ахапіла юнака. Хацелася хутчэй трапіць на месца, сустрэцца з людзьмі, чуць кожную раніцу вось такі-ж гудок, які клікаў людзей на працу.

— Ну, пайшлі! — сказаў юнак, і Уладзімір не паспеў агледзецца,

Уважліва слухае Уладзімір Гоеў (справа) прапанову столяра Івана Дзедунова аб рацыяналізацыі.



як чамадан ужо быў на плячы яго нечаканага спадарожніка. — Нічога, не турбуйцеся, крыху паднясу...

З боку пацягнула прахалодай, Уладзімір адчуў з дзяцінства знаёмы *пах ракі*. Уперадзе віднеліся карпусы нейкага прадпрыемства.

— Гэта нашы, комінтэрнаўскія. Расцем, будуемся! — ажыўлена гаварыў юнак. — Бачыце, колькі за год зрабілі! А колькі яшчэ па плану...

Уладзімір слухаў свайго спадарожніка і адчуваў, як на душы станавілася ўсё цяплей і цяплей.

— А вы на якую пасаду? У канцылярыю? — пацікавіўся слова-ахвотлівы хлопец.

— У цэх. Майстрам.

— Майстрам?

— Так, майстрам. Вось скончыў тэхнікум і сюды, да вас.

— Цікава!.. Аднак, пайшлі!

Прыязна сустрэў выпускніка Бабруйскага лесатэхнікума Уладзіміра Гоева калектыў камбіната. Адразу пасля гутаркі з дырэктарам, парторгам, майстрамі Уладзімір адчуў, што ён тут не чужы, што моладзь чакае ад яго дапамогі, парад.

Мо' па студэнцкай звычцы, ці таму, што не любіў адзіноцтва, Уладзімір вырашыў жыць у інтэрнаце. І калі яму прапанавалі асобны пакой, ён рашуча адмовіўся.

З першага дня Уладзімір спадабаўся ўсім у пакоі: любіў пажартаваць, быў цікавым субяседнікам.

— Ну, рэбяты, вось у гэтым кутку будуць этажэркі з кнігамі — наша бібліятэка. Кнігі ў вас раскіданы ўсюды, дык мы іх у адно месца... І Уладзімір пачаў выбіраць са свайго чамадана кнігі. Іх было шмат.

— Рэбяты, а валейбольная сетка ёсць? Мяч таксама?

— Нават дзве сеткі.

— Пайшлі на пляцоўку!

Увечары Уладзімір ведаў ужо кожнага па пакою: як завуць, прозвішча, адкуль родам, у якім цэху працуе.

У дзверы пастукалі.

— Можна? — пачуў Уладзімір знаёмы голас.

— Заходзь, заходзь, калі ласка. Гэта, таварышы, ён паказаў мне дарогу на камбінат. Садзіся, госцем будзеш, — і Уладзімір падсунуў юнаку табурэт.

Той не сеў. Ён стаяў ля ложка і камячыў у руках шапку.

— Як бачу, ты сарамлівы. А па дарозе здаўся мне зусім іншым. Памятаеш, як пра чыгунку расказваў? Я нават цябе рамантыкам назваў.

— Вось аб гэтым я і хачу пагаварыць, — адказаў юнак. — Я сказаў, што маю справу з дрэвам, што не люблю сваю справу. Але гэта не так, я хацеў сказаць іншае...

— І ўсё-ж я не памыліўся, што ты рамантык. Рэбяты, давайце пагутарым аб рамантыцы!

Аднекуль на стале з'явіўся гарачы чайнік, каўбаса, булкі. У пакоі запахла свежым лімонам. І толькі далёка за поўнач сціхлі ў пакоі ўзбуджаныя галасы.

Тарны цэх, дзе стаў працаваць Уладзімір майстрам, прышоўся не па душы юнаку. Думаў ён аб вялікім, калі ехаў на месца работы, а тут на табе! Дошка да дошкі — і скрыня гатова. Ні тэхнікі складанай, ні інструменту цікавага — адны пілы. Але галоўнае было не ў гэтым. Уладзімір адчуў нейкі халадок з боку Пятра Плюшко, які да яго працаваў майстрам. «Які з Гоева майстар? Дошку як след трымаць яшчэ не можа», — гаварыў часта Пятро рабочым. Але моладзь палюбіла свайго маладога майстра і слухала яго.

— Ведаеце, рэбяты, а наш майстар на інжынера вучыцца!

— І калі ў яго часу хапае? Здаецца, увесь час у цэху! — дзівіліся маладыя рабочыя.

Уладзімір з кожным днём усё глыбей уваходзіў у пытанні вытворчасці, дэталёва вывучаў працэс, а самае галоўнае — людзей. Майстар ведаў схільнасці і асаблівасці характару кожнага ў цэху. На аднаго можна было і голас крыху ўзняць, з другім дапамагала ласкавае слова, трэцяга трэба было падбадзёрыць.

Бібліятэкар Людміла Галушкіна і Уладзімір Гоеў (у цэнтры) дапамагаюць выбраць тэхнічную літаратуру Леаніду Гарбачову.



Хутка прышла і перамога. Дрэваапрацоўчы камбінат заняў першае месца ў соцыялістычным спаборніцтве прадпрыемстваў горада. А на камбінаце першым вышаў тарны цэх.

Неяк вечарам, калі Уладзімір пасля чарговых заняткаў, якія ён праводзіў з моладдзю, вяртаўся да сябе, дарогу яму перагарадзіў Пётр Плюшко.

— Уладзімір Якаўлевіч, я да вас...

Уладзімір здзівіўся. Такія словы ён упершыню пачуў ад гэтага чалавека.

— Па-першае, віншую з перамогай, а па-другое... — Пётр асёкся. — Па-другое, прашу за ўсё прабачэння. Толькі вось зараз зразумеў сваю памылку. Адкуль усё гэта прышло — не ведаю.

Пётр Плюшко дастаў пачак «Беламора» і закурыў. Ён працягнуў яе Уладзіміру, але, успомніўшы, што той не курыць, схаваў зноў у кішэню.

— Прызнацца, крыўдна было. Думаў: «На маім месцы амаль хлапчук». Вось і верадзіла ўсё гэта маю душу. А як папрацаваў з вамі, паглядзеў, што вы за чалавек, дык і зразумеў усё...

Пётр зацягнуўся дымам ад папяросы, закашляўся.

Уладзімір маўчаў і думаў аб чалавеку, які зараз стаяў перад ім і які многа зрабіў яму прыкрага. Але крыўды на Пятра не было.

— Пераходжу ў другі цэх, Пётр, у мэблевы, — сказаў Уладзімір.— Ужо загад дырэктар падпісаў. Марыў я аб гэтым — і вось збылося...

Пётр убачыў, як заблішчэлі ў юнака вочы, якім урачыстым зрабіўся твар маладога майстра.

— Шчаслівага табе, Валодзя, на новым месцы, — і Пётр моцна паціснуў руку майстра. — Зайсці да цябе думаю, кажуць, кніжкі па нашай сталярскай справе маеш.

— Заходзь, рады буду. А аб мінулым, чуеш, больш не вядзі гутарку. Што было — тое сплыло.

Вось і ён, мэблевы! Як зачараваны, хадзіў Уладзімір. Хадзіў з аддзялення ў аддзяленне. Праўда, забягаў ён сюды і раней, але толькі як сусед. А зараз гэта яго жыццё, праца, поспехі, пошукі новага ў рабоце. Трэба было асвойваць усё занава — і фаніроўку, і тэхніку зборкі дэталей, адным словам, — усё.

Прыходу Уладзіміра ў цэху усе былі рады, і асабліва таварышы па пакою, былыя рамеснікі Леанід Гарбачоў, Косця Рагальскі, Леанід Цыцыронак і другія. Яны здружыліся з Уладзімірам і былі многа ў чым яму абавязаны.

Пачалося цікавае, напружанае жыццё. Малады майстар і рабочыя плячо ў плячо ўзяліся за справу. А тут — радасная вестка: камбінат атрымаў ганаровы заказ на выраб для высотнага будынка Маскоўскага універсітэта крэйдавых дошак з рухомымі экранамі, тумбачак і сталоў. Гэта было сапраўднае свята.

— Адна дошка дванаццаць тысяч каштуе. Гэта не скрыню зрабіць! Тут трэба памазгаваць, усё як след абдумаць, — заклапочана гаварыў столяр Васіль Казлоўскі.— А чарцяжы мы навучыліся чытаць? Не яшчэ. Вось, таварыш майстар, і дапамажыце нам у гэтым. З тарнага цэха хлопцы вунь як працаваць навучыліся, хоць зараз кожнага з іх майстрам стаў! А вырабляюць яны што? З нашым заданнем, вядома, не параўнаць!

Выступала многа. І ўсе гаварылі аб адным, усіх кранала адно — вучоба.

І цяпер Уладзіміру было ясна, з чаго пачынаць. Кожны раз пасля работы збіраліся ўсе разам. Разбіралі чарцяжы, чыталі тэхнічную літаратуру, выразкі з газет, дзе майстры сваёй справы дзяліліся вопытам. Уладзімір ужо быў на другім курсе інстытута. За два гады ўпартай вучобы ён пазнаў многае, і цяпер яшчэ больш было аб чым расказаць слухачам.

Работа спорылася. Ніводная адзінка мэблі не ішла ў брак. Падняўся заработак. Тысяча, паўтары і нават дзве тысячы рублёў стаялі супраць прозвішча амаль кожнага маладога рабочага ў разліковай ведамасці. Рэбяты купілі радыёпрыёмнік, набылі фотаапарат, і неўзабаве з'явіліся альбомы, поўныя цікавых фотаздымкаў.

Добра запомніўся Уладзіміру той дзень, калі ён даведаўся, што ў іх цэху будзе пастаўлены канвеер па зборцы мэблі, такі канвеер, як на Ленінградскай мэблевай фабрыцы, а можа яшчэ нават і лепшы. Поўная механізацыя работ у цэху была марай маладога майстра.

А неўзабаве Уладзіміра і Давіда Гайстара камбінат камандзіраваў у Ленінград, на Трэцюю мэблевую фабрыку, азнаёміцца з работай канвеера. Рэбяты ўрачыста праводзілі іх на вакзал.

Канвеер на камбінаце быў пабудаваны ў кароткі тэрмін. Уладзімір Гоеў і Давід Гайстар, якія ў Ленінградзе дэталёва азнаёміліся са зборкай мэблі на канвееры, унеслі некалькі сваіх каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў. Канвеер атрымаўся выдатны. Весялей пайшла праца. Цэх набіраў высокія тэмпы.

Увечары 8 жніўня з інтэрната ніхто не выходзіў — рэбяты слухалі Маскву, слухалі прамову Старшыні Савета Міністраў Саюза ССР таварыша Маленкова.

Маленькі, вяртлявы Толя Цвірко, Ваня Дземідовіч, Косця Рагальскі і другія — усе жыхары пакоя моўчкі слухалі кожнае слова кіраўніка ўрада.

— Правільна, таварышы! — ускочыў з месца Толя. — Гэта і нас датычыцца.

— Цішэй ты, не перашкаджай!

І калі Маленкоў скончыў гаварыць, у пакоі раптам стала ціха. Але толькі на момант. Як вулей, загудзеў пакой.

— Рэбяты, аб якасці трэба пагаварыць зараз-жа! — зазвінеў голас Лёні Гарбачова.

— Усё як ёсць — на чыстую ваду! Гавары, Уладзімір Якаўлевіч! — прапанаваў нехта.

Уладзімір падняўся з месца. Ён адчуў, як моцна забілася сэрца. Навокал былі блізкія, дарагія яму людзі. З імі ён пачаў сваё працоўнае жыццё, з імі разам вучыцца, ідзе насустрач светлай мары.

— Рэбяты, сход нашага пакоя лічу адкрытым, — аб'явіў пад дружныя апладысменты прысутных Леанід Гарбачоў. — Слова аб палепшанні якасці прадукцыі мае таварыш майстар...

**г. Барысаў.**



**Комсамолка Зося Паталей з комсамольска-маладзёжнай пяцёркі муляроў Мікалая Ястраба. На будаўнічых аб'ектах Мінска яна дае дзённую выпрацоўку ў 170 — 180 працэнтаў.**

Фота І. Пікмана.



# Механізаваная ферма ў калгасе

На ўзгорку за вёскай стаіць звычайная калгасная электрастанцыя. Лакамабіль працуе на торфе. Электрычны ток ідзе ў калгас на жывёлагадоўчыя фермы. Але эфект дзеяння станцыі далёка не вычэрпваецца толькі гэтым. Газы, якія ўтвараюцца ад згарання тэрфу, нагрэты да 250 градусаў. Звычайна яны проста вылятаюць у комін. Аднак на гэтай станцыі іх прымусілі грэць ваду і выкарыстоўваюць на зернесушылцы. Гарачая вада падаецца ў калгасную лазню, на жывёлагадоўчую ферму і ў вадаразборную калонку, якая ўстаноўлена пасярод вёскі.

Адпрацаваная пара, звычайна, таксама выпускаецца проста ў паветра. Тут-жа яна служыць для ацяплення грамадскіх і жывёлагадоўчых будынкаў і накіроўваецца на кормакухню.

Кормакухня зусім асаблівая. Адпрацаваная пара падаецца перш за ўсё ў спецыяльную новую машыну — камбайн, з дапамогай якога адзін чалавек прыгатаўляе на працягу гадзіны паўтары тоны гарачага корму для свіней. Побач з кормапрыгатавальным камбайнам устаноўлена яшчэ адна навіна сельскагаспадарчай тэхнікі — апарат для гідроліза саломы, які ператварае яе ў каштоўны корм для кароў.

Гатовы корм развозяць па ферме ў тралейбуснай калясцы-самазвале.

Гэтыя і шэраг іншых мерапрыемстваў ажыццёўлены, як вопыт, Інстытутам механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Акадэміі навук БССР у калгасе «Перамога» Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Калгаснікі даюць вельмі добрую ацэнку рабоце новых машын.

На здымках: **1. Канструктар камбайна для нарыхтоўкі корму В. В. Мусорын** (злева) **знаёміць маладых калгаснікаў — загадчыцу фермай М. Красуцкую і механіка І. Падабеда з працэсам механічнай апрацоўкі кармоў.**

**2. Механік І. Падабед выпрабоўвае новы від транспарта для абслугоўвання фермы — тралейбусную каляску з самазвальным кузавам.**

Фота А. Дзітлава.

І. НАУМЕНКА

# Парасткі будучыні

Нападалёку ад азярца Пятроўскага комсамольскае звяно Надзі Каньковай падымала лён са сцелішча. Дзяўчаты, прыгнуўшыся, ішлі па лагчынцы і спрытна сабіралі пасінеўшую саломку. Наперадзе быў лясок, там шумелі жоўтым лісцем арэшыны і вольхі, нястомна цінькалі сініцы. За ўзгоркам, па суседству, увішна працавала другое комсамольскае звяно — Марыі Арэхавай. Па небе плылі шэрыя воблакі, час-ад-часу суцэльная маса іх разрывалася, і тады на якую хвіліну выблісквала нізкае ўжо сонца. З азярца цягнула вільгаццю.

— Ну, вось і нашы апошнія дні на полі... — сказала Анна Селязень. — Дзень-два і канец работе...

— Я і падумаць не магу, што больш не трэба будзе ісці на поле! Аж сумна робіцца... — сказала, папраўляючы вязаную хустку, бялявая Адэля Карма.

— Не бядуй! — умяшалася весялуха Зіна Крывёнак. — Работы хопіць. Патрапаць лянок трэба, пасартаваць, на завод у Масары адправіць. А там прыедзе аграном Марозаў, агратэхніку вывучаць будзем. Колькі тых сшыткаў спішаш! А выпадзе снякок, тады хапай санкі ў рукі і па хлявах — курэй на седалах пужаць...

Дзяўчаты засмяяліся. Яны, галасна гамонячы і так-жа нізка прыгнуўшыся, ішлі па мокрай траве, ні на хвіліну не адрываючыся ад свайго занятку.

— Адны мы на полі... — зноў пачала бялявенькая Адэля.

— А Марыю Арэхаву ты забыла?.. — перапыніла яе Зіна Крывёнак. — Не бачыш, хіба, як там увіхаюцца. Усё наперад ладзяць выскачыць. Іх-жа брыгада пераходны сцяг трымае. Не хочацца, вядома, аддаваць... Ды толькі ці ўтрымаюць?..

— Ільнаводы заўсёды першымі прыходзяць на поле і апошнімі пакідаюць яго... — задуменна зноў прагаварыла Адэля.

— Калі яны выходзяць на свае ўчасткі, — падбіраючы голас у тон бялявенькай Адэлі, працягвала Зіна, — то ў алешніку спяваюць вясёлыя салаўі. Гэта вясна... Калі-ж ільнаводы звязваюць апошні сноп, тады, сумуючы па іх, цінькаюць у тым-жа алешніку сініцы. Ну, а калі ільнаводы любілі позна паспаць, адпачыць у цяньку, і лён перастаяў і асыпаўся або пагніў на сцелішчы, тады ільнаводаў, пагардліва каркаючы, праводзяць з поля вароны...

— Ну, гэтая Зінка і скажа! Нездарма яна штатны канферансье ў клубе! Тысяча слоў у мінуту!.. Вось гэта дык язычок!.. — жартавалі дзяўчаты.

А работа ідзе тым часам сваім парадкам. Там, дзе прайшлі дзяўчаты, на траве застаюцца сотні туга звязаных снопікаў ільну. Няхай саломка прасыхае! Гадзіны праз дзве снапкі складуць у кучкі, а пад вечар прыедзе за трастой дзядзька Шкунцік, возчык і першы ў калгасе балагур. Як заўсёды, зрабіўшы вялізныя вочы, ён здзівіцца надзвычай малой дзённай выпрацоўцы звяна, скажа пра зніжэнне тэмпаў работы, пра паслабленне дысцыпліны. А пасля, хітравата падмігнуўшы Зіне Крывёнак, ён зусім ужо другім голасам папросіць дапамагчы яму скласці трасту на воз. І павязе лён на сцелажы або ў сушылку.

На абед сабраліся пад разгалістай вярбой, што расла каля падножжа ўзгорка. Тут зацішна і можна з прыемнасцю разагнуць спіну на мяккім мурагу, адпачыць. Дзяўчаты развязалі клуначкі. У іх такія смачныя памідоры, яблыкі, сыр і іншы харч! Убачыўшы абедаючых сяброўак, пад вярбу прыйшло і звяно Марыі Арэхавай. Так вялося здаўна: звенні, калі працавалі паблізу адно ад другога, сыходзіліся на абед заўсёды ў адно месца. У звяне Арэхавай былі такія-ж самыя дзяўчаты-рагатухі, як і ў Надзі Каньковай. Толькі бабка Алена, маці брыгадзіра Івана Качаноўскага, старэй разы ў тры за кожную з ільнаводак. Нават абедзьве звеннявыя знешне былі падобны адна да другой: востраносыя, тоненькія, рухавыя.

Надзя Канькова здавалася сёння нешта задумлівай і маўклівай, што здаралася з ёй рэдка. Зіна Крывёнак, з апетытам канчаючы свой абед, зацягнула:

Сабірала я лянок
На зялёным на лугу,
Дзе папаўся Васілёк,
Цалавала на бягу...

— Няма таго Васілька, ён цяпер ужо далёка-далёка, — сказала адна з дзяўчат. — Можа, таму і сумуе наша звеннявая...

— Адчапіцеся вы са сваім Васільком! Нехапала яшчэ клопату!..

Дзяўчаты змоўклі, але праз хвіліну прысталі да бабкі Алены:

— Скажы, бабка, чым раней знішчалі ільняную мошку? Гексахларану-ж не было! Можа варам спрабавалі?..

Бабка Алена для выгляду хмурылася, але было відаць па ўсім, што кампанія вострых на язык дзяўчат ёй падабаецца. Прышоў Іван Качаноўскі з вялізнай брызентавай сумкай за плячыма. Гэтую сумку дзяўчаты смехам называлі канцылярыяй. Са сваёй сумкай брыгадзір не разлучаўся ніколі: ён любіў ва ўсім дакладнасць і ўлік.

— Ноччу працаваць прыдзецца, — сказаў ён Марыі Арэхавай. — У Масары, на завод, трэба хутчэй лён адправіць. Тэлеграма ёсць... Канчайце тут, а вечарам да машыны...

Брыгадзір пайшоў, а дзяўчаты прыняліся ажыўлена абмяркоўваць навіну. Уласна кажучы, ніякай навіны тут і не было. Надзя Канькова, ідучы яшчэ раніцай на працу, на свае вочы бачыла, як дзед Аўгусцін Лысёнак распальваў сушылку. Тады ўжо яна здагадалася, што пачнецца гарачая работа.

— А ільну ў нас, дзяўчаткі, разы ў два больш супраць леташняга, — сказала Надзя Канькова. — Папрацаваць прыдзецца...

— Да новага года закончым...— пажартаваў нехта.

— Трэба раней!.. Сёлета большыя задачы. Сумелі вырасціць лепшы, як летась, лён, трэба яго ў час і да парадку давесці.

Звенні разышліся на свае сцелішчы. Выблїснула сонца, стала цяплей. Дзяўчаты дружней узяліся за працу.

Перад вечарам да дзяўчат прышла настаўніца Марыя Іванаўна Емельянава, агітатар іх звяна. Марыя Іванаўна прыходзіла ў звяно часта. Тут яе паважалі. Прысутнасць настаўніцы адразу рабіла дзяўчат нейкімі сур'ёзнымі. Урэшце, хіба былі яны такімі ўжо несур'ёзнымі? Любілі, вядома,

Абмалот ільну ў калгасе імя Молатава Глыбоцкага раёна Полацкай вобласці.



пажартаваць, пасмяяцца, але без гэтага-ж і работы няма! Ды і ці змаглі-б несур'ёзныя людзі вырасціць на гектары па пяць цэнтнераў насення і валакна, як гэта было летась, і па цэлых сем цэнтнераў, як сёлета. Зразумела, не змаглі-б! Марыя Іванаўна ўзяла сабе рад і пайшла поруч з дзяўчатамі. Працаваць у полі яна ўмела не горш за іх, і дзяўчаты гэта ведалі. Гутарка завязвалася спакваля, і ішла яна спачатку аб самых звычайных рэчах.

— А ў мяне для вас навіна, дзяўчаткі, — сказала нарэшце Марыя Іванаўна. — Сёння ў газетах надрукавана аб узнагароджанні ільнаводаў калгаса імя Дзімітрава Дунілавіцкага раёна. Многа нашых знаёмых узнагароджана: Ядвіга Альхімовіч ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чэслава Жышкевіч і Уладзіслава Сініца — медалямі. Яны-ж, здаецца, прыязджалі да нас...

— Прыязджалі летась, а сёлета мы ў іх калгас ездзілі, — сказала Надзя Канькова. — Ядвіга Альхімовіч летась больш як па восем цэнтнераў валакна з гектара атрымала і насення амаль столькі-ж...

— Але і наш сёлетні ўраджай амаль такі-ж высокі...

Сонца ўжо зусім схавалася за ляском. З вёскі даносіліся гукі радыё: пачаў працаваць калгасны радыёвузел. Дзесьці мычалі каровы, вяртаючыся з пашы. Ільну засталося падняць яшчэ адзін невялікі клінок.

— Дзяржава штогод павышае свае клопаты аб калгасным сялянстве і аб нас, ільнаводах, — гаварыла Марыя Іванаўна. — Гэта мы добра бачым на прыкладзе нашага калгаса. Мільён трыста тысяч рублёў — такі мінулагодні прыбытак. А сёлета, як паказваюць справы, прыбытак дасягне двух мільёнаў. Багацее калгас, багацеюць і калгаснікі. Аб гэтым ведае кожны з вас. Летась на працадзень было выдадзена па пяць кілограмаў збожжа і пяць рублёў грашыма, не лічачы іншых прадуктаў. Сёлета аплата працадня намнога ўзрасце...

— Наша краіна будуе камунізм, — гаварыла далей агітатар. — Трэба ўсямерна павышаць калгасную вытворчасць, вырошчваць усё большыя ўраджаі збожжа, ільну, гародніны, лепш забяспечваць дзяржаву сыравінай. А дзяржава забяспечыць калгасы і калгаснікаў неабходнымі прамысловымі таварамі і прадуктамі. Зачаткі, парасткі такога прадуктаабмену мы маем ужо ў нашым сённешнім жыцці. Кожная з вас ведае, што амаль дзве трэці калгаснага прыбытку дае ільнаводства. За лён калгас атрымлівае не толькі грошы, пшаніцу, але і прамысловыя прадукты — цукар, алей, макуху. Гэта пачатак найвялікшай справы! Гэтыя парасткі будуць расці, развівацца з кожным годам. Ад нас з вамі патрабуецца адно: лепш працаваць, дамагацца ў нашай гаспадарцы больших поспехаў...



**Звеннявая-камсамолка Марыя Арэхава.**



**Пасцілаюць лён.**

Фота С. Фрыда.

Дамоў ішлі разам. На зямлю павольна насоўваўся вячэрні змрок. У вялізным драўляным будынку, дзе быў размешчаны ільнатрапальны агрэгат, тарахцеў матор. Відаць, машыніст Дзмітры Гучык правяраў яго. Надзя Канькова задумалася. Вось і закончыла яе звяно сваю работу ў полі. Два гады прайшло, як яна ўзначаліла ільнаводчае звяно. Якой вялікай школай для яе самой і для сяброўак былі гэтыя два гады! Што яна ведала раней пра гэты самы лён?.. Дзяўчына ўсміхнулася, успомніўшы адзін недарэчны выпадак. Гэта было яшчэ ў першы год яе работы. У калгас прывезлі мінеральныя ўгнаенні. Старшыня Міхаіл Васільевіч Лытысаў загадаў ёй набраць сульфатамонію і падкарміць ім пасевы. На складзе кладаўшчык даў Надзі рыдлёўку, паказаў у закутак і сказаў, каб яна насыпала ўгнаенне ў скрынкі. У закутку было некалькі куч угнаення. У якой з іх сульфатамоній?

Дзяўчына нерашуча хадзіла каля скрынак, пакуль кладаўшчык не здагадаўся і не паказаў ёй на патрэбнае ўгнаенне. Сёння смешна аб гэтым нават успомніць...

Так, за гэтыя два гады яна шмат чаму навучылася!

Надзя перабірала ў памяці ўсе колькі-небудзь значныя падзеі апошніх двух год. Ёй так хацелася дабіцца сапраўднага высокага ўраджаю, такога, як у Ядвігі Альхімовіч ці Уладзіславы Сініцы з калгаса імя Дзімітрава. Працаваць, аддавацца рабоце без астатку яна ўмела, але гэтага было яшчэ замала. Патрэбны былі веды. І яна вучылася, вучылася ў старэйшых калгаснікаў, у аграномаў... Мінулай восенню яна да слёз пасварылася з трактарыстамі, якія ўзаралі канюшынішча з агрэхамі. Спрачацца, даводзіць сваё ёй прыходзілася нямала... Надзі на яе сямігектарным участку хацелася прымяніць усё тое новае з агратэхнікі, што прымянялі лепшыя людзі краіны. Яна памятала, як хадзіла да брыгадзіра дзевятай брыгады Язэпа Вышадкевіча, які ездзіў разам з другімі глыбоцкімі калгаснікамі да Лысенкі, як распытвала яго аб усім тым новым, што ён прывёз ад акадэміка. Ужо сёлета прымяняла яна грануляваныя ўгнаенні, клала іх у радкі пад сеялку. І вось ураджай... Ён не падвёў яе спадзяванняў. Сем цэнтнераў валакна і насення — гэта не мала! Марыя Іванаўна гаварыла пра шырокі прадуктаабмен паміж дзяржавай і калгасам, пра жывыя парасткі вялікай будучыні, пра тое, што трэба штогод даваць больш дзяржаве калгаснай прадукцыі, каб хутчэй наблізіць гэтую будучыню. Сёлета яе звяно ўжо дасць дзяржаве ільну, лічы, у два разы больш супраць леташняга. А на будучы год яшчэ больш...

Было ўжо зусім цёмна, калі ільнаводы ішлі па вуліцы вёскі. На ферме звінелі бідоны, чуліся галасы даярак. Каля праўлення Надзя сустрэлася са старшынёй Лытысавым.

— Цябе тут фатографы шукалі, — паведаміў ён ёй. — Фатаграфіруюць удзельнікаў выстаўкі, ну, і іх прадукцыю... Я на заўтра адклаў гэтую справу. Так што збірайся ў Маскву...

— Наша звяно сёння ў начную змену ідзе, — адказала Надзя. — Пабягу павячэраю...

Яна хуценька падалася да сваёй хаты.

**Калгас імя Молатава Глыбоцкага раёна Полацкай вобласці.**

**Уладзімір КАРПАЎ**

# В А Л Я

**Урывак з рамана**

Мал. Ю. Пучынскага.



Валя трэці раз перачытвала свой артыкул, калі яе выклікаў рэдактар. Рыхтаваўся нумар, прысвечаны аднаўленню Мінска, і трэба было тэрмінова, разам з галоўным архітэктарам горада, праехаць на нядаўна здадзеныя аб'екты і сабраць матэрыял аб недаробках будаўнічых арганізацый. Заданне крыху збянтэжыла яе. Артыкул, па сутнасці, быў накіраваны супраць Васіля Пятровіча, і сустракацца з ім сёння ёй здалося спачатку няёмкім. Але радасць часта бывае эгаістычная і неразважлівая. Ахопленая радасным узбуджэннем, Валя тут-жа не толькі згадзілася на заданне, але і знайшла ва ўсім гэтым нешта займальнае. «Няхай любіць крытыку і прызнае памылкі...» — падумала яна і ўявіла, якім стрымана афіцыйным будзе твар галоўнага архітэктара.

Вышаўшы з рэдакцыі, яна зноў разгарнула газету і на хаду пачала разглядаць артыкул, які ўжо ведала амаль напамяць. На яе азіраліся прахожыя, а яна ішла і ішла, не звяртаючы ўвагі ні на каго. Яна нават здзівілася сама, як трапіла да аўтобуснага прыпынку.

Ля прыпынку гаварыла радыё. Нешта знаёмае ў словах дыктара насцярожыла Валю, і яна, не верачы сабе, пачула сваё прозвішча. Яна хуценька сунула газету ў кішэню, стаіла дыханне і замерла. Але дыктар змоўк. А калі загаварыў ізноў, дык перадаваў ужо тэлеграмы з-за граніцы. «Агляд рэспубліканскіх газет», — чамусьці з палёгкай здагадалася Валя і разгублена агледзела людзей, якія стаялі ля прыпынку. Ніхто не пазіраў на яе, і гэта супакоіла Валю. «Вось мая праца і ўліваецца ў працу маёй рэспублікі», — падумала яна, успомніўшы Маякоўскага.

У прыёмнай Васіля Пятровіча сядзелі два наведвальнікі: поўны мужчына ў вышыванай кашулі і бледны, з трагічна ўзнятымі брывамі малады чалавек у парусінавым касцюме. Яны, напэўна, былі добра знаёмы, бо ажыўлена размаўлялі і раз-по-разу пазіралі на дзверы кабінета. Сакратаршы за сталом не было, і, калі званіў тэлефон, мужчына ў вышыванай кашулі па-гаспадарску здымаў трубку і абыякава адказваў:

— Не, не!.. Прабачце, галоўны архітэктар цяпер заняты, пазваніце пазней.

На Валю яны не звярнулі ніякай увагі і прадаўжалі размаўляць паранейшаму голасна. Паблісквеючы вясёлымі карымі вачыма, мужчына ў вышыванай кашулі жэстыкуліраваў, пляскаў субяседніка па каленах і, прыкрыўшы рот рукою, пырскаў смехам. Малады чалавек у парусінавым касцюме стрымана ківаў галавою і часта папраўляў акуляры, беражліва дакранаючыся да іх безыменным і вялікім пальцамі.

Валя прыслухалася да іх гутаркі, і пачуццё, з якім яна ішла сюды, пачало знікаць.

Гаварылі якраз пра яе артыкул. У ім Валя пісала аб скульптурным афармленні горада і выказвала сваё нездавальненне тым, што зроблена да гэтага часу. Палажэнні артыкула ёй здаваліся бясспрэчнымі. Зрабіць горад прыгожым. Увянчаць будынкі скульптурнымі групамі. На плошчах, у парках узняць абеліскі, статуі. Трыумфальнымі аркамі адзначыць пачатак горада. Хіба можна пярэчыць супраць гэтага? У горадзе ўсё павінна быць прыгожым — ад назваў плошчаў да шыльдаў і дошак для аб'яў.

Блізкае да таго, што Валя пачула цяпер, ёй сказаў і Зімчук, з якім яна сустрэлася ў аўтобусе.

— Мы, Валя, — лагодна ўсміхнуўся ён, — будуем горад не для турыстаў. Нам ён патрэбен для іншага... Разумееш?

— Значыць, і ў прынцыпе няправільна? — успыхнула Валя.

— Значыць, і ў прынцыпе... Бо прынцып, калі ён прынцып, павінен вырастаць з пэўнай трывалай асновы. А ў цябе ўсё... нібы ў ружовым святле... Ты ведаеш, чаму мне, напрыклад, падабаецца наш генеральны план рэканструкцыі?

Валя пацiснула плячыма.

— Ды таму, што ён перш за ўсё рэальны...

Пляскаючы субяседніка па калену, мужчына ў вышыванай кашулі даводзіў:

— Гэта, бацэнька, агульшчына. Ну, добра, помнікі, бюсты, статуі! Скажам, Скарыне, Каліноўскаму. Але іх недзе трэба паставіць. Дзе? Іх-жа неабходна ўключыць у ансамбль, упісаць у пейзаж. Як? Дзе? Ці не побач з універмагам? Пс-с-с! Вось было-б арыгінальна: Скарына і універсальны магазін! — І ён пырснуў смехам, нібы крапіў з рота вадой, і схіляўся так, што патыліца і карак яго чырванелі.

— Весела, няма чаго казаць, — згаджаўся малады чалавек, але твар яго заставаўся абыякава сур'ёзным.

— Сапраўды, весела... Ну, няхай там газетчык. Не ведае ні народа, ні таго, пра што піша. Бог з ім! Але такое верхаглядства робіцца пошасцю. Калі я быў яшчэ начальнікам, знайшоўся адзін энтузіяст, які дамагаўся, каб стварыць у горадзе пантэон. Нават у часопісе выступіў. Навокал руіны, груды цэглы. На Доўгабродскай вуліцы жыта расце, зайцы забягаюць. А яму, бачыце, пантэон падай! Пс-с-с!.. Ды не абы які, а абавязкова лепшы за пантэон Агрыпы ў Рыме.

— Весела!..

—А трыумфальныя аркі? На ліха яны нам? Народ наш ніколі не хадзіў пад аркамі. А ўзнікне патрэба адзначыць якую-небудзь урачыстасць — ён знойдзе. І будзьце спакойны, знойдзе сваё... А тут што? Ёсць аркі ў другіх гарадах і краінах, падайце іх і нам, няхай стаяць... Важка, манументальна... Але на якое ліха? З якой ласкі? Яны-ж як фігі будуць тырчаць. Пс-с!.. У кожнага часу, бацэнька, свой рытм і свае формы.

Кроў прылівала і адлівала ад валінага твару. Было балюча, сорамна і крыўдна, хоць да канца і не верылася ў праўду таго, што яна чула. Было балюча, бо так лёгка развейваліся вынашаныя ёю думкі. Сорамна было, бо яна сапраўды выглядала недалёкай, наіўнай дзяўчынкай. Крыўдна, бо не знаходзілася важкіх пераканальных слоў, што можна было-б супроцьпаставіць чутаму.

З дзёрзкай упартасцю яна ўсё-ж хацела ўмяшацца ў размову, але дзверы кабінета адчыніліся, і адтуль вышаў сакратар гаркома Кавалеўскі і Юркевіч. Абодва яны былі нечым незадаволены.

— Дык я чакаю, — сказаў Кавалеўскі і, пакланіўшыся ўсім, вышаў.

Убачыўшы Валю, Юркевіч пасвятлеў і хітра прыжмурыўся.

— Заходзь, заходзь! — заспяшаўся ён. — Прачытаў твой артыкул...

У Валі нешта абарвалася ў грудзях, і яна амаль варожа, з-пад ілба, зірнула на Васіля Пятровіча. «Няўжо кпіць пачне?» — падумала яна.

— Харошае пачуццё. Правільнае... Заходзь!

У кабінеце пахла фарбай і было накурана. На ўсім ляжалі адзнакі нястрогага парадку. Пісьмовы стол завалены папкамі і скруткамі ватманаўскай паперы, за ім — вялізны план горада. Проста на падлозе — некалькі праектаў будынкаў і архітэктурных дэталей у рамках. Светлыя, без панелей сцены, крэмавыя гардзіны на вокнах, шырокая ярказялёная дарожка ад дзвярэй да стала. Усё гэта рабіла кабінет паасабліваму ўтульным.

Васіль Пятровіч падышоў да акна, расчыніў яго. У пакой хлынула свежасць.

— Харошае пачуццё, — паўтарыў ён. — Для нас, архітэктараў, гэта асабліва важна. Матэрыял у нас, здаецца, такі непадатлівы — цэгла, дрэва, бетон... Але пачуццё асвятляе ўсё і нават дыктуе форму. Нават ідэя праз яго выяўляецца. Як у музыцы. Гётэ сцвярджаў, што архітэктура — гэта акамянелая музыка. Правільна!

— У Янкі Купалы дакладней, — крыху ажывілася Валя. — Ён назваў нейкі княжаскі замак полымем скамянелых сэрцаў.

— Таксама добра, — вочы Васіля Пятровіча пацямнелі. — Я ўяўляю гэты замак. Ён, мусіць, і ў яснае надвор'е шарэў, быццам у тумане. Халодны, выкляты ўсімі і... усё-ж такі прыгожы. А як-жа інакш? У яго муры былі закладзены праца і талент народа — тое, што ў нас расцвітае, няскутае нічым... «Скамянелае полымя сэрца». Добра!

Ён не заўважыў, як крыху змяніў купалаўскія словы, паказаў Валі рукою на скуранoe крэсла і накіраваўся да дзвярэй.

— Сямён Захаравіч, калі ласка! — паклікаў ён і прадаўжаў: — А наконт астатняга трэба вось што сказаць. Месцы для статуй і помнікаў у нас вызначаны. Героі, знатныя людзі таксама ёсць. Але мы не такія багатыя, каб будаваць кепскае і таннае. Мы, Валя, паслядоўныя. Вось узнімем манумент на Цэнтральнай плошчы — з граніту... будзе па чым раўняцца. А з стандартных фігурак дыскаболаў і баскетбалістак, якія і мы ўправіліся паставіць ля парка, карысці мала. А пры нашым клімаце асабліва. Зімою дык проста сорам. Стаяць у адных трусіках. Босыя, белыя. На плячах снег. Навокал снег. Проста шкада бедных. Ад іх голага харацтва мароз па спіне прабягае... А кожную вясну тынкуй іх, фарбуй...

З вялікай папкай, злосны ад збянтэжанасці, увайшоў мужчына ў вышыванай кашулі. Хмурачыся і не пазіраючы на Валю, ён накіраваўся да пісьмовага стала і моўчкі пачаў разгортваць папку.

— Вы не знаёмы? — спытаў Васіль Пятровіч. — Знаёмцеся.

— Барушка, — кінуў мужчына ў вышыванай кашулі, пацìснуў валіну руку і тут-жа зноў заняўся папкай.

Зазвінеў тэлефон.

— Я слухаю!.. — узяўшы трубку, сказаў Васіль Пятровіч. — Што? Не, там вуліца будзе забудоўвацца пяціпавярховымі дамамі. Што? Не падымецца? Ну што-ж, тады багацейце... Магу параіць толькі адно — каперырыйцеся з упраўленнем чыгункі. Яно якраз падало заяўку... Не, не! Іх праект мы забракавалі. Памеры не для той вуліцы. Прапанавалі спраектаваць замест аднаго два дамы. Вось і далучайцеся... Так, канчаткова. Усё!

Васіль Пятровіч паклаў трубку і пачаў разглядаць чарцяжы і рысункі, якія прынёс у папцы Барушка.

Валя чула пра Барушку як пра вопытнага,таленавітага архітэктара, які яшчэ да вайны пабудаваў некалькі будынкаў, і таму з цікавасцю стала назіраць за ім.

Упарты, высокі лоб, энергічны падбародак і, перад усім, нейкая яснасць твару, якая скрашвала грубаватыя і няправільныя рысы, — прывабліваль. Жорсткі-ж, рэзка акрэслены рот і грэблівая грымаса, што часта набягала на твар, выклікалі непрыемнае пачуццё. А магчыма, усё гэта толькі цяпер здалося Валі, якая, не маючы ў сабе сілы стаць яго прыяцелем, не хацела быць і яго ворагам.

З выглядам, што ён прадбачыць пярэчанні, Барушка чакаў пакуль першым загаворыць Васіль Пятровіч.

— Гэты варыянт, па-мойму, лепшы, — прагледзеўшы чарцяжы, сказаў Васіль Пятровіч. — Будынак стаў больш самавіты, і ў той-жа час просты. Асабліва добра ў вас завязалася аснова. Але... На маю думку, мы не заўсёды правільна спалучаем інтарэсы эканомікі і эстэтыкі. Вы вось, напрыклад, па-мойму, недаацанілі дэкаратыўны элемент.

— Я, Васіль Пятровіч, не магу прыстасоўваць свой праект да кожнага газетнага допісу... — Барушка пачырванеў.

— Навошта прыстасоўваць, — спакойна запярэчыў Васіль Пятровіч. — Скульптура і арнамент выдуманы не сёння...

— Я вас не разумею...

— Справа не ў допісе, Сямён Захаравіч. Справа ў тым, што мы забываемся на арнаментальную апрацоўку сцен і, у прыватнасці, хоцьбы на такі яе від, як дэкаратыўны надпіс. Ды, трэба прызнацца, не настойліва шукаем і новых форм... А галоўнае, — мы забываемся на тое, што нашы людзі маюць права і хочуць бачыць мастацтва не толькі ў музеях і на выстаўках, але і на вуліцах, на сценах дамоў, бо яно стала іх патрэбаю.

Зноў зазвінеў тэлефон. Васіль Пятровіч зняў трубку, прыкрыў мембрану далоняй і дакончыў:

— І калі вы ў гэтым бачыце сэнс допісу, то прыдзецца прыстасоўвацца...

Званіў старшыня горсовета і, як стала зразумелым з гутаркі, прасіў заказаць праект фантана для цэнтральнага парка. Васілю Пятровічу гэта чамусьці адразу не спадабалася, ён забарабаніў пальцамі па стале, патакваў, але не ў знак згоды, а проста, каб пацвердзіць, што слухае, і хмурыўся ўсё больш і больш.

— А мармур? — нарэшце не вытрымаў ён. — Мармур!.. Не будзе?.. Так, так. Тады не будзе і праекта. Так, так... І не падумаю. Чэснае слова! Аж пакуль буду заставацца галоўным архітэктарам... Што? Зробіце не галоўным? Тады тое і будзе...

Нечакана твар яго стаў хітрым, і Валі здалося, што ён нават пазмоўніцку падмігнуў ёй.

— Так, так... Чытаў. Правільна!.. Што магу прапанаваць? Спраектаваць фантан пад мармур. А калі не знойдзем мармуру, будзем будаваць паводле гэтага-ж праекта часовы фантан... Добра. Есць!

Васіль Пятровіч адкінуўся на спінку крэсла і нейкі час маўчаў. Потым паклаў руку на барушкаву папку.

— Значыцца, дамовіліся, Сямён Захаравіч? Фасад узбагаціце. І тады, калі ласка, разлічвайце на маю падтрымку на архітэктурным савеце... Згода?

Пачутыя ў прыёмнай і тут, у кабінеце, размовы як-бы абудзілі Валю. Неяк раптоўна знік стан радаснага ап'янення, у якім яна жыла ўвесь апошні месяц, калі ўсё выглядала такім ясным, простым і магчымым. Рэчы, людзі цяпер як-бы паўсталі перад ёю ў іншым святле. Яча балюча адчула, што трэба значна больш ведаць, каб вучыць другіх. Раней, не задумваючыся, яна магла зрабіць заўвагу Юркевічу, што неразумна на праспекце саджаць ліпы ў адзін рад і лепш было-б стварыць суцэльную зялёную сцяну, саджаючы дрэвы ў шахматным парадку ў два рады. Магла ўпікнуць Зімчука ў тым, што ён без асаблівага энтузіязма ставіцца да будаўнічага камбайна, і г. д. Але чаму ліпы абавязкова павінны быць пасаджаны не ў адзін, а ў два рады? Ці сапраўды варта займацца няўклюдным і малапрадукцыйным камбайнам, які пакуль не апраўдвае сябе? Аб гэтым яна мала задумвалася. Ёй здавалася, што зялёная сцяна будзе прыгажэйшай за выцягнутыя ў рад ліпы, што, не падтрымліваючы будаўнічага камбайна, Зімчук тым самым не падтрымлівае наватарства і ідэі механізацыі будаўнічых работ наогул. І гэтага было дастаткова, каб спрачацца і патрабаваць. Цяпер-жа перад ёй раскрылася складанасць таго, што раней выглядала простым і ясным. Але, як ні дзіўна, вера ў сябе пабольшала. І калі вышлі Барушка, а затым і малады чалавек у парусінавым касцюме, які аказаўся работнікам трэста зялёных насаджэнняў, яна, адчуваючы ўдзячнасць да Юркевіча, спытала:

— Я, мусіць, Васіль Пятровіч, падвяла ўсё-ж газету?

— Не, я не сказаў-бы гэтага...

— А я сказала-б... І пакарала-б нават...

— Ну, гэта зусім цікава... Хіба за маладосць?.. — засмяяўся Юркевіч і прыплюшчыў павекі, каб прыхаваць прыязнь, якая свяцілася ў яго вачах. — Ну што-ж, пакуль не затрымалі, паедзем, пакажу недаробкі... — І ўжо ў машыне дадаў: — А які ўсё-такі горад будзе, Валя...

Не даязджаючы да Комсамольскага бульвара, яны сустрэліся з вадапалівной машынай. Абцякаемая, шэра-зялёная, яна нагадвала вусатую жывую істоту. З яе ва ўсе бакі білі струмені вады. На іх іграла вясёлка. Легкавушка праскочыла міма. Пырскі ўдарылі ў бок і шкелцы вокнаў. Валя мімвольна зажмурылася і, нібы сапраўды асвежаная халодным струменем, усміхнулася і нават папраўіла валасы. Зірнуўшы на Васіля Пятровіча, яна ўбачыла, што ён таксама ўсміхаецца і працірае хусцінкай пенснэ, быццам на іх трапілі пырскі.

# Тут вывучаюць надвор'е

...Белы гумавы шар, напоўнены вадародам, лёгка, нібы птушка, выпушчаная на волю, узвіваецца ў паветра і, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй, праплывае над лясамі, калгаснымі палямі, хутка становіцца непрыкметным. Але шар-пілот нездарма выпушчаны ў блакітную прастору: з вежы абсерваторыі яшчэ доўга вядуць назіранні за ім праз спецыяльныя прыборы (тэадаліты). Пушчаны ў вольны палёт, шар-пілот дазваляе зоркім назіральнікам, якія сочаць за ім з двух кропак, устанавіць кірунак і хуткасць ветру.

Мы ўжо даўно простым, няўзброеным вокам не бачым гэты белы шар, які здаецца нам маленькай хмаркай, ён ляціць недзе на вышыні ў 5—6 кілометраў, а праз тэадаліты назіранне прадаўжаецца. Кожную мінуту робіцца адлік таго, у якім становішчы знаходзіцца шар. З дапамогаю геаметрычных вылічэнняў гэтыя даныя дазваляюць метэаролагам устанавіць хуткасць і кірунак ветру на любых вышынях.

Штодзень дакладна па гадзінніку — раніцай, днём і ўвечары — узвіваецца шар-пілот над высокім корпусам Беларускай геафізічнай абсерваторыі. Ужо сама па сабе архітэктура гэтага будынка гаворыць аб яго асобым прызначэнні. Вежы і пляцоўкі для назіранняў. На даху нейкія незвычайныя прыборы. Хто-б ні праязджаў або ні праходзіў міма гэтага будынка, які стаіць на прыгожым узгорку каля самага ўезда ў Мінск па Маскоўскай шашы, абавязкова спыніць на ім свой позірк.

Беларуская геафізічная абсерваторыя — адна з самых старадаўніх устаноў Мінска. Раней у горадзе была звычайная метэаралагічная станцыя. Нагляданні, якія яна вяла, хоць і былі вельмі цікавымі і патрэбнымі, але не маглі задаволіць узросшыя запатрабаванні, асабліва ў сувязі з развіццём грамадзянскай авіяцыі.

Лётчыкі грамадзянскай авіяцыі — адны з тых, хто найбольш зацікаўлены ў матэрыялах, якія здабываюцца абсерваторыяй. Перш чым выбраць курс для палёту, авіятарам трэба ведаць, што адбываецца ў вышыні, на іх паветраных трасах. Аб гэтым яны даведваюцца з назіранняў абсерваторыі.

У 1944 годзе пасля вызвалення Мінска на месцы абсерваторыі вучоныя знайшлі толькі спустошаны корпус. Не захавалася ніводнага складанага прыбора, што мелі вялікую каштоўнасць. Прыборы былі або разбіты, выкінуты на звалку, або вывезены ў Германію. Беларуская-ж геафізічная абсерваторыя была вядома да вайны сваім багатым абсталяваннем. Усё прышлося пачынаць спачатку. Вялікую дапамогу беларускай абсерваторыі аказала Галоўнае ўпраўленне гідраметэаралагічнай службы СССР. За апошні час адтуль атрымана нямала каштоўных прыбораў. Гэта дало магчымасць абсерваторыі даволі шырока разгарнуць сваю работу.

Навуковыя супрацоўнікі абсерваторыі штодзённа вывучаюць з'явы, якія адбываюцца ў атмасферы, — воблачнасць, ападкі, аптычныя з'явы, электрычны стан атмасферы. Кожны з навуковых аддзелаў абсерваторыі мае свае практычныя задачы. Аддзел аэралогіі заняты даследаваннем руху паветра ў свабоднай атмасферы. Аддзел актынаметрыі вывучае прамую і рассеяную сонечную радыяцыю. Навуковых супрацоўнікаў гэтага аддзела цікавіць, напрыклад, даследаванне колькасці цеплыні, якую атрымлівае паверхня зямлі ў даным пункце. Абагуленыя матэрыялы публікуюцца ва Усесаюзных навуковых штогадавіках, дзе адводзіцца месца і Мінску.

У абсерваторыі стварылі новы аддзел. Прыборы для гэтага аддзела ўжо атрыманы. Яны дазваляюць даследаваць рух паветра на любых вышынях, незалежна ад стану неба. Пры нізкай воблачнасці назіранні весці вельмі цяжка, а пры дапамозе новых прыбораў у момант назірання воблачнасць не з'яўляецца перашкодай.

Радыё ўжо зараз прыносіць неацанімую паслугу аэролагам. Яшчэ некалькі гадоў назад пры вывучэнні атмасферы ім прыходзілася дзейнічаць усляпую. Назіральныя шары-прыборы пускаліся наўздагад. Калі іх хто-небудзь знаходзіў і вяртаў у абсерваторыю, тады можна было ўстанавіць, што адбывалася ў паветры ў дзень назіранняў, калі прыбор прападаў — прападалі і даныя. Цяпер побач з шарам-пілотам у паветра запускаецца радыёзонд. У скрынцы ўстаноўлены радыёперадатчык. На шнурку радыёзонд прымацоўваецца да вялікага паветранага шара і запускаецца ў паветра. Радыёзонды паднімаюцца на вялікія вышыні. Адзін такі зонд падняўся на вышыню больш 20 кілометраў. У радыёпрыёмнай абсерваторыі фіксіруюць тыя ўмоўныя сігналы, якія знакамі Марзе прымаюцца з вышыні. Так атрымліваюцца даныя тэмпературы паветра, вільготнасці, ціску... Даныя гэтыя заносяцца ў «пратакол прыёму» і некалькі разоў на дзень перадаюцца ў бюро прагнозаў, а адтуль паступаюць у розныя ўстановы.

Вечар. Зараз у паветра паднімецца чарговы радыёзонд. Ужо вынеслі белы шар, старанна праверылі радыёпрыборы, настроілі на кароткую хвалю прыёмнік. І вось шар з радыёперадатчыкам узляцеў у блакітную прастору. Хутка мы даведаемся аб тэмпературы на пэўнай вышыні, аб вільготнасці, ціску, кірунку ветру.

Вялікую навуковую і практычную каштоўнасць мае вывучэнне нагрэву паветра на вышыні 3,5 кілометра пад уплывам кароткахвалевай радыяцыі сонечнай энергіі.

...16 разоў у суткі, заўсёды ў адзін і той-жа час, гідраметэастанцыя абсерваторыі, якой прысвоена назва «станцыі выдатнай якасці», сочыць за надвор'ем і паведамляе атрыманыя звесткі службе надвор'я. А звесткі гэтыя дапамагаюць прагнозу, які так неабходны ў інтарэсах нашай народнай гаспадаркі.

Дзень і ноч нясе сваю пачэсную навуковую вахту калектыў работнікаў Беларускай геафізічнай абсерваторыі. У радах гэтага калектыва нямала маладых даследчыкаў і вучоных. Яны ўмела і настойліва вывучаюць надвор'е.

Я. САДОЎСКІ.

Янка ТАРАСАЎ

# Старэйшы сябра



Майстар Нікалай Колбаў рыхтуецца да заняткаў у вячэрняй школе рабочай моладзі, дзе ён займаецца ў дзевятым класе.

Па шырокай вуліцы рабочага пасёлка крочыць невысокі малады мужчына. У знешнім выглядзе яго няма нічога незвычайнага, аднак сустрэчныя — рабочыя, інжынеры, тэхнікі — вітаюць яго цёпла, з павагай.

Ля двухпавярховага будынка рамесніцкага вучылішча № 10 мужчыну чакаюць дырэктар і загадчык навучальнай часткі. Калі яны ўсе разам уваходзяць у прасторную, светлую аўдыторыю, дырэктар абвяшчае:

— Былы выхаванец нашага вучылішча, лепшы стаханавец лакамабільнага завода Нікалай Максімавіч Колбаў раскажа вам пра сваё жыццё, пра сваю вучобу, работу.

Рамеснікі доўга і гучна апладыруюць. Большасць з іх чыталі пра Нікалая Максімавіча ў газеце, бачылі яго партрэт на заводскай Дошцы гонару... З такім чалавекам вельмі цікава спаткацца, паслухаць, што ён раскажа.

Нікалай Максімавіч акінуў позіркам залу: усё тут знаёма і памятна да дробязі, сам, здаецца, толькі ўчора быў тут вучнем. Вяртаюцца ўспаміны колішніх дзён, і Колбаў гаворыць проста, пачынаючы з першых дзён прабывання ў вучылішчы, на заводзе...

Восем год таму назад яго называлі не Нікалаем Максімавічам, а проста Колем і іншы раз, жартуючы, замест Колбаў — Калабок, — невысокі-ж хлапчук, ціхі, нясмелы.

Тады, неўзабаве пасля вызвалення, фабрыкі і заводы ляжалі ў руінах. Радзіма паклікала працоўных на аднаўленне. Многа моладзі пайшло ў рамесніцкія вучылішчы, каб стаць кваліфікаванымі рабочымі.

А вучыцца тады было нялёгка. Жылі ў часовых, непрыстасаваных інтэрнатах, займаліся ў халодных класах. Нехапала такарных станкоў, і таму большасць вучняў накіравалі ў слясарную групу. Коля-ж марыў папасці ў такарную групу, аднак, калі ён апынуўся перад майстрам, нехапіла смеласці прызнацца ў гэтым. Майстар паглядзеў на Колю, крануў за плячо і коратка сказаў:

— У слясарную!

Коля хацеў пярэчыць, прасіцца ў такарную групу, але разгубіўся, а майстар тым часам быў ужо заняты другім вучнем.

«Не бяда, — вырашыў Коля, — токарам я ўсёадно буду!»



Токар Магілёўскага лакамабільнага завода Нікалай Ярмоленка (справа) знаёміць вучня рамесніцкага вучылішча Эдуарда Васілеўскага са сваім метадам работы.

Фота Ч. Мезіна. (Фотахроніка БЕЛТА.)

Не вельмі ўжо смачна было і тым, хто пайшоў у такарную групу. На кожных шэсць-восем вучняў прыпадаў толькі адзін станок, ды і той зношаны, устарэлай маркі. Лічылася за вялікае шчасце, калі ўдавалася за ўвесь дзень папрацаваць на станку хоць якія поўгадзіны.

Коля часта заходзіў у такарную групу і падоўгу стаяў ля станка, зачараваны гледзячы на імклівы рух загатоўкі пад разцом. Майстру такарнай групы гэта руплівасць хлопца спадабалася. Ён расказваў яму пра работу станка, а потым, у паслявучэбны час, дазваляў зрабіць чарнавую апрацоўку якой-небудзь дэталі.

У напружанай вучобе хутка беглі дні. Коля Колбаў уступіў у члены ВЛКСМ. Пры выпуску з вучылішча «Калабок» атрымаў самы вышэйшы з усіх выпускнікоў — шосты разрад слесара.

З атэстатам рабочай сталасці Нікалай Колбаў прышоў на лакамабільны завод. Прадпрыемства атрымала свой вытворчы профіль — серыйны выпуск 25-сільных лакамабіляў.

Хутка наспела неабходнасць стварыць другую змену, але нехапала станочнікаў. Нікалай Колбаў звярнуўся да майстра цэха Фёдара Мяркулавіча Шышкунова:

— Дазвольце мне перакваліфікавацца на токара!

Майстар ахвотна згадзіўся.

Мара здзяйснялася. Новым зместам напоўнілася жыццё маладога рабочага. Колбаў хутка асвоіў такарны станок навейшай айчыннай маркі. У гэтым дапамагла практыка, якую юнак атрымаў у паслявучэбныя гадзіны ў такарнай групе рамесніцкага вучылішча.

Нястрымна расла выпрацоўка маладога токара. Дзвесце... Двесце пяцьдзесят... Трыста... Чатырыста працэнтаў за змену. Завод тым часам кожны месяц усё больш і больш выпускаў лакамабіляў для народнай гаспадаркі. Усё больш патрабавалася дэталей.

Нікалай Колбаў браў ад станка ўсё, што той мог даць. Зрабіў некаторыя прыстасаванні, удасканальваў метады працы. Чатырыста пяцьдзесят... Пяцьсот працэнтаў нормы. Здавалася, што гэта ўжо мяжа, рубеж, аднак...

Газеты прынеслі вестку пра пачын Генрыха Барткевіча. Ленінградскі токар пераступіў гэты рубеж, адкрыў новыя хуткасці, змяніў пашпарт станка, які яму даецца пры нараджэнні, і ў якім строга абумоўлена максімальная хуткасць.

Пачын Барткевіча ўсхваляваў Колбава. Хлопец меркаваў, прыкідваў, вычэрчваў нешта на паперы.

— Можа атрымацца! Павінна атрымацца!

Зранку ён пабег да майстра на кватэру. Уляцеў да яго ў пакой...

— Што-небудзь у цэху здарылася? — устрывожыўся майстар.

— Не. Вось паглядзіце, Фёдар Мяркулавіч!

Майстра зацікавілі меркаванні маладога токара. Ён згадзіўся прыстасаваць станок Колбава для скарасного рэзання па метаду Барткевіча.

І настаў дзень выпрабавання станка на высокіх хуткасцях. Станок абступілі таварышы Нікалая. Колбаў адчуваў за сваёй спіной іх усхваляванае дыханне. Уключаны матор. Нікалай паступова падвёў к дэталі разец... Металічная стружка пацякла на падлогу...

Усё шпарчэй круціцца загатоўка. Яшчэ некалькі абходаў і яна будзе апрацавана. Свеціцца радасць у вачах Нікалая. І раптам... трэск... Штосьці са звонам паляцела пад станіну. Спыніў станок, глянуў на падлогу, — там валяліся кавалкі разца...

Таварышы ціха разыходзіліся па сваіх рабочых месцах. Нікалай разгублена стаяў над станком, трымаючы ў руках абломкі разца.

«Правал! Ганьба!» На яго плячо мякка апусцілася чыясьці рука. Азірнуўся. Гэта майстар, Фёдар Мяркулавіч.

— Не бядуй, хлапец! Рашыў стаць скарасніком — абавязкова будзеш!

У бібліятэцы Нікалай падабраў літаратуру аб скарасным рэзанні. Памылка хутка стала зразумелай. Патрэбны асаблівыя разцы, з вельмі трывалага сплаву, з асаблівым вуглом заточкі.

Здалі чарцяжы новых разцоў у інструментальны цэх. Выпрабаванні вырашылі праводзіць у начны час, калі цэх не працаваў, — майстар не хацеў хваляваць увесь цэх у выпадку, калі зноў будзе няўдача.

Яшчэ раз агледзелі станок, праверылі правільнасць разлікаў.

— Ну, здаецца, усё добра, — сказаў майстар.— Уключай матор!

Пусцілі станок на халасты ход. Не было ніякіх вібрацый. Паставілі загатоўку, замацавалі яе ў цэнтрах.

Яшчэ і яшчэ раз прагледзелі чарцёж дэталі, якую трэба было апрацаваць. За станок стаў сам майстар.

— Пачынаю з хуткасці рэзання ў дзвесце метраў, — сказаў майстар, плаўна падводзячы разец да загатоўкі.

Пачуўся рэзкі, свідруючы гук. Разец плаўна ўразаўся ў метал. Пабегла, звіваючыся ў спіралі, стружка.

— Пераходжу на трыста метраў, — ціха сказаў майстар.

Шпарчэй закруцілася загатоўка. Стружка набыла цьмяначырвонае адценне. Разец-жа працаваў як трэба!

Праз некалькі хвілін дэталь была апрацавана.

— Ну, цяпер станавіся ты, Коля, — прапанаваў майстар. — Пачынай са ста пяцідзесяці, хуткасць павялічвай паступова.

Юнак уключыў матор. Сто пяцьдзесят метраў... Дзвесце... Трыста... Трыста пяцьдзесят... Чатырыста метраў!..

— Даволі! — збянтэжана закрычаў майстар. — Што ты робіш?!

Але Нікалай не чуў гэтых слоў. Ён быў ва ўладзе тэмпа, нястрымнай, усеперамагаючай хуткасці. Чатырыста пяцьдзесят... Пяцьсот!.. Дэталь на станку злілася ў адну белую, бліскучую пляму, ад вялікай хуткасці здавалася зусім нерухомай.

Майстар хацеў спыніць юнака і не мог, бо і сам быў захоплены магутным, бязмежным тэмпам.

Даволі! Дэталь адточана. На яе роўнай бліскучай паверхні зіхацелі агні цэха, іскрыліся зорачкамі.

Перамога!

Неўзабаве Нікалай Колбаў абвучыў скарасному рэзанню комсамольцаў Васіля Ісакава і Аляксандра Тарасава, нядаўніх выпускнікоў рамесніцкага вучылішча. А потым пад яго кіраўніцтвам у цэху арганізавалася сапраўдная школа скараснікоў.

Жыццё рухалася наперад. Узнікалі новыя вытворчыя пытанні. Знатны токар Сярэдневолжскага станкабудаўнічага завода Васіль Колесаў прымяніў сілавое рэзанне. Авалоданне метадам Колесава супала ў Нікалая Колбава з найвялікшай падзеяй у яго жыцці — уступленнем у Комуністычную партыю. Гэта надала новыя сілы, уліла новую энергію, натхніла на новыя поспехі. Колбаў унёс многа рацыяналізатарскіх прапаноў, якія паспяхова былі ўкаранены ў вытворчасць.

... Узрушаны вярнуўся Нікалай Максімавіч дамоў ад вучняў рамесніцкага вучылішча. Якія здольныя, прагныя да ведаў хлопцы! Літаральна засыпалі пытаннямі! Усё іх цікавіць, да ўсяго хочуць дайсці. Каб не чытаў рэгулярна тэхнічнай літаратуры, на ўсё і не адказаў-бы! Добрая расце рабочая моладзь!

Нікалай Максімавіч уключыў радыёпрыёмнік. Жыццерадаснымі хвалямі разлілася па пакою музыка Чайкоўскага. Запаліў святло. Азірнуўся — на сцяне залаціліся літары грамат Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, Міністэрства цяжкага машынабудавання, ЦК ВЛКСМ, ЦК ЛКСМБ. За стаханаўскую працу, за наватарства, за творчыя дасягненні атрыманы гэтыя высокія ўзнагароды. Яны абавязваюць не спыняцца на дасягнутым, ісці ўперад, увесь час удасканальваць сваё майстэрства.

Нікалай Максімавіч схіліўся над новай кнігай...

**г. Магілёў.**



**Уладзімір ШЫЦІК**

# СЯБРОЎСТВА

**Апавяданне**

Мал. В. Бундзіна.

Цяпер мы зноў сябруем. А не так даўно ўсе думалі, што нашай дружбе прышоў канец.

З Пятром Сідаровічам мы пазнаёміліся яшчэ ў Магілёве, калі ехалі ў Мінск, у рамесніцкае вучылішча. І амаль адразу пасябравалі. Было ў ім нешта такое, што прываблівала нас да яго. Здаецца, такі-ж, як і мы, а гаварыць пачне — дзіву даешся, адкуль ён так многа ведае і так складна гаворыць...

А потым нас з Пятром на адзін завод накіравалі — станкабудаўнічы. Я трапіў у звычайныя токары, а ён у прадольна-стругальшчыкі папрасіўся.

— Памеры, — кажа, — мяне цікавяць. Ёсць дзе размахнуцца.

Іншы раз майстар яму тлумачыць:

— Ты, Сідаровіч, вось так гэтую станіну апрацоўвай.

Ён слухае, слухае, а як пачне працаваць, дык усё стараецца пасвойму зрабіць.

— Мо' прасцей выйдзе, — гаворыць.

Часам хто-небудзь заўважыць:

— Што ты мудруеш, Сідаровіч, ты і так працэнтаў, бадай, больш за ўсіх даеш?

А ён у адказ:

— Не магу ў поўсілы працаваць.

Добра ўмее Пятро працаваць! Два гады ўжо спаборнічаю з ім, а ніводнага разу не перамог. Яму дзве нормы выканаць, — што піцьдаць. Паспрабуй, уганіся за такім!

Так мы і дружылі з ім: працавалі ў адным цэху, у дзевятым класе разам вучыліся, іншы раз у кіно ці тэатр сходзім, а прыдзем у інтэрнат — спрэчак не абярэшся. Не паміж сабой, а пра кіно або пастаноўку, а то і проста пра кнігу, якую Пятро ўбачыць у каго-небудзь з нас...

Ганарыўся я нашым сяброўствам, хоць аднойчы мне ад Пятра і дасталася на комсамольскім сходзе. Неяк прапусціў я заняткі гуртка тэхмінімума. Пятро спачатку мне сам гэта заўважыў. Я адмахнуўся: не бяда, дружок, працую я не горш за астатніх! А Пятро на комсамольскім сходзе і выступіў: «Сцяпан Карбавец футболам занадта захапляецца, дзе яму ў перадавіках хадзіць!»



Крыўдна мне стала, але што зробіш, праўда ўсё гэта. З-за футбола я і рабоце стаў менш увагі аддаваць.

Толькі не праз гэта ледзь не парушылася наша дружба.

Працавала ў нашым цэху дзяўчына. Прыгожая. І работа ў яе адказная — наладчыца. Бегае па цэху ад станка да станка, толькі і бачыш рожкі яе вялікіх чорных кос з-пад хусткі... Хлопцы хоць часам і жартавалі: «Табе, Натачка, косы расці не даюць: да нізу цягнуць!» Але, бадай, многіх з іх яны за сэрца краталі.

Мы з Пятром неяк не заўважалі дзяўчыны. Хіба толькі пажартуем, калі хто з нашых хлопцаў у палон да яе часам трапіць. Ну, што з таго, што прыгожая? Ці мала добрых дзяўчат у нас у цэху! Вунь іх колькі, і працуюць нядрэнна, і актывісткі. Толькі здарылася аднойчы, што зусім па-другому мы паглядзелі на Натачку.

Часта выступала Натачка Скварцова на комсамольскіх сходах, на цэхавых. Нічога не скажаш, востры язычок у дзяўчыны, што разец на нашым станку. Асабліва майстру аднаму даставалася. І ўсё за моладзь. А ён, якбы сказаць, такі ўжо закаранелы чалавек быў: калі табе вечарам у школу ісці, абавязкова знойдзе якую-небудзь работу ды яшчэ гэтак іранічна скажа: «Ну, інжынеры, вось вам балванка, дык на ёй і праходзьце вашы навукі». А потым і дадасць, калі хто паспрабуе паправіць яго: «Мы навук не праходзілі, але таксама ў людзі выйшлі».

Да гэтага мы неяк прызвычаіліся і маўчалі. А тут раптам усё пайшло наадварот. Аднаго разу разгортваем газету і бачым артыкул, а пад ім подпіс — «Н. Скварцова». Вельмі моцна майстру дасталася, а потым, відаць, і заводскае начальства ўмяшалася, і вучоба наша пайшла лепш. Трапна Натачка пра майстра напісала, усім гэта спадабалася. Аднак нас з Пятром уразіла іншае. З артыкула мы даведаліся, што гэтая

дзяўчына завочна на літаратурным факультэце займаецца.

Пятро аж узгарэўся:

— Во малайчына!

Потым нечакана задумаўся крыху і сказаў:

— Каб у політэхнічным вучылася, я не здзівіўся-б, ну, зусім не. А тут на табе.... — і паківаў галавой.

Я гэтак не думаў, але праз некаторы час адчуў, што з'явілася ў мяне таксама нейкая зацікаўленасць да Натачкі. Працую, працую, а сам усё паглядаю, дзе бегае ён, гэты «літаратар». Так мы з Пятром цяпер называлі дзяўчыну.

А калі Скварцова зрабіла даклад пра Маякоўскага ды яшчэ і на ўсе пытанні нашы адказала, Пятро не вытрымаў і пасля вечара пайшоў за Натачкай.

— Трэба сёе-тое аб паэзіі высветліць, — растлумачыў ён мне.

Ну, вядома, пайшоў ён не адзін. Не мог-жа я сябра пакінуць. Так мы і хадзілі з таго часу: яны размаўляюць, а я іду і маўчу. Спачатку цікавіўся іх размовамі, а потым злаваць пачаў, і на яе і на Пятра. Крыўдна мне было, што я нібы з боку-прыпёку сярод іх. Ды і Пятро пачаў увечары некуды знікаць. Здаралася, што цэлы тыдзень не ўбачыш. Не адразу ўцяміў я, што паміж імі асабістыя ўзаемаадносіны ўзніклі. Інакш не запрашаў-бы Натачку ў кіно. Яна, праўда, ніколі не хадзіла са мною, усё аджартоўвалася, а ў апошні раз проста сказала:

— Не магу, Пятро пакрыўдзіцца.

Цяжка мне стала, я і сам увесь час пра Скварцову думаў... І на Пятра раззлаваўся. Сябра называецца, а як трапілася дзяўчына, дык і ўсё забыў. Таго я не думаў, што сам на яго месцы мо' яшчэ горшым быў-бы.

Пятро часам загаворыць, нібы нічога і не здарылася. Яно і сапраўды нічога незвычайнага не здарылася, але я ў адказ толькі буркну што-небудзь, а то і падкалоць стараюся.



Тым часам і расклеілася наша сяброўства. А Сідаровіч угару пайшоў. Відаць, натхніла яго каханне Натачкі: першае месца ў горадзе па сваёй прафесіі заваяваў, лепшым стругальшчыкам стаў. Але і канкурэнты ў яго былі! Трэба было добра старацца, каб першынства трымаць. Вось і надумаў Пятро выпрацоўку павялічыць. Нейкія спробы ў яго і раней былі. Накіроўваючыя плоскасці стругальных станкоў ён ужо апрацоўваў двума супартамі адначасова. Такі-ж намер у яго быў і наконт прывалачных плоскасцей.

Я ведаў, што ў яго не клеіцца нешта з гэтай справай. Раней мы заўсёды разам, удваіх рабілі, і здаралася, што мае парады таксама прыносілі карысць. Але цяпер... Не! Хай сам разбіраецца...

Аднак на сэрцы было неспакойна. У абедзенны перапынак, калі Пятро звычайна корпаўся са сваім вынаходніцтвам, я блукаў па цэху і здалёк назіраў за ім.

Пятро ўстанаўліваў два разцы, запускаў адначасова абодва супарты. Але-ж, самі ведаеце, стругальны станок вялікі, і пакуль аббяжыш яго ад аднаго супарта да другога, час пройдзе, і ніяк не ўсочыш за разцамі. Вось і рабі, як хочаш!

Ужо колькі дзён біўся ён з гэтымі супартамі, і ўсё без выніку. Мне так і карцела падыйсці, сачыць па чарцяжу, уключаць і выключаць станок, разам з ім хваляваліся, шукаць. Але ў глыбіні душы сядзела здрадніцкая думка: «Хай паспрабуе, гэта не за дзяўчынай бегаць, тут не пабяжыш», і я усё больш і больш аддаляўся ад сябра.

Аднойчы я сядзеў у кіно. Паказвалі хроніку аб рабоце перадавых мінскіх ткачых-многастаночніц з тонкасуконнага. Абыякава пазіраў я на экран, бо на сэрцы было неяк крыўдна. А там дзяўчына хадзіла ад станка да станка і па чарзе запускала іх. Чуеце, па чарзе!

«Што, каб...» — раптам узнікла думка, і я нават спалохаўся, да таго ўсё здалося простым. Штурхаючы гледачоў, я вышаў з залы.

У інтэрнаце Пятра не было. Я ўбачыў яго ў цэху каля станка, які ў вячэрнюю змену быў не заняты. Побач з ім над чарцяжом схілілася Натачка... Увесь мой запал адразу прапаў. «Тут і без мяне ёсць каму...» Я павярнуўся да выхаду, а на ўспамін прышла адна гісторыя з часопіса, якую мы чыталі разам з Пятром. У амерыканскай зоне акупацыі Германіі на нейкім заводзе рабочы знайшоў спосаб удвая павялічыць прадукцыйнасць працы на сваім станку, і ён, каб астатнія не даведаліся аб яго прыстасаванні, абгарадзіў свой станок фанерай.

Мо' і мне такое зрабіць? Ад гэтае думкі соромна стала, брыдка. Потым я ад сораму забыўся пра Натачку, яе каханне да Пятра. Памятаю толькі, што я гаварыў надзіва спакойна:

— Спачатку запусці адзін супарт, а праз некаторы час другі... Разцы да выступаў падыйдуць у розны час, і можна паспець іх падправіць, спачатку адзін, затым другі.

Потым Пятро шчыра-шчыра абняў мяне і нешта такое сказаў, але што, я добра не разабраў. Па вачах бачыў, што словы былі сяброўскімі.

# Сусветны рэкардсмен

Лабаранту Мінскага радыёзавода Яўгену Барысевічу дваццаць адзін год.

Яшчэ будучы вучнем VII класа Пінскай няпоўнай сярэдняй школы № 3, Яўген зацікавіўся авіямадэльным спортам і прышоў у Пінскі палац піянераў, дзе авіямадэльнай лабараторыяй кіраваў Яўген Іванавіч Смолка. Там ён убачыў, як старанна працуюць канструктары «малой авіяцыі», і папрасіўся запісаць яго ў гурток.



Сусветны рэкардсмен па авіямадэльнаму спорту Яўген Барысевіч.

Увесь вольны ад школьных заняткаў час Яўген Барысевіч праводзіў у лабараторыі над мадэлямі, а то і дома, карыстаючыся самым прымітыўным інструментам. Складны нож, пілачка, гэблік, напільнік — вось пералік тых інструментаў, пры дапамозе якіх ствараліся ім авіямадэлі. Гэтае захапленне не пашкодзіла яму паспяхова закончыць сямігодку, паступіць у Беларускі электратэхнікум сувязі і, таксама паспяхова закончыўшы яго, стаць добрым спецыялістам-радыётэхнікам.

Не заўсёды былі ўдачы ў юнака. Нярэдка здараліся выпадкі, калі мадэль пасля ўзлёту хутка губляла вышыню, падала на зямлю і ламалася. Толькі няўдачы не палохалі авіямадэліста. Ён будаваў другую, трэцюю мадэль, дабіваўся свайго.

Не гледзячы на тое, што Яўген Барысевіч пачаў займацца авіямадэлізмам з 1948 года, ужо ў наступным годзе ён удзельнічаў у Рэспубліканскіх спаборніцтвах у Мінску і заняў другое месца па тыпу фюзеляжных мадэлей самалётаў з гумавым маторам. У 1950 годзе ён удзельнічаў ва Усесаюзных авіямадэльных спаборніцтвах і заняў пятае месца па тыпу фюзеляжных мадэлей самалёта з механічным рухавіком на таймеры (абмежаваны палёт) на якасць планіравання. На тых-жа спаборніцтвах ён зрабіў запуск мадэлі на працягласць палёту, якая пратрымалася каля 110 кіламетраў.

У 1952 годзе Яўген Барысевіч пабудаваў фюзеляжную мадэль з механічным рухавіком уласнай канструкцыі для ўстанаўлення рэкорда на далечыню.

На XIII Рэспубліканскіх спаборніцтвах юнакоў-авіямадэлістаў Беларускай ССР, якія адбыліся ў жніўні 1952 года, Барысевіч выказаў жаданне пусціць сваю мадэль, каб дасягнуць рэкорда далечыні палёту. Ён атрымаў дазвол і, запраўшы мадэль гаручым на шэсць гадзін палёту, у 18-00 14 жніўня вышаў на старт.

Пасля ўзлёту мадэлі ўзляцеў самалёт ПО-2, якім пілатыраваў лётчык Аляксандр Быкаў, для нагляднання за палётам мадэлі з мэтай фіксацыі часу яе прызямлення.

Мадэль параўнаўча хутка набрала вышыню: 1 000, 2 000, 3 200 метраў. На гэтай вышыні ў 20 гадзін 30 мінут у раёне Беразіно, у 100 кіламетрах ад Мінска, лётчык яе пакінуў у сувязі з наступленнем начной цемры. Самалёт прызямліўся на аэрадроме, і лётчык далажыў аб гэтым галоўнаму суддзі. А што-ж з мадэллю? Дзе яна прызямліцца? Гэтыя пытанні хвалявалі суддзяў і самога Яўгена Барысевіча. На стварэнне-ж яе затрачана столькі працы і часу! З нецярплівасцю чакаў ён звестак аб лёсе сваёй мадэлі.

Але не доўга прышлося чакаць вестак. Калгаснікамі сяла Дзям'янава Пачэпскага раёна Бранскай вобласці Наздра і Каўшовым мадэль была знойдзена ў 23 гадзіны таго-ж дня ў спраўным становішчы і дастаўлена імі дырэктару школы. У рэспубліканскі аргкамітэт Добраахвотнага таварыства садзеяння арміі, авіяцыі і флоту раніцай 15 жніўня паступіла тэлеграма наступнага зместу:

«Мадэль 92 з маторам АММ-4 прызямлілася 14 жніўня ў 23 гадзіны і спраўная. Месца пасадкі сяло Дзям'янава Пачэпскага раёна Бранскай вобласці. Дырэктар школы Алешчанка».

Колькі было радасці, калі Яўген даведаўся аб гэтым!

Суддзя па авіямадэльнаму спорту Усесаюзнай катэгорыі таварыш Малік і суддзі XIII Рэспубліканскіх беларускіх спаборніцтваў авіямадэлістаў устанавілі далечыню палёту мадэлі па прамой 378 кіламетраў 756 метраў і гэтым зафіксіравалі дасягненне авіямадэліста Яўгена Барысевіча як новы рэкорд па авіямадэльнаму спорту.

10 лютага г. г. у адрас Цэнтральнага аэраклуба СССР ім. Чкалава ад Міжнароднай авіяцыйнай федэрацыі (ФАІ) паступіла паведамленне аб зацверджанні дасягнення савецкага авіямадэліста Яўгена Барысевіча ў якасці абсалютнага сусветнага рэкорда. Дасягненне Барысевіча перавысіла папярэдні абсалютны рэкорд па далечыні палёту па прамой для мадэлей усіх тыпаў, а таксама сусветны рэкорд па далечыні для мадэлей з механічным рухавіком.

За ўстанаўленне абсалютнага сусветнага рэкорда ФАІ ўзнагародзіла Яўгена Барысевіча дыпломам. Адначасова Камітэт па справах фізкультуры і спорту пры Савеце Міністраў СССР узнагародзіў яго дыпломам першай ступені за ўстанаўленне Усесаюзнага рэкорда.

Яўген Барысевіч не спыняецца на дасягнутых поспехах. Цяпер ён пачаў працаваць над больш складанай мадэллю з разлікам палёту працягласцю на 8 гадзін.

Тэкст і фота Н. ГАЦКО.

Людвік **АШКЕНАЗІ**



# Зарава

**Апавяданне**

Мал. А. Волкава.

Прышоў час, калі раптам усе пачалі заўважаць, што валасы ў майстра Станіслава Брабеца пасівелі, і электракардыёграф у заводскай паліклініцы паказаў, што сэрца ў яго здае. Аднойчы ён упаў каля печы на калені і не здолеў падняцца сам. Твар яго пабялеў, пакрыўся потам.

Трыццаць год хадзіў Брабец у начную змену. Уначы варыў сталь, а ўдзень спаў. Праходзілі гады — адыходзілі сілы. Ці не пара адпачыць старому?

Станіслава накіравалі ў Падэбрады. Ён прымаў вуглекіслыя ванны і глядзеў на замак караля Юрыя, які заснаваў гэты курорт. У садзе білі фантаны і кусаліся камары.

Брабец маляваў кіем на пяску дзівосных птушак і звяроў, катаўся на параходзе па Лабе і з тугой глядзеў на хвалі, якія разбягаліся за кармой. Лаба нагадвала старому майстру іншыя рэкі — гарачыя рэкі металу...

Станіслаў уцёк з санаторыя. З вакзала ён ішоў пешшу і, шчаслівa ўсміхаючыся, удыхаў дымнае паветра роднага горада. Куды там Падэбрады — садочкі ды пенсіянеры!.. Вось горад, дык горад — шумлівая, вясёлая Острава!

Дома былі, вядома, здзіўлены нечаканым зваротам Станіслава, а заводскі ўрач, на наступны дзень выслухаўшы яго, паківаў галавой. Справы былі не выдатныя, і ён атрымаў наганяй за ўцёкі з Падэбрад.

І тут мы павінны сказаць, што ў гэтых уцёках вінавата была не толькі нуда, якую наганялі акуратна падстрыжаныя падэбрадскія газоны. Была іншая прычына, не менш важная.

У разгары падэбрадскай ідыліі Станіслаў атрымаў ад сына Томаша ліст:

«Дарагі тата! Мы часта цябе ўспамінаем. Спадзяемся, што лечышся як след. Мы сумуем па табе. Я канчаткова вырашыў стаць, як і ты, сталяварам. Ты, тата, мяне не адгаварвай, я ведаю, што раблю.

Матч у нядзелю быў нецікавы, добра, што ты яго не бачыў. Ты-б толькі сапсаваў сабе настрой. Антош забіў гол у свае вароты. Мазіла! Мы вельмі сумуем без цябе. Не пі многа піва. Цалую цябе. Твой сын Томаш».

З-за гэтага ліста і ўцёк Станіслаў з Падэбрад.

Справы сына патрабавалі тэрміновага бацькоўскага ўмяшання.

Было калісьці такое правіла ў беднякоў: сядзеў бацька на шавецкай «лаўцы» — садзіўся на яе і сын. У кожнага было сваё месца. Перадаваліся ў спадчыну шыла, кравецкая ігла або шахцёрскае кайла. Калі надыходзіў тэрмін, браў шахцёр свайго сына за руку і спускаўся з ім у глыбіню зямлі. І зусім няважна было, падабалася гэта сыну ці не. Яму, магчыма, сніліся скрыпкі і флейты, у касцёле яго прымушаў замiраць рокат аргана, ён падоўгу разглядаў у вітрынах магазінаў бліскучыя акардыёны. Сын усёй душою імкнуўся да музыкі, але бацька вёў яго не да сівых прафесараў у кансерваторыю, а ў шахцёрскую клець.

Дорага каштаваў працоўны хлеб. Якая ўжо тут музыка!..

Так губляліся для чалавецтва Бетховены, у той час, як бяздарныя дочкі з «добрых дамоў» вяла разыгрывалі гамы.

Сёння ўсё па-інакшаму, і не будзем падрабязна спыняцца на гэтым. Уменне іграць на раялі ўжо не з'яўляецца часткай пасагу, а універсітэцкі дыплом — адлюстраваннем татавага бумажніка. Ніхто цяпер не перашкаджае сыну шаўца стаць вучоным-арыенталістам, калі ёсць у яго да гэтага схільнасць, а дачцы шахцёра — опернай спявачкай. Або, скажам, сыну сталявара — урачом...

І тут мы дабраліся да самых патаемных дум старога Брабеца. У кожнага з нас ёсць патаемныя думы. Станіслаў бачыў у марах, як сын яго, Томаш, у белым доктарскім халаце і лёгкіх поўбацінках абыходзіць палаты ў бальніцы...

Дадому прыязджаў-бы не проста Томаш, а доктар Брабец! Маці брала-б з рук у яго чамаданчык, і ён адразу ішоў-бы да ўмывальніка — мыць рукі... Вось як думаў стары Брабец аб сваім сыне, вось якую будучыню яму загадзя вызначаў. Ён хацеў, каб сын у яго быў урачом.

Сам Станіслаў быў верны свайму званню сталявара. Кожнай выплаўцы сталі ён аддаваў сваё сэрца. І гэта былі нядрэнныя выплаўкі! Брабец любіў сваю справу і ганарыўся ёю. Але ён хацеў, каб сын яго стаў урачом.

Стары вярнуўся з Падэбрад, каб выратаваць становішча, але гэта не дало карысці. Сын ужо зусім дарослы: яму споўнілася семнаццаць год. І што яму адказаць, калі ён скажа: «Перажыткі капіталізма, тата...»? Вось як навучыліся гаварыць, чортавы дзеці! Што ім адказаць?

Станіслаў моўчкі хадзіў вялікімі крокамі ўзад і ўперад па пакою. Ён успамінаў, колькі разоў Томаш мяняў свае планы. У тры гады ён хацеў быць кандуктарам. У пяць год заявіў, што стане маракoм, пускаў папяровыя лодкі ў гарадскіх лужынах і насіў шапку з надпісам «Марскі воўк». Калі яму споўнілася дзесяць год, ён марыў стаць вынаходцам і, нарэшце, у трынаццаць год вырашыў, што сапраўднае яго прызванне — медыцына.

Тры дні таму назад Томашу споўнілася семнаццаць год. Ён атрымаў у падарунак веласіпед і зборнік вершаў Іржы Волькера, і стары Брабец не мог налюбавацца сынам. Як усё-такі дзіўна! Ці даўно ён упершыню сказаў «мама»? У яго быў кірпаты носік і светлавалосая галоўка. Ён з радасцю гуляў з цацкамі, баяўся коз і гусей, рос, рос і раптам, калі ласка: «Перажыткі капіталізма!»

Але не такі цяпер час, каб станавіцца ўпоперак дарогі сваім дзецям. Усе шляхі табе адкрыты, ідзі, куды хочаш, выбірай на здароўе, што табе падабаецца.

І паступіў малады Брабец у заводскую школу металістаў. А бацька яго атрымліваў пенсію, корпаўся ў гародзе і чытаў газеты. Але паранейшаму быў ён неспакойны, рухавы. І ніяк не мог пазбавіцца сваёй дзіўнай звычкі, аб якой мы вам раскажам.

У дзве гадзіны ночы Станіслаў Брабец раптам прачынаўся. У мінулым яго жыцці гэты час меў асобае значэнне.

У гэты час ён прабіваў адтуліну ў лётцы, і адтуль вырывалася імклівае, як горны паток, полымя. Роўна ў дзве гадзіны пачыналася выдача металу.

Гэтая пара прайшла, і не варта было-б вяртацца да яе, калі-б не было ў Станіслава такой звычкі.

Сярод начы ў спальні Брабецаў успыхвала запалка: Станіслаў шукаў хатнія туфлі. «Не абярні зноў крэсла, стары непаседа», — гаварыў ён сам сабе, прабіраючыся на цыпках да акна. Ціха адчыняў ён акяніцы і глыбока ўдыхаў начное паветра. Чыркнуўшы яшчэ адной запалкай, ён асвятляў гадзіннік. Стрэлкі паказвалі дзве гадзіны ночы — можна было-б і не правяраць.

Жонка рабіла выгляд, што спіць. Між імі існавала маўклівая дамоўленасць. Марыі Брабецавай дазвалялася прачнуцца не раней вызначанага часу.

Станіслаў стаяў каля акна і чакаў. Вясной быў чуваць шум Остравіцы, і ў паветры, якое прапахла вугалем і жалезам, адчуваўся водар пыльцы кветак. Увосень падалі зоркі, скатваючыся кудысьці ў цемру. Зімой было ціха і бела. Іншы раз падаў снег...

Ён чакаў, як звычайна, запаветнай хвіліны, аднаго імгнення ночы, некалькіх крокаў хутка праходзячага часу... А гадзіннік цікаў. Уперад, час! Уперад! І заўсёды нечакана на цёмным небе ўспыхвала зарава. Іншы раз у яго было светлаблакітнае адценне, часам было яно алае ці аранжавае, як месяц, які прадракае непагадзь.

У гэты момант пускалі плаўку. Калі зарава святлела і гасла, Станіслаў ціха вяртаўся на ложак.

Тут ужо можна было прачнуцца яго жонцы Марыі Брабецавай.

— Свяціла? — пыталася яна

— Свяціла! — адказваў Брабец.

— Зноў курыш? — заўважала жонка пасля працяглага маўчання.

Але агеньчык яго люлькі замест адказу падміргваў ёй у цемры чырвоным вокам.



Жывёлаводы калгаса «Савецкая Беларусь» Мінскага раёна з года ў год датэрмінова выконваюць дзяржаўныя планы паставак мяса і малочных прадуктаў. Звышпланавую прадукцыю дзяржава купляе ад калгаса па новых, павышаных цэнах. За набытыя сродкі калгас прыдбаў тры грузавыя аўтамашыны і інвентар для фермы. На здымку: **маладыя жывёлаводы калгаса — даярка Зося Маўчан і брыгадзір-камсамолец Барыс Мільгуй.**

Фота А. Дзітлава.



**На Віцебскім дывана-плюшавым камбінаце расце соцыялістычнае спаборніцтва за павелічэнне выпуска прадукцыі выдатнай якасці. Калектыў рабочых і служачых камбіната абавязаўся да канца гэтага года даць краіне 35 тысяч квадратных метраў дываноў і дарожак звыш плана. Высокіх паказчыкаў дабіўся памочнік майстра аддзелачнага цэха Леанід Пятровіч Тарасенка. Яго выпрацоўка за змену складае паўтары нормы.** На здымку: **Л. П. Тарасенка і машыніст М. А. Петухова каля стрыгальнай машыны.**

Фота М. Рэбі. (Фотахроніка БЕЛТА)

— Спі, старая! — мармытаў Брабец сонным голасам.
— Ды я-ж сплю, — шаптала яна, але не засынала.
Марыя была ўжо немаладая, але для яе гэты начны час быў парою роздумаў. Яна думала аб тым, што верхні гузік на кашулі мужа вісіць на адной нітачцы — раніцай трэба было яго прышыць — і пара памыць вокны: закапціліся...
Станіслаў даўно ўжо спаў, а жонка ўсё глядзела ў цемру і спагадліва ўсміхалася. «Ты падымаешся ў дзве гадзіны. Калі ласка, уставай сабе. Горш было-б, калі-б ты дадому вяртаўся ў дзве гадзіны ночы»...
Цяпер стары сталявар Станіслаў Брабец спіць начамі спакойна і толькі зрэдку пераварочваецца з боку на бок. Начны непакой яго скончыўся. І сапраўды, навошта старому чалавеку тырчэць перад акном, быццам маладой дзяўчыне-прыгажуні?
Здарылася гэта вось як.
Аднойчы вярнуўся малады Брабец са школы. Да гэтага часу мара пра белы доктарскі халат была ўжо даўно забыта. Станіслаў абняў яго ўжо не толькі як сына, але і як сталявара.
Слухаючы прафесіянальныя разважанні Томаша, стары пасмейваўся, а часам і злаваўся, асабліва, калі сын гаварыў што-небудзь такое:
— Праходзілі мы, тата, некаторыя пытанні рэнтгенаскапіі металаў. Але гэтага табе не зразумець!
Або:
— Калі няма дастатковага кіпення металу, — добрых вынікаў нечакай...
Вось табе, калі ласка! Рэнтгенаскапія металаў! Бацьку гэтага не зразумець, здзяцінеў стары! Станіслаў нізка кланяўся сыну і насмешліва пытаўся:
— Ці не вы гэта будзеце майстар-сталявар Брабец? Ах, хлапчук!
Калі Станіслаў быў вучнем, галоўны яго клопат заключаўся ў тым, каб піва для майстра дастаткова ахалоджвалася. А тут вось табе, калі ласка: «Калі недастатковае кіпенне, добрых вынікаў не чакай!»
Добра, паглядзім, што атрымаецца, калі ты застанешся адзін-надзін з печчу! Паслухаем, што ты тады скажаш. Рэнтген!
Пакуль ішлі толькі размовы, было яшчэ цярпіма. Але вось аднойчы з'явіўся Томаш, іх Томаш, худзенькі, з хлапечымі плячыма і светлым пушком на шчоках, і сказаў:
— Сёння ў нас першая плаўка сталі.
— У каго гэта «ў нас»? — насцярожыўся Станіслаў Брабец.
— У маладзёжнай брыгады, — растлумачыў Томаш. — Ты павінен яе ведаць: яна-ж працуе на тваёй печы!
— На маёй? — ціха перапытаў стары і больш не сказаў ні слова.
Толькі ў час абеду ён хмурна зірнуў на сына.
— Хто пускае плаўку?
— Я, — сказаў Томаш. — Сёння ўначы.
Кароткі адказ Томаша быў зусім недарэчы. Калі сын адыходзіў, Станіслаў крыкнуў яму ўслед з акна:
— Калі будзеш пачынаць завалку, пагледзі, ці добра прагрэта печ!
— Добра, тата, — адказаў Томаш і знік у цемры.
Доўга яшчэ гаварылі бацька з маці аб тым, што ўрачоў многа, як гарнякоў, а добрага сталявара днём з агнём не знойдзеш. Ды і гэты самы рэнтген — таксама не простая рэч. Ці ведаеш ты, маці, што пры дапамозе рэнтгена вывучаюць неметалічныя часцінкі? Не ведаеш? Ды адкуль-жа табе ведаць?
Яны леглі і прачнуліся роўна ў дзве гадзіны. Станіслаў Брабец засвяціў запалку, надзеў туфлі і накіраваўся да акна. Ён адчыніў акяніцы і глянуў на цёмнае неба. З-за хмар выплыў месяц, і святло яго ўпала на цыферблат насценнага гадзінніка. Ён цікаў. Уперад, час! Уперад! Секунда бяжыць за секундай, вялікая стрэлка крыху кранаецца — і хвіліны як не бывала. Адна хвіліна, дзве хвіліны... дзесяць хвілін... Станіслаў Брабец стаяў, выцягнуўшы шыю і чакаў. Мігалі далёка агенькі, і пасвіствалі паравозы.
Прайшла гадзіна, а Станіслаў усё стаяў ля акна і чакаў зарава. Але ніякага зарава не было.
— Што з табой? — запыталася Марыя.
Брабец не адказаў. Шырока расплюшчанымі вачыма ён глядзеў у акно. Неба заставалася цёмным.
Што здарылася? Ён доўга яшчэ стаяў ля акна, потым зачыніў яго і вярнуўся да Марыі. Ён крочыў цяжка і неяк няўпэўнена. Такімі крокамі вяртаецца дадому вучань, даведаўшыся, што яго пакінулі на другі год у класе.
— Свяціла? — запыталася Марыя.
— Не, — адказаў Станіслаў і зноў пайшоў да акна.
Так быў парушаны ўстаноўлены парадак рэчаў.
Марыя ўстала і таксама падышла да акна. Яны трымаліся за рукі і глядзелі на поўдзень, туды, дзе павінна было ўспыхнуць зарава.
Яна — у сіняй начной кофтачцы, якую звязала ўласнымі рукамі. Ён — даўгавязы, худы, у доўгай начной сарочцы і стаптаных туфлях. Яны заслугоўвалі таго, каб для іх успыхнуў самы прыгожы, самы яркі феерверк святу. Няхай-жа асветліць для іх Томаш чорнае астраўскае неба? Але неба заставалася цёмным, толькі зоркі свяціліся на іх...
«Што здарылася? — думаў Станіслаў. — Што там магло здарыцца?» Пасля ён сказаў:
— Дай касцюм, маці, я пайду!
— Куды ты пойдзеш? — спалохалася Марыя. — Ноч на дварэ.
Але паспрабуй угаварыць упартага старога. Ён апрануў паліто, надзеў шапку, узяў свой кій і пайшоў — пайшоў ратаваць свайго сына Томаша.
Убачыўшы Брабеца, вартаўнік здзівіўся:
— Ты куды, Станіслаў? — зацікавіўся ён. — На завод? На завод я цябе пусціць не магу. Не глядзі на мяне гэтак? Я ведаю свае абавязкі.
— Я таксама. Я па сына, — сказаў Брабец і пакрыўджана дадаў: — Ты мяне ведаеш ці не ведаеш?



— Ведаю, — адказаў няўпэўнена вартаўнік.
— Не, ты не ведаеш, хто я!
— Станіслаў.
— Не, дарагі мой. Я стары дурань.
Вартаўнік засмяяўся.
— Ну, пусці! — прашаптаў Станіслаў Брабец, і вартаўнік паглядзеў на яго перапалоханым позіркам.
— Толькі не затрымлівайся.
Брабец быў вельмі здзіўлены тым, што ўбачыў. Гэта быў звычайны малюнак, які ён штодзённа назіраў на працягу трыццаці год: свістала пара, грымелі краны, і асляпляльнае святло металу ўспыхвала і гасла.
Усё было на сваім месцы: і печ, і Томаш.
Станіслаў з палёгкаю ўздыхнуў. Дзіўным тут было толькі з'яўленне яго самога, Станіслава Брабеца, які ішоў з курортным кіем сярод грукату і шыпення. Томаш і ўся яго брыгада здзіўлена глядзелі на старога. Акінуўшы panікліvым позіркам цэх, Брабец запытаў сына:
— Ну, як, Рэнтген, пацееш?
— Пацею, — усміхнуўся Томаш. — А ты што тут забыў?
Ён адпіў глыток піва і працягнуў кубак бацьку.
— Палюбуйцеся, які сталявар! Калі будзе плаўка, майстар? — запытаўся насмешліва Станіслаў Брабец. — Я прышоў пагледзець, ці не пацячэ ў вас замест сталі манная каша.
— Мы першую плаўку ўжо закончылі, — прамовіў Томаш, — і хутка скончым другую.
— Як гэта — другую? — перапытаў Станіслаў. — Калі-ж была першая?
— Апоўначы, — адказаў Томаш. — Ты праспаў, тата. Ты ведаеш, што такое скарасная плаўка, тата?
— Як ты са мной размаўляеш?! — раззлаваўся Станіслаў Брабец.
— Нам на плаўку трэба менш часу! — сказаў Томаш. — Мы працуем па-навуковаму. Мы — скараснікі. У цябе іншая школа...
«Вы толькі падумайце! — сам сабе разважаў Брабец, — іншая школа... Свет, свет, які ты дзіўны! Мы чакалі зарава, маці, яно нас апярэдзіла. Мы яго праспалі. Зусім проста і звычайна мы яго праспалі, і зарава нас апярэдзіла».
— Ты не галодны? — запытаўся Станіслаў у сына. — Я прынёс табе бутэрброды.
— Галодны! — усклікнуў Томаш. — Ды яшчэ як!
З таго часу Станіслаў Брабец больш не прачынаецца ўначы, каб паглядзець на зарава сваёй печы. «Хіба іх, скараснікоў, дагоніш? Ты прачнешся ў гадзіну — яны выдадуць плаўку ў дванаццаць, ты прачнешся ў дванаццаць — яны выдадуць у адзінаццаць».

Пераклад з чэшскай мовы.



Галоўны корпус Шчучынскай раённай больніцы Гродненскай вобласці.

Павел ТОРМАСАЎ

# Для народа

Нарыс

Калгаснікі вярталіся дадому. Яны ішлі па абмытай асеннімі дажджамі дарозе. Парывісты вецер зрываў з дрэў падсохшае лісце і нёс, каціў яго па скошаных, даўно апусцелых палетках. Сям-там узвышаліся вялізныя сцірты саломы.

Дзяўчаты спявалі. Іх задорная песня разлівалася па ўсяму наваколлю і паступова замірала. У дамах ужо запальваліся агні.

Маладая калгасніца Надзя Міхайлава адчыніла весніцы і зайшла на двор. Насустрач ёй выбег хлопчык. Маці абняла яго, пацалавала і, узяўшы за руку, накіравалася ў хату.

У гэты вечар сын не ўзяў есці. Ён пачаў скардзіцца, што ў яго баліць галава.

— Таму баліць, што ты, Валодзя, дрэнна ясі, — сказала маці. — Выпі хоць малака, лягчэй будзе.

Валодзя пакаштаваў малака і паставіў шклянку. Ён лёг на ложак.

Ноччу ў хлопчыка паднялася тэмпература. Маці зразумела, што сын захварэў. Адзіны сын...

Што рабіць? Час быў даволі позні, і яна не наважвалася турбаваць доктара. Надзя Міхайлава спадзявалася, што заўтра сыну стане лепш.

Аднак раніцай хлопчыку пагоршала. Ён не змог падняцца з ложка.

Маці хацела ісці ў паліклініку, але раптам у дзверы нехта пастукаў. Хто гэта? Не паспела яна адказаць, як на парозе з'явілася знаёмая постаць урача Марыі Батурчык.

— Доктар! — усклікнула ўзрадаваная маці. — Я збіралася ісці да вас. Захварэў Валодзя.

— Што з ім? Калі гэта здарылася?

Урач паспешліва зняла паліто, выняла з кішэні халата стэтаскоп і, прысеўшы на ложак, пачала слухаць хворага.

Доктар была зусім маладая жанчына сярэдняга росту, з ласкавым тварам. З-пад накрухмаленай шапачкі выбіваліся густыя пасмы светлых валасоў. Сёння яе ніхто не выклікаў. Але медыцынскія работнікі, укараняючы дыспансерны метад абслугоўвання, самі пачалі весці пастаянныя назіранні за насельніцтвам. Яна сама прышла ў хату Надзі Міхайлавай. І вельмі дарэчы.

Маці стаяла ля ложка сына, уважліва назіраючы за кожным рухам і позіркам урача.

Марыя Батурчык зарэкамендавала сябе ў раёне як спрактыкаваны спецыяліст. Яна не спяшалася, хоць добра разумела трывогу маці. Урач помніла вучэнне І. П. Паўлава, што вялікае значэнне для здароўя чалавека мае абкружаючае асяроддзе. Трэба было высветліць усе акалічнасці, якія папярэднічалі захворванню. Батурчык распытала хлопчыка і яго маці пра ўсё, што магло адмоўна падзейнічаць на арганізм Валодзі. Усе гэтыя даныя называюцца ў медыцыне анамнезам. Урач сабрала падрабязны анамнез і старанна выслухала хворага, ёй стаў ясны і дыягназ.

— Пнеўманія, — сказала яна і тут-жа растлумачыла: — запаленне лёгкіх. Прыдзецца пакласці ў стацыянар.

— У больніцу? — спалохаўся Валодзя і заплакаў. Маці моўчкі апусціла вочы. Яна ведала, як раней шмат чалавечых жыццяў забірала гэтая хвароба.

Перад урачом, якая добра разумела становішча сям'і, паўстала новая задача: рассеяць спалох Валодзі, аднавіць у яго душэўны спакой, пераканаць, што ў больніцы яму будзе лепш, чым дома, што ён там хутчэй паправіцца.

Хлопчыку было толькі дзесяць год, ён яшчэ цяжка ні разу не хварэў і не быў у больніцы. Урач не магла не ўлічваць яго дзіцячай псіхалогіі.

— Валодзя, ты дарэмна баішся! У больніцы мы цябе будзем лячыць, ты хутка паправішся і зноў пойдзеш у школу...

Голас Марыі Батурчык гучэў мякка і роўна. Спачатку хлопчык слухаў яе недаверліва, потым сціх, паляжаў спакойна і раптам усміхнуўся...

І вось Валодзя ў больніцы.

У палаце чыста, цёпла і ўтульна. Наўкол нейкая незвычайная цішыня. Нават не чутно нічыіх крокаў: пасланыя на падлозе палавікі скрадвалі стук абутку.

Увайшла дзяўчына з шэрымі вачыма. На галаве ў яе беласнежная хусцінка, на якой ярка гарэў знак медыцынскай сястры. Яна паклала на тумбачку, што стаяла побач з валодзевым ложкам, нейкія паперкі і сказала, што заўтра раніцай у яго будуць браць аналізы.

— Ты не ведаеш, што гэта такое? — спытала дзяўчына.

Хлопчык не ведаў. І сястра пачала расказваць яму аб усім. Яна памятала, што Марыя Батурчык вучыла іх, сясцёр, індывідуальнаму падыходу да хворых, для якіх нічога не павінна быць няясным і незразумелым, ніщто не павінна іх непакоіць.

— Ну, вось... — сказала яна ўрэшце. — А зараз я зраблю лёгкі ўкол, каб панізілася тэмпература і каб табе стала лягчэй.

Позна вечарам Марыя Батурчык, пасля звычайнага абходу, з'явілася ў стацыянары. У больніцу паступіла шаснаццацігадовая Уладзіслава Шарупская, якую прывезлі з вёскі Намейкі. Яна перастала бачыць левым вокам. Заплаканая маці сядзела ў прыёмным пакоі.

Марыя Батурчык уключыла яркае святло, закрыла ў хворай правае вока, а перад левым пачала павольна вадзіць рукой.



У аперацыйнай больніцы. Галоўны ўрач Марыя Паўлаўна Батурчык (на пярэднім плане) рыхтуецца да аперацыі.

— Бачыш?

— Не...

— Даўно гэта ў яе? — звярнулася ўрач да маці.

— З тыдзень. Спачатку вока пачырванела, а цяпер вось.... бяльмо...

Трывожны голас жанчыны задрыжэў.

— Спакойна!.. — сказала ўрач.— Уладзіслава будзе бачыць.

Захворванне было цяжкае. Так званая філіктэна перайшла на рагавіцу вока і закрыла ўсю зрэнку. Для таго, каб скласці план правільнага лячэння, трэба было даследаваць увесь арганізм, ведаць яго ўспрыймальнасць. Хворай быў устаноўлены строгі рэжым адпачынку і харчавання.

Барацьба з хваробамі вачэй даўно захапіла Марыю Батурчык. Яшчэ ў 1951 годзе, калі яна прыехала ў Шчучын з дыпломам Мінскага медыцынскага інстытута, ёй хацелася самастойна працаваць акулістам. Але маладому ўрачу прапанавалі работу па другой спецыяльнасці, і яна згадзілася, бо спецыялістаў нехапала. Праз год яе ўсё-ж такі паслалі ў Мінск, у Інстытут удасканалення ўрачоў, дзе яна на працягу пяці месяцаў спецыялізавалася па хваробах вачэй. Грунтуючыся на навуковым вопыце, цяпер яна беспамылкова вызначала самае складанае захворванне, уладала новымі метадамі ранняй дыягностыкі і лячэння.

Між тым дзесяцідзённы курс лячэння Уладзіславы Шарупскай усё яшчэ не даваў належных вынікаў. Уладзіслава паранейшаму нічога не бачыла на левае вока, і гэта сур'ёзна непакоіла хворую. Пачала хвалявацца і ўрач. Яна выклікала з Гродненскай абласной больніцы вопытнага спецыяліста і пракансультавалася ў яго. План лячэння быў ухвалены, значыцца, трэба чакаць палепшання.

Ішлі дні, напоўненыя пошукамі і творчасцю. Неяк раніцай Марыя Батурчык рабіла абход. Ласкавая і прыветлівая, яна ўвайшла ў палату, дзе ляжаў ужо зусім паздаравеўшы Валодзя. Яму не хацелася ляжаць, але палатная сястра прымусіла яго легчы на ложак перад самым абходам урача. Марыя Батурчык наведала яго і спытала:

— Ну, як маешся, Валодзя?

— Добра, доктар, — весела адказаў хлопчык. — Мне тут вельмі спадабалася. Але-ж у школу трэба!..

Марыя Батурчык усміхнулася. Яна была задаволена, што Валодзя гэтак хутка зжыўся з бальнічнымі абставінамі, — гэта, вядома, і з'явілася адной з прычын таго, што лячэнне ішло паспяхова. Урач яшчэ раз праверыла работу сэрца, праслухала лёгкія. Цяжкая хвароба не пакінула ў арганізме ніякага следу.

— Заўтра можна будзе выпісаць цябе, — сказала яна і, звяртаючыся да сястры, дадала: — Дома трэба будзе весці за ім нагляд.

І вось Валодзя вярнуўся дамоў. А праз некаторы час у больніцу прыйшло пісьмо.

«Дарагая Марыя Паўлаўна! — пісала маці хлопчыка. — Няма слоў, якімі можна было-б выказаць вам сардэчную ўдзячнасць. Мы, жыхары заходніх абласцей Беларусі, добра памятаем, як у часы гаспадарання польскіх паноў гінулі ад усялякіх хвароб людзі, пазбаўленыя медыцынскай дапамогі. А зараз родная Савецкая ўлада праяўляе аб нас і аб нашых дзецях столькі клопатаў! Вы вярнулі жыццё майму хлопчыку, у якога наперадзе гэтак многа радаснага і цудоўнага. Яшчэ раз ад усёй душы дзякую вам!»

Шчучынская раённая больніца, дзе працуе Марыя Батурчык, адна з многіх у заходніх абласцях рэспублікі. І на яе дзейнасці, якая аснавана на дасягненнях самай перадавой у свеце савецкай медыцынскай навукі, можна заўважыць бурнае развіццё народнай аховы здароўя. Яшчэ зусім нядаўна ў ёй не рабілася ніякіх складаных аперацый, не было фізіятэрапеўтычнага лячэння. Зараз медыцынская дапамога ажыццяўляецца па ўсіх спецыяльнасцях — хірургіі, гінекалогіі, хваробах вачэй, дзіцячых хваробах, стаматалогіі. Калгаснікі атрымліваюць рэнтгенаскапію, кварц, солюкс, д'арсанваль, гальванізацыю. Паспяхова ўжываюцца новыя метады лячэння, якія дазволілі рэзка скараціць тэрміны прабывання хворых у стацыянары.

Па прыкладу ўрачоў Чуднoўскага раёна Жытомірскай вобласці калектыў больніцы перайшоў да вышэйшай формы медыцынскага абслугоўвання — дыспансерызацыі. Карыстаючыся гэтым метадам, урачы, фельчары і сёстры вядуць пастаяннае назіранне за станам здароўя людзей у быту і на вытворчасці, дасканала вывучаюць абкружаючае асяроддзе. Новы метад дазваляе праводзіць планавае аздараўленне насельніцтва, весці актыўную прафілактыку захворванняў.

Але бываюць яшчэ выпадкі, калі сельскаму ўрачу даводзіцца ўступаць у барацьбу з цяжкай хваробай чалавека. Іменна так было з Уладзіславай Шарупскай. Дзяўчына знаходзілася ў больніцы ўжо восемнаццаць дзён, аднак левым вокам усё яшчэ не бачыла. Марыя Батурчык аглядала хворую па некалькі разоў на дзень, пакутвала пры пошуках новых фізіялагічных зменненняў. Здавалася, усё было задумана ў лячэнні правільна, а між тым перамагчы хваробу не ўдавалася.

... Сёння павінен прыйсці адказ на ўсе захады, ужытыя маладым урачом. Марыя Батурчык на ўсю ноч застаецца ў палаце ля ложка Уладзіславы.

Раніцай яна зняла з вока дзяўчыны павязку. І тады раптам Уладзіслава імкліва ўзнялася з ложка і радасна ўсклікнула:

— Бачу!

Гэта была перамога. І ўрачу Марыі Батурчык яна прынесла не менш радасці, чым хворай Уладзіславе Шарупскай.

Назаўтра за дзяўчынай прыехала маці. Уладзіслава выбегла на ганак. Радасная і шчаслівая, яна кінулася да маці:

— Мама, я зусім, зусім здаровая! Гэта Марыя Паўлаўна вярнула мне зрок.

Пажылая калгасніца, ахопленая шчасцем, нейкі час не магла вымавіць ні слова. Потым рушыла да Марыі Батурчык, абняла яе і шчыра, ад усяго матчынага сэрца, пацалавала...

... Дамоў Марыя Батурчык прыйшла позна вечарам. Яна не адчувала стомленасці. Іншае пачуццё валодала ёю — пачуццё задаволенасці тым, што і гэты дзень, як і кожны з папярэдніх, не прайшоў дарэмна. Яна, малады ўрач, прынесла карысць людзям, зрабіла для іх усё, што магла.



Марыя Паўлаўна ў час ранішняга абходу хворых аглядае шасцігадовага Франака Янушыка.
Фота П. Наватарава. (Фотахроніка БЕЛТА).

«Так, гэта вельмі высакародная прафесія — прафесія савецкага ўрача!» — думала Марыя Батурчык.

Толькі адно крыху непакоіла, неяк нават хвалявала яе. Сёння прышоў загад абласнога аддзела аховы здароўя. У ім гаварылася, што яна, Марыя Паўлаўна Батурчык, член ВЛКСМ, прызначаецца галоўным урачом Шчучынскай раённай больніцы. А яна-ж — самая маладая па ўзросту сярод усіх медыцынскіх работнікаў лячэбнай установы. Ці зможа яна кіраваць людзьмі, ці хопіць у яе ведаў, вопыту, арганізатарскіх здольнасцей?..

Задумлівая, яна стаяла ля дзіцячага ложка, на якім спала яе маленькая светлавалосая дачушка Танечка. І не заўважыла, як у пакой увайшоў муж.

— Ты ўжо дома! — узрадаваўся ён і зазірнуў Марыі ў вочы. — Пачакай, а аб чым ты гэтак задумалася?

— Ведаеш, мяне прызначылі галоўным урачом...

— Ну, дык віншую цябе!

— А што, калі не спраўлюся...

— З такім калектывам, як у вас, можна ўсё зрабіць!

Сеўшы на канапу, яны доўга абмяркоўвалі, як лепш арганізаваць працу, як кіраваць складанай гаспадаркай больніцы. Калектыў больніцы сапраўды выдатны. Узяць хоць-бы хірурга С. І. Прэснага, тэрапеўта І. М. Халадзіліну, фельчара Т. Я. Бабкіну, медыцынскую сястру О. Н. Рамашку... Яны дапамогуць, на іх можна пакласціся. Трэба толькі не губляць упэўненасці, не адрывацца ад калектыва. І ўвесь час памятаць, што робіш для народа, дзеля яго шчасця.

**Шчучын,**
**Гродненская вобласць.**

І. НІСНЕВІЧ

# Маладыя кампазітары

Знаёмства наша адбылося ў невялікай канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, пасля канцэрта, на якім выконваліся творы маладых кампазітараў. Заўвагі аб выкананых творах, якімі мы абменьваліся, зблізілі нас. У час антракта хлопцы, праўда, яшчэ вельмі нясмела, пачалі расказваць аб сабе. Шмат чаго ў іх прывабным вобліку, у вобліку моладзі, якая толькі пачала сваё жыццё ў мастацтве, падказалі і іхнія творы, што выконваліся на канцэрце. Шмат чаго аб гэтых пачынаючых аўтарах дапоўнілі пазней расказы іх кансерваторскіх педагогаў.

Яўген Глебаў з дзяцінства іграў па слыху на гітары, любіў на ёй імправізаваць. Аднак думка аб прафесіі музыканта ў яго ніколі не ўзнікала: з ранніх гадоў ён моцна захапіўся тэхнікай. Калі юнак закончыў сямігадовую школу, ён, не задумваючыся, пайшоў вучыцца ў чыгуначны тэхнікум, а, закончыўшы яго, пачаў працаваць на Магілёўскім вагонным участку Беларускай чыгункі. Малады тэхнік з усім запалам аддаецца любімай справе, аднак свой вольны час прысвячае мастацкай самадзейнасці, прымае ўдзел у аглядах, канцэртах, выконваючы на гітары не толькі папулярныя творы многіх рускіх класікаў і савецкіх кампазітараў, але і свае мелодыі.

Паступова яркія музычныя здольнасці Яўгена Глебава пачынаюць звяртаць на сябе ўвагу грамадскасці. Яму радзяць падумаць аб вучобе, пачаць дзенебудзь кансультавацца па творчасці.

Калі ў 1950 годзе малады кампазітар, першыя крокі якога пачаліся з удзелу ў самадзейнасці Магілёўскага вагоннага ўчастка, прыехаў у Мінск, каб парадзіцца ў кансерваторыі наконт мэтазгоднасці заняткаў творчасцю як прафесіяй, шмат якія педагогі ад такога пытання нават разгубіліся. Што адказаць?! Сапраўды, з аднаго боку, у яго творах, якія аўтар выконваў на гітары, адчуваліся немалыя меладычныя здольнасці, яркасць музычнай мовы. З другога боку, таленавіты юнак нават не меў уяўлення аб элементарнай музычнай грамаце, і таму яго немагчыма было залічыць у лік студэнтаў кансерваторыі.

І ўсё-ж такі ў кансерваторыі пайшлі на зусім незвычайнае — прынялі музычна непісьменнага, але даравітага юнака ў сцены вышэйшай навучальнай музычнай установы.

Першыя гады вучобы Яўгена Глебава ў кансерваторыі былі вельмі напружаныя і для юнака, і для яго педагогаў. Калі яму трэба было траціць велізарную энергію, каб успрыняць у магчыма кароткі тэрмін складанейшыя законы музычнай мовы, вывучыць і ўмець практычна карыстацца цэлым комплексам спецыяльных дысцыплін, дык педагогам, і больш за ўсіх настаўніку Глебава па сачыненню заслужанаму дзеячу мастацтва БССР дацэнту А. В. Багатырову, трэба было вынайсці методыку выкладання ў 1 — 2 гады таго аб'ёму музычных ведаў, які звычайна выкладаецца за 6—7 год вучобы да ВНУ. Неабходна было не «засушыць» нагрувашчэннем тэарэтычных музычных дысцыплін творчы імпульс Глебава, яго імкненне ствараць сваю арыгінальную музыку.

Студэнты кампазітарскага аддзялення: (злева направа) Уладзімір Чараднічэнка, Марыян Наско, Яўген Глебаў і Юрый Семяняка.



Цяпер Яўген Глебаў ужо студэнт трэцяга курса кампазітарскага аддзялення кансерваторыі. І калі на першым курсе юнак быў студэнтам «умоўным», дык цяпер яго месца на трэцім курсе бясспрэчна апраўдана ўсёй яго творчасцю.

«Фантазія на беларускую тэму» для фартэпіяна з аркестрам, яго «Сімфанічнае скерца», інструментальныя п'есы, рамансы на тэксты рускіх і беларускіх класікаў і сучасных паэтаў здзіўляюць слухача шырынёй мелодыі, яркасцю гарманічных фарбаў, майстэрствам формы, сваёй эмацыянальнасцю. Гэта сведчыць не толькі аб значных па маштабу здольнасцях аўтара, у гэтых творах адлюстроўваецца велізарная праца і, як вынік яе, вялікія поспехі ў вучобе маладога кампазітара.

... У адрозненне ад Яўгена Глебава, студэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Яўген Дзягцярык ужо ў дзяцінстве лепшай у свеце прафесіяй лічыў прафесію музыканта. Вось чаму ён з такім запалам вучыўся іграць на фартэпіяна і лепшым адпачынкам і прыемнасцю для сябе лічыў пасядзець у вольны час за любімым інструментам.

... Ішлі гады.

Пяць урадавых узнагарод упрыгожвалі грудзі маладога лётчыка Яўгена Дзягцярыка, калі ён быў дэмабілізаваны з радоў Савецкай Арміі. Аб прафесіі піяніста, аб працягу вучобы ў гэтай галіне думаць не прыходзілася — надта вялікі перапынак у ігры быў у Яўгена Дзягцярыка, ды і са здароўем не ўсё было ў парадку. Аднак з заняткамі ў галіне музыкі парваць не так лёгка! Тым больш, што ў галаве з'яўлялася шмат сваіх музычных вобразаў-дум. І Яўген Дзягцярык вырашае паступіць на тэарэтычнае аддзяленне музычнага вучылішча, адкуль праз два гады яго пераводзяць на кампазітарскае аддзяленне кансерваторыі.

Вельмі добра тэарэтычна падрыхтаваны, валодаючы добрым пачуццём музычнай формы і паліфанічным мышленнем — такім вырысоўваецца кампазітарскі воблік маладога студэнта, калі знаёмішся са створанымі ім за гады вучобы фартэпіянным канцэртам, трыо для фартэпіяна, скрыпкі і віяланчэлі, асобнымі п'есамі і рамансамі. Многа прывабнага і ў сімфоніі на матэрыяле беларускіх народных тэм, над якой зараз працуе малады аўтар.

...Разам са студэнтамі Глебавым і Дзягцярыкам у класе кампазіцыі А. В. Багатырова займаецца і Юрый Семяняка. Яго творчы шлях шмат у чым падобны да шляху яго таварышаў.

Вайна спыніла музычную адукацыю Юрыя Семянякі: пачынаючы піяніст стаў кулямётчыкам. У 1947 годзе дэмабілізаваны сяржант Семяняка пачынае працаваць канцэртмайстрам Дзяржаўнага хора БССР пад кіраўніцтвам народнага артысты рэспублікі Р. Р. Шырмы. Знаёмства з харавой літаратурай і багацейшымі магчымасцямі хора былі тым імпульсам, які выклікаў у маладым музыканце жаданне пісаць музыку. З'явілася першая песня пачынаючага кампазітара, прысвечаная тэме барацьбы за мір. Цёпла сустрэтая таварышамі аўтара па хору, гэтая песня паказала наяўнасць у Семянякі добрай меладычнай здольнасці, уменне ствараць шырокія, па-вакальнаму распеўныя мелодыі. Наступныя песні Юрыя Семянякі таксама ярка сведчылі аб яго здольнасцях, наяўнасці гарманічнага пачуцця і рытмічнай рознастайнасці. Асобым поспехам спачатку карысталася на Гродненшчыне, дзе ў той час базіраваўся Дзяржаўны хор, а потым і па ўсёй рэспубліцы песня «Ой, шумяць лясы зялёныя» на словы Сіткоўскага. Малады аўтар набывае вядомасць як адзін з самадзейных кампазітараў БССР. Яго песні пачалі трансліраваць па радыё ў выкананні розных калектываў, але малады аўтар, не захапляючыся поспехамі, зрабіў верны вывад: трэба сур'ёзна вучыцца не толькі ў калектыве хора, але і ў прафесійнай навучальнай установе.

Наколькі сур'ёзна вучыцца Юрый Семяняка, пераконваешся не толькі па заліковай кніжцы, але і па тых вельмі прыкметных зрухах, якія ёсць у яго творчасці. Гэта сцвярджаюць і такія рамансы Семянякі, як выкананыя ў канцэрце «Па-над рэчкай» (тэкст Прыходзькі), «Вецярок» (тэкст Ісакоўскага) і іншыя.

... Уладзімір Чараднічэнка і Марыян Наско не толькі тым адрозніваюцца ад сваіх таварышаў па кампазітарскай вучобе, што вучацца ў класе другога педагога (прафесар, заслужаны артыст БССР Н. І. Аладаў), яны маладзей і па ўзросту, і па курсу, менш багаты перашкодамі быў і іхні шлях да кансерваторыі, куды былі яны залічаны ў 1952 годзе.

Бацька Уладзіміра, вопытны гарманіст-аматар, прывіў яму любоў да музыкі з дзяцінства. У восем год Уладзімір Чараднічэнка пачынае вучыцца ў музычнай школе, а ў 1951 годзе заканчвае музычнае вучылішча па класу баяна, дзе ён упершыню і пачаў тварыць. З'явіліся першыя прэлюдыі, эцюды, мазуркі маладога музыканта. Ён задумвае сімфанічную паэму. Але арсенал тэхнічных сродкаў для кампазітарскай дзейнасці Уладзіміра яшчэ надта малы, жаданне-ж пісаць — велізарнае, і ён вырашае прадоўжыць работу ў кансерваторыі па кампазіцыі.

У творчасці Чараднічэнкі, зусім зразумела, яшчэ адчуваецца шмат розных уплываў асобных кампазітараў: шмат ён сам іграў і чуў добрых твораў, а «перажыць» іх па-свойму, у сваёй музыцы, адразу не так лёгка. Не ўсе творы юнака адпавядаюць па форме аўтарскай задуме. Такіх заўваг можна зрабіць, слухаючы музыку Уладзіміра Чараднічэнкі, вельмі шмат. Але непасрэднасць, цеплыня большасці музычных твораў пачынаючага кампазітара гавораць самі за сябе.

...У панскай Польшчы цяжка было нават марыць селяніну зрабіцца прафесійным музыкантам. І жыццё не дала магчымасці ажыццявіць гэтае жаданне бацьку Марыяна Наско, які так і застаўся назаўсёды таленавітым самавукам-акардыяністам.

Але тое, чаго не змаглі дасягнуць раней прадстаўнікі старэйшых пакаленняў вёсак і мястэчак Заходняй Беларусі нават у марах, з'явілася явай для іх дзяцей у савецкіх умовах. У дзесяць год, адразу пасля ўз'яднання заходніх абласцей Беларусі з усходнімі, бацька пачаў вучыць сына музыцы. Хлопец зрабіў вельмі вялікія поспехі ў ігры на фартэпіяна, захапіўся ігрой на аргане, а праз

# Песня простых людзей

Словы І. МУРАВЕЙКІ. Музыка Я. ГЛЕБАВА.




**Мы — простыя людзі ўсіх земляў і нацый,**
**Ідзём мы адзінай калонай,**
**За чэсць чалавека мы вышлі змагацца,**
**Жыццё ад вайны абаронім.**

**Прыпеў: Вышэй сцягі, барацьбіты за мір!**
**Грымі, як гром, наш грозны, моцны кліч!**
**За дружбу братнюю,**
**За дэмакратыю,**
**За мір для ўсіх народаў на зямлі.**

**Мы — простыя людзі, працоўныя людзі,**
**Нічым не зламаць нашай волі,**
**Мы скажам падпальшчыкам: войнаў не будзе**
**Ніколі, ніколі, ніколі!**

**Прыпеў: Вышэй сцягі, барацьбіты за мір!**
**Грымі, як гром, наш грозны, моцны кліч!**
**За дружбу братнюю,**
**За дэмакратыю,**
**За мір для ўсіх народаў на зямлі.**

---

некалькі год з'явіліся і першыя яго спробы ў галіне музычнай творчасці — «Песня аб вясне» для фартэпіяна.

Юнак пераехаў на вучобу ў Мінск, спачатку на два гады ў музычнае вучылішча, а пасля — у кансерваторыю.

Кампазітарскі воблік Марыяна, яго творчыя спробы вельмі цікавыя. Эпічна шырока і велічна ў сваёй строгасці гучыць яго «Песня аб Леніне», маляўнічасць аркестроўкі, добрае пачуццё прываблівающь у «Лірычнай паэме» для струннай групы сімфанічнага аркестра, віртуозны размах у выкарыстанні інструментаў адчуваецца ў «Такаце для двух фартэпіяна». Але ад шмат чаго выпадковага, наноснага яму трэба яшчэ вызваліцца, і тым самым набыць яшчэ большыя каштоўнасці.

Маладых беларускіх кампазітараў Яўгена Глебава, Яўгена Дзягцярыка, Юрыя Семяняку, Уладзіміра Чараднічэнку, Марыяна Наско бясспрэчна, чакаюць поспехі і прызнанне народа. Заваяваць гэта яны змогуць настойлівай працай, вучобай.

---

**Рабочы момант на здымцы фільма. Зараз пачуецца каманда рэжысёра: «Матор!», і пачнецца здымка.**



# Хутка на экране...

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

У адзін з сонечных ліпеньскіх дзён на Нараўлянскай прыстані адбывалася нешта незвычайнае. Знешне ўсё было падобна на прыход звычайнага рэйсавага пасажырскага парахода, які прычальваў да дэбаркадэра. На бераг па сходнях спяшаліся пасажыры...

Сярод пасажыраў звяртаў на сябе ўвагу хлопчык у форме суворауца, якога сустракаў на беразе стары ляснік і бялявая вяскова дзяўчынка з гарэзлівымі вачыма. Апярэдзіўшы ўсіх, да сувораўца з вясёлым брэхам кінуўся сабака.

Потым на дэбаркадэр сыходзіў вельмі задаволены ўсім наваколлем, у тым ліку, вядома, і самім сабой, тоўсты чалавек у чэсучовым пінжаку з фотаапаратам і невялікім сакваяжам.

Сышла дзяўчына ў форме інжынера-геолага і гучна паклікала: «Глушка!.. Дзе вы прападаеце?» І ад піўнога ларка пачулася ў адказ: «Бягу, бягу!»

Усё адбывалася так, як яно і магло быць у жыцці, незвычайным было толькі тое, што ўсё гэта з невялікімі змяненнямі паўтаралася некалькі разоў.

Здымаўся адзін з эпізодаў каляровага прыгодніцкага фільма «Дзеці партызана», які расказвае пра пільнасць совецкіх людзей, пра нашых адважных піянераў.

Працоўныя будні новага Палесся сталі для аўтараў фільма невычарпальнай крыніцай матэрыялу для работы над новым варыянтам літаратурнага сцэнарыя.

У фільме, напрыклад, будзе такі эпізод: стомленыя геолагі выходзяць з балота і перад іх зрокам адкрываецца шырокая панарама меліярацыйных работ. Гэтыя работы вядуцца тут усюды, і здымачнай групе не прышлося доўга шукаць іх.

Не толькі ў працы над сцэнарыем, але і ў стварэнні выканаўцамі вобразаў фільма вельмі вялікай дапамогай аказаліся асабістыя знаёмствы з тутэйшымі людзьмі і ўмовамі жыцця.

У сцэнарыі дзейнічаюць геолагі. Як-бы дакладна і праўдзіва ні была апісана іх дзейнасць, звычкі, размовы — гэтага недастаткова для стварэння поўнакроўнага, запамінальнага вобраза. На ролю начальніка геалагічнай партыі запрошаны народны артыст СССР і БССР П. С. Малчанаў. Пазнаёміўшыся па сцэнарыю з роллю, ён сказаў: «Пакуль што Собалеў для мяне чужы». Калі-ж артыст прыехаў на Палессе, ён атрымаў магчымасць часта бываць у гасцях у геолагаў, лагер якіх знаходзіўся ў некалькіх кіламетрах ад базы кіноэкспедыцыі. Неяк пасля аднаго з такіх наведванняў, ён заявіў:

— Ваш Собалеў нейкі мяккі. Начальнік геалагічнай партыі павінен быць рашучым і ўпартым у дасягненні мэты. Такім я і буду яго рабіць.

Знаёмства з леснікамі і аб'ездчыкамі — людзьмі, якія ахоўваюць лясныя багацці Палесся, дапамагло вядомаму кіноактору П. А. Волкаву ў яго рабоце над вобразам дзеда Якуба, лесніка. Біяграфіі многіх новых знаёмых актора П. А. Волкава вельмі падобныя да біяграфіі героя, ролю якога ён выконвае.

Каларытны, жыццесцвярджальны вобраз былой партызанкі бабкі Ганны стварае ў эпізодах О. І. Мазалеўская.

Неяк да нас прыехала экскурсія піянераў, арганізаваная Мазырскім гарадскім домам піянераў. Дзеці былі захоплены праўдзівай ігрой актораў.

— Як гэта вы робіце? — з наіўным захапленнем спыталі рэбяты.

— Вельмі проста, — усміхаючыся, адказала Ольга Іванаўна. — Капірую гаспадыню, у якой я на кватэры. Яна таксама былая партызанка, а цяпер — калгасны брыгадзір.

Вядома, не з адной гаспадыні капіравала артыстка свой вобраз — кіпучая навакольная сапраўднасць



У ролі начальніка геалагічнай партыі Собалева здымаецца народны артыст СССР і БССР П. С. Малчанаў. Ролі геолагаў выконваюць студэнты Беларускага тэатральнага інстытута.



Глядач на гэтым кадры ўбачыць Глушку (актор П. Шпрынфельд) і Міхася (Віця Камісараў).



Сёння ў грымёра шмат работы, і юныя акторы, выканаўцы ролей Алесі (Наташа Зашчыпіна) і Міхася (вучань адной з мінскіх школ Віця Камісараў) вырашылі грыміравацца самі.

стала крыніцай для плённай творчасці ўсяго калектыва, які стварае фільм.

Маленькія героі фільма — суворавец Міхась, ролю якога выконвае вучань адной з мінскіх школ Віця Камісараў, і яго сястрычка Алеся (выканаўца Наташа Зашчыпіна, вядомая юным гледачам па многіх фільмах), дзеці загінуўшага героя-партызана Грэчнага, — трапляюць на «Волахаў круг», драмучы лес, акружаны непраходным балотам. Тут, у глухім кутку Палесся, Міхась і Алеся перажываюць розныя прыгоды і вядуць мужную барацьбу са здраднікам радзімы, шпіёнам Глушкам, які ашуканствам завёў іх у балота.

Побач з дзецьмі ў гэтых эпізодах дзейнічаюць дзікія звяры і сабака Анчар — верны сябра Міхася і Алесі.

Здымка эпізодаў з удзелам дзікіх звяроў праходзіла пад Масквой, на заабазе «Кінастудыі навукова-папулярных фільмаў». Гэтыя здымкі патрабавалі вялікай цярплівасці і ўпорства ўсяго калектыва. Звяроў-«актораў» можна было прымусіць «іграць» толькі пратрымаўшы іх некалькі дзён на галодным пайку, а потым рознымі хітрыкамі адцягваючы іх увагу ад ежы, каб яны паднімалі морды, глядзелі, насцярожваліся. Або, наадварот, прыманьваючы на ежу, каб звяры беглі, рэзка спыняліся, прынюхваліся і кідаліся бегчы ў другім напрамку. Усё гэта пры канчатковым мантажы фільма павінна стварыць уражанне сэнсавай «ігры» звяроў, як гэта патрэбна паводле сцэнарыя. Але хоць і гавораць, што голад не цётка, звяры часцей лічылі за лепшае галадаць, чым здымацца ў кіно.

Цяжка праходзілі здымкі з удзелам медзведзянят і мядзведзіцы. Гэтыя смешныя і дабрадушныя звяры, якімі яны выведзены ў рускіх казках, аказаліся злымі і непаслухмянымі. Малышы, якіх спецыяльна злавілі для карціны ў тайзе, увесь час біліся паміж сабою, а мядзведзіца па клічцы Зінка, якая паводле сцэнарыя лічылася іх роднай маці, ні за што не хацела браць на сябе такія абавязкі. Калі-ні-калі ўдавалася падкупіць яе мёдам, але і тады яна заставалася толькі злой мачыхай. І наогул, Зінка старалася рабіць усё наадварот: калі трэба было проста прайсці міма кінакамеры, яна забіралася на самую верхавіну дрэва і ніяк нельга было сагнаць яе адтуль, а калі трэба было лезці на дрэва, Зінка клалася на спіну і паднімала ўгору лапы.

Яшчэ горшым выканаўцам аказалася сава. Паводле ходу дзеяння, яна павінна была кінуцца на зайца і забіць яго. Сава, як вядома, лічыць за лепшае здабываць сабе харч ноччу, а каляровае кіно, нават «пад ноч», здымаецца пры яркім дзённым надвор'і. Каб прывучыць саву паляваць днём, яе пасадзілі ў спецыяльны шкляны вальер і доўга вучылі на трусах. І пакуль не трэба было здымацца, сава добра выконвала сваю ролю. А калі прышоў час паказаць сваё майстэрства, галодная сава чатыры дні праседзела на галінцы ў сваім вальеры перад замаскіраванай кінакамерай, нават не гледзячы ў той бок, дзе для яе быў падрыхтаваны заяц. І ўсё-ж не вытрымала — на пятыя суткі кінулася на зайца! Пасля гэтага, паводле сцэнарыя, сава павінна ўцякаць. Здавалася, тут ужо няма нічога складанага—выпусціць саву перад аб'ектывам кінакамеры і няхай сабе ляціць. Але не тут-та было! Непаслухмяная сава села на галіну бліжэйшага дрэва і ні за што не хацела ўцякаць. На яе крычалі, кідалі ў яе палкамі, трэслі дрэва, але сава, моцна зачапіўшыся кіпцюрамі, сядзела на галіне проста перад кінакамерай і здзіўленымі круглымі вачыма глядзела на ўсіх, быццам пытаючы: «Што вам ад мяне трэба?»

Але нарэшце ўсе звяры былі зняты, і група выехала на Палессе, дзе былі праведзены ўсе асноўныя здымкі з натуры. Зараз кіноэкспедыцыя выязджае ў Ялту, каб закончыць натурныя аб'екты і прыступіць да здымкаў у павільёнах.

Будуць і няўдачы, і расчараванні, але калектыў паставіў перад сабою ясную задачу: фільм павінен к вызначанаму тэрміну з'явіцца на экранах, і гэтая задача будзе выканана.

Пятрусь БРОЎКА

# Вяселле

Мал. М. Бельскага.

Ну і вяселле было ў нас,
Ну й давялося пагуляць!
Клянуся,
Што і ў гэты час —
Такое трэба пашукаць!

Ну, хто-б раней падумаць мог,
Каб Насця з нашага сяла,
З сяла пад Брэстам —
Белы Мох,
Аж у Малдавію зайшла.

Не чулі гэтага калісь
Ані мой бацька,
Ані дзед, —
А тут разважыш, паглядзіш,
Як быццам так яно і след.

Аж з-пад Днястра,
З малдаўскіх хат,
Служыў у нас адзін салдат.
Які сабой? Што ў песні той:
— Пагранічнік быў герой.

Пазнаўся з Насцяй.
Пра любоў,
Відаць, нашэптваў ёй не раз.

А час настаў ісці дамоў,
За нашу дзеўчыну — ды ў ЗАГС.

Трывогі шмат бацькам старым:
— Куды? Чужая старана?!
А сам жаніх стаяў
На тым —
Ва ўсіх савецкіх кроў адна!

Ды на бацькоў:
— Скуль гэта йдзе?..
Яшчэ мо' ў царкву, пад вянец?..

. . . . . . . . . . .

І вось у першы зручны дзень
Вяселле граем, і канец!

Шуміць, гудзе сяло вакол:
Хлапцоў, хлапцоў,
Дзяўчат, дзяўчат!..
Калгас накрыў багаты стол,
Прыслаў аркестр пагранатрад.

А хор дзяўчат-падруг пяе,
А песням тым
Няма канца...
... Калгас даярку аддае
За пагранічніка-байца.

Як зачыніць
Паўнюткі дом!
Увесь народ не падлічыць!
А госці едуць... За акном
Стаяць «Пабеды», «Масквічы».

Згулялі ноч. І дзень узнік...
Хто танцаваў,
Хто еў, хто піў...
Прымчаў пад ранне паштавік
І тэлеграму абвясціў.

А ў тэлеграме
Змест такі:
Лятуць з Малдавіі бацькі.

Такой вясціне
Рад народ,
Прышоў, хто толькі быў вакол!..
... А ўжо над полем самалёт,
Як птах, зніжаецца на дол.



І раптам сеў.
Аж загула
Уся грамада ад пекнаты —
Па лесвіцы, што ля крыла,
Ідуць бацькі, ідуць сваты...

А на адзенні ўзораў шмат,
А шапкі, шапкі — стаўбуном!
А кветак, кветак —
Цэлы сад!
Між імі бочачкі з віном.

А мы насустрач — многа рук,
І свату так:

— Вітаць дазволь!
А мы насустрач ім —
Абрус,
А на абрусе хлеб і соль.



І вось, па звычаю старым,
Узняўшы чаркі,
Хто як мог:
Мы «Калі ласка!» кажам ім,
Яны адказваюць: «Нарог!»

А там, ад сэрца ідучы,
У хаце гутарка пайшла.
Амаль тры дні
І тры начы
Мы не ўставалі з-за стала.

Віталі нашу маладосць
І край ўвесь неабсяжны свой,
І запівалі ўсё як ёсць
Мы чаркай моцнай, не адной.

Ды не забыліся таго,
Што надта соладка —
Гарчыцы!
Як ёсць пачатак для ўсяго,
Так і канец павінен быць.

Суняўся, змоўк
Вясельны гром,
Бо час ад'езду ўсім настаў.
... І маладых аэрадром
На крыллі срэбныя прыняў.

А я гляджу — ў жыцці людскім
Бліжэй сышліся берагі,
А я ўсё думаю аб тым:
Другія людзі,
Свет другі!

Раней адлучыць вёску гай,
І тая — бы ў далі якой,
А вось цяпер —
Малдаўскі край
І той, як быццам, пад рукой.

Зайздрошчу шчыра маладым:
Ім свет — прастор,
А не сяло.
Які прасцяг, разгон усім!..
Ну і вяселле ў нас было!



І. КАЛІНАЎ

# МІЛЬЁНЫ МАЛАЛЕТНІХ НЯВОЛЬНІКАЎ

Палітыка гонкі ўзбраення і мілітарызацыя ўсяго ўнутранага жыцця, якая праводзіцца правячымі кругамі ЗША, асудзіла шырокія масы працоўных гэтай краіны на галечу. Цяжар мілітарызацыі і гонкі ўзбраення асабліва востра адчувае падрастаючае пакаленне. Мільёны амерыканскіх сем'яў не маюць нават мінімума матэрыяльных сродкаў, каб заплаціць за навучанне, пракарміць і апрануць сваіх дзяцей.

Амерыканскі імперыялізм з'яўляецца злейшым ворагам дзяцей і юнацтва. Іменна ў ЗША налічваюцца мільёны малалетніх нявольнікаў, эксплуатацыя якіх прыняла самыя шырокія памеры.

Яшчэ ў 1908 годзе выдатны амерыканскі пісьменнік Джэк Лондан пісаў:

«А як жывуць дзеці ў нашай багатай, цывілізаванай краіне? У Нью-Йорку 50 тысяч дзяцей кожную раніцу ідуць у школу галоднымі...

... Дзяцей дзікуна ніхто не прымушаў працаваць. Чаму-ж у Злучаных Штатах на адных толькі тэкстыльных фабрыках 80 тысяч дзяцей прымушаны знясільваць сябе цяжкай працай?»

У 1908 годзе, калі Джэк Лондан пісаў гэтыя радкі, у Злучаных Штатах, паводле афіцыйных паведамленняў, працавала каля двух мільёнаў дзяцей. Зараз колькасць дзяцей, занятых у прамысловасці, сельскай гаспадарцы і ў гандлі ЗША павялічылася ў тры разы.

«Луізе толькі шэсць год. Але яна працуе ўжо на бавоўнавай плантацыі...» Фотаздымак з гэтым подпісам, прысланы з Каліфорніі, быў апублікаваны ў адным з апошніх нумароў амерыканскага часопіса «Амерыкэн чайлд».

А колькі такіх Луіз у ЗША! З-за галечы бацькоў многія амерыканскія дзеці вымушаны шукаць работу ўжо ў шасцігадовым узросце.

Эксплуатацыя дзіцячай і юнацкай працы — адна з характэрных асаблівасцей звярынага амерыканскага імперыялізма. Дзіцячая і юнацкая праца — самая нізкааплачваемая ў Злучаных Штатах Амерыкі. Паводле даных амерыканскай афіцыйнай статыстыкі, каля шасці мільёнаў дзяцей вымушаны пакідаць школу і ісці на работу; больш трох мільёнаў дзяцей і падлеткаў ва ўзросце ад 10 да 17 гадоў працуюць па найму.

Нацыянальны камітэт па пытаннях дзіцячай працы, каменціруючы гэтыя даныя, піша ў сваім штогадовым дакладзе, што пазбаўленыя магчымасці вучыцца, дзеці здабываюць кавалак хлеба цяжкай працай або блукаюць у пошуках яе. Многія вучні вымушаны пакінуць школу да заканчэння пачатковага навучання, каб «зарабіць на жыццё».

Дзіцячая праца прыносіць вялікія прыбыткі буйным амерыканскім землеўладальнікам і фермерам-кулакам. Паводле даных амерыканскага друку, толькі ў сельскай гаспадарцы ЗША выкарыстоўваецца праца 900 тысяч дзяцей. Працоўны дзень у дзевяць з палавінай гадзін не з'яўляецца выключэннем нават для дзяцей ва ўзросце ад 8 да 12 гадоў.

Вялікая колькасць падлеткаў ва ўзросце ад 14 да 15 гадоў працуе ў прамысловасці. Яны падвяргаюцца суровай эксплуатацыі. Нават міністэрства працы ЗША вымушана прызнаць, што амаль трэцяя частка ўсіх дзяцей, якія працавалі на прадпрыемствах і прайшлі абследаванне, выкарыстоўваліся супраць закона. Больш адной трэцяй часткі іх складалі дзеці ва ўзросце да 14 гадоў.

Кіраўніца дзіцячага бюро Федэральнага агенцтва сацыяльнага забеспячэння Марта Эліот адзначыла, што 43 працэнты амерыканскіх дзяцей жывуць у сельскіх мясцовасцях, якія маюць недастатковае медыцынскае абслугоўванне або зусім яго не маюць. Палова гэтых дзяцей жывуць у сем'ях, гадавы даход якіх ніжэй пражытачнага мінімума.

Эліот адзначыла, што дзеці вандруючых рабочых, колькасць якіх складае 250—500 тысяч, «у эканамічных і сацыяльных адносінах з'яўляюцца самымі абяздоленымі дзецьмі нашай краіны. Яны растуць, маючы вялікую патрэбу ва ўсім — у харчаванні, лепшых жыллёвых умовах, адзенні, медыцынскім абслугоўванні і асвеце. Сярод іх наглядаецца высокая захворваемасць і смяротнасць...»

Бюлетэнь «Амерыкэн чайлд», які выдае Нацыянальны камітэт па пытаннях дзіцячай працы, пісаў нядаўна, што кангрэс клапоціцца аб вандруючых дзецях менш, чым аб пералётных птушках. Бюлетэнь указвае, што кангрэс адмовіўся асігнаваць 181 тысячу долараў для вывучэння ўмоў навучання дзяцей, якія вандруюць па краіне разам са сваімі бацькамі, і ў той-жа час асігнаваў 6,6 мільёна долараў для аховы пералётных птушак.

Выкарыстоўваючы танную дзіцячую працу, амерыканскія бізнесмены зусім не клапоцяцца аб ахове працы і здароўя маленькіх працаўнікоў.

Нядаўна часопіс «Амерыкэн чайлд» апублікаваў шэраг матэрыялаў аб росце колькасці калецтваў, у тым ліку са смяротным зыходам, сярод дзяцей школьнага ўзросту, якія працуюць у сельскай гаспадарцы. У штаце Айова васьмігадовы хлопчык быў насмерць раздаўлены, калі перакуліўся трактар, якім ён кіраваў. У яго брата, які таксама знаходзіўся ў гэты час на трактары, былі пашкоджаны ключыца і два рабры. У штаце Нью-Джэрсі шасцігадовы хлопчык, які працаваў па найму, быў раздушаны насмерць грузавіком...

Ахвярамі няшчасных выпадкаў з'яўляюцца таксама многія тысячы дзяцей, якія працуюць у прамысловасці. Згодна афіцыйных даных, у шахтах і на прадпрыемствах толькі аднаго штата Ілінойс штогод атрымоўваюць калецтвы каля 500 дзяцей і падлеткаў. Зацікаўленыя ў прымяненні таннай дзіцячай працы, прамысловыя кампаніі і буйныя фермеры ўсяляк перашкаджаюць прыняццю законаў, якія ахоўвалі-б дзяцей школьнага ўзросту ад суровай эксплуатацыі.

Цяжкія ўмовы, у якіх жыве большасць дзяцей працоўных ЗША, прыводзяць да таго, што вялікая колькасць хлопчыкаў і дзяўчынак вырастае фізічна няпоўнацэннымі і разумова слаба развітымі. Як паведамляецца ў апошнім штогадовым дакладзе аддзела асветы федэральнага ўпраўлення сацыяльнага забеспячэння, у Злучаных Штатах зараз зарэгістравана больш 5 мільёнаў дзяцей, якія маюць фізічныя і разумовыя дэфекты. Выхаванне гэтых дзяцей ускладнёна галоўным чынам з-за адсутнасці неабходных грашовых асігнаванняў і сур'ёзнага недахопу педагогаў і ўрачоў.

Па вызначэнню часопіса «Амерыкэн чайлд», для амерыканскіх дзяцей лета з'яўляецца «самым трагічным сезонам года». Замест адпачынку і забаў у час летніх канікулаў мільёны дзяцей працоўных вымушаны наймацца працаваць, а астатнія праводзяць час на брудных вуліцах.

Прафсаюзны друк і некаторыя грамадскія арганізацыі звяртаюць увагу на вялікае распаўсюджванне сярод амерыканскіх дзяцей розных захворванняў, якія выкліканы недастатковым харчаваннем, дрэннымі жыллёвымі ўмовамі, недастатковым медыцынскім абслугоўваннем і г. д. Пастаянны спадарожнік галечы — туберкулёз, на які хварэюць многія амерыканскія дзеці. Як паведамляецца ў штогадовым дакладзе Нацыянальнай асацыяцыі па барацьбе з туберкулёзам, «кожны год ад туберкулёза памірае дзяцей больш, чым ад усіх іншых хвароб».

Даследаванне, вынікі якога былі апублікаваны амерыканскай федэрацыяй працы ў Сан-Францыска, паказала, што сетка медыцынскіх устаноў ЗША абслугоўвае не больш 50 працэнтаў насельніцтва краіны. Гэта значыць, што больш палавіны амерыканскіх дзяцей растуць без медыцынскага абслугоўвання і ў выпадку хваробы не атрымліваюць нават самага неабходнага лячэння.

Цяжкі лёс і адсутнасць перспектыў на лепшае будучае дзяцей амерыканскіх працоўных усё больш непакояць бацькоў, педагогаў і многія грамадскія арганізацыі краіны. Абмеркаванню гэтай праблемы была прысвечана спецыяльная канферэнцыя, скліканая аб'яднаннем «Нэйшнл мідсенчуры коміці», якое супрацоўнічае з сотнямі розных арганізацый і ўрадавых устаноў. У праграме гэтай канферэнцыі з жалем адзначалася, што зараз зусім немагчыма вызначыць, «якой будзе амерыканская нацыя ў 1972 годзе», калі падрастуць цяперашнія дзеці.

«Няшчасце заключаецца ў тым,— гаварылася ў гэтай праграме,— што з кожным годам становіцца цяжэй забяспечваць дзяцей усім тым, у чым яны маюць вялікую патрэбу. Падрастаючае пакаленне і дарослыя аднолькава ўсхваляваны падрыхтоўкай да новай вайны».

Трагічнае становішча падрастаючага пакалення амерыканцаў з'яўляецца яшчэ адным звяном у ланцугу злачынстваў імперыялістаў ЗША супраць свайго народа.




**пад рэдакцыяй майстра А. С. СУЭЦІНА**

## Камбінацыя ў шахматнай партыі

Камбінацыя па вызначэнню чэмпіёна свету М. Батвінніка ёсць фарсіраваны варыянт з ахвярай. Камбінацыя змяняе звычайнае ўяўленне аб пазіцыі, робіць пераацэнку каштоўнасці шахматнага матэрыялу. Ёсць многа пазіцый, дзе энергія фігур важней за іх колькасць. Камбінацыя надае асаблівую прыгажосць шахматам, падымае іх на ўзровень мастацтва. Іменна магчымасць камбінацыйнай творчасці на шахматнай дошцы выпрацоўвае эстэтычны густ і надае тым самым шахматам педагагічную каштоўнасць.

Заснавальнік айчыннай школы шахматнага майстэрства, выдатны рускі шахматыст М. І. Чыгорын (1850 — 1908 гг.) валодаў вялікай прыроднай камбінацыйнай здольнасцю. Ён стварыў мноства цудоўных узораў шахматнага мастацтва.

Змяшчаем адну з партый М. І. Чыгорына. Гэтая партыя каротка, але ў ёй праведзены пераканаўчы план пешачнага штурму каралеўскага фланга пры замкнутым цэнтры, які закончыўся эфектнай камбінацыяй з ахвярай ферзя, самай моцнай шахматнай фігуры.

Італьянская партыя
**В. Кнорэ — М. Чыгорын.**

1. e4 e5. 2. Kf3 Kc6. 3. Cc4 Cc5. 4. 0-0 (Белыя дарэмна спяшаюцца з ракіроўкай. Трэба было пакуль што проста развіваць фігуры шляхам 4. d3 або 4. c3, падрыхтоўваючы d4.) 4. ... Kf6 5. d3 d6.) У адрозненне ад свайго партнёра, Чыгорын не спяшаецца ракіраваць.) 6. Cg5 (Недакладнасць. Звязваць каня трэба было толькі пасля ракіроўкі чорных.) 6. ... h6 7. Ch4? (Іграючы 6. Cg5, белыя павінны былі рашыцца на размен слана на каня f6. Адступленне слана на h4 дае магчымасць для наступнай моцнейшай атакі чорных.) 7. ... g5! 8. Cg3 h5, 9. K:g5 (На 9. h4 магло паследаваць 9. ... Cg4! 10. hg h4 11. Ch2 Kh7! у карысць чорных.) 9. ...h4! 10. K:f7



Паследавала выдатная камбінацыя: 10. ...hg!! 11. K:d8 Cg4! 12. Фd2 (Калі 12. Ф:g4, дык... K:g4 13. K:c6 C:f2 + 14. Л:f2 gh + 15. Kpf1 h1ф + і чорныя выйгрываюць.) 12. ... Kd4! 13. Kc3 (Абараняючыся ад Ke2+.) 13. ... Kf3+14. gf C:f3 белыя здаліся, таму што мат непазбежны.

Кожны шахматыст можа ў той або іншай ступені развіць у сябе «камбінацыйны зрок», які неабходны для ўдасканалення. Гэтая якасць, якая дапамагае хутка арыентавацца ў самых складаных пазіцыях для шахматыста, таксама важная, як, напрыклад, важная радыёлакацыя для лётчыка.

Для развіцця «камбінацыйнага зроку» карысна самастойнае рашэнне камбінацый у партыях майстроў, а таксама рашэнне задач і эцюдаў. У іграемых практычных партыях мы раім маладым шахматыстам імкнуцца да вострай ігры, не ўхіляцца ад магчымых камбінацыйных ахвяр. Гэта аблегчыць выпрацоўку камбінацыйнага мышлення.

Ніжэй мы прыводзім пазіцыю з партыі першага рускага чэмпіёна свету па шахматах А. А. Алёхіна з аргентынскім шахматыстам Моліна. Гэтая партыя ігрна ў Буэнас-Айрэсе ў 1926 годзе.



У гэтай пазіцыі Алёхін, які іграў белымі, здзейсніў прыгожую камбінацыю з ахвярамі. Знайдзіце гэтую камбінацыю!

Тэрмін прысылкі рашэння ў рэдакцыю 30 дзён з дня выхаду нумара. Прозвішчы прысылаўшых правільнае рашэнне будуць апублікаваны ў адным з наступных нумароў.

**Маладыя чытачы, аматары шахматаў!**

Прысылайце ў рэдакцыю іграныя вамі партыі, складзеныя вамі эцюды і задачы, пішыце аб цікавячых вас пытаннях па тэорыі шахматаў! Наш адрас: г. Мінск, рэдакцыя часопіса «Маладосць», шахматны аддзел.

## На нутрыевай звераферме

**Нутрыя — каштоўны пушны звярок. Першая партыя гэтых жывёл, якія належаць да атрада грызуноў, была завезена ў нашу краіну яшчэ ў 1900 годзе з далёкай Аргенціны.**

**Нутрыевая скурка цэніцца за густы і мяккі падшэрстак дымчатага колеру. Цвёрдая поўсць, якая надае звярку непрыгожы выгляд, выщыпваецца пры вырабцы. Са скурак нутрый шыецца рознае прыгожае зімняе адзенне.**

**У Беларусі створана некалькі нутрыевых звераферм, на якіх вырошчваюцца сотні экземпляраў каштоўнага звярка. Фермы прыносяць вялікі даход народнай гаспадарцы. Адна з такіх ферм размешчана на беразе возера Окунь Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці.**

**На нашым здымку: старшы рабочы А. А. Сярмяжка са сваім любімцам «Барысам».**

Фота Н. Белабровіка.
(Фотахроніка БЕЛТА.)








На першай старонцы вокладкі: **Ільнаводы калгаса імя Дзімітрава Дунілавіцкага раёна Полацкай вобласці: звеннявая Антаніна Зямчонак** (злева) **і Аліна Лаўнікоўская.**

На чацвертай старонцы вокладкі: **«Пачатак восені».** Фотаэцюд А. Дзітлава.

# Красворд

**Па гарызанталі:** 1. Парада. 3. Сорт яблыкаў. 5. Беларускі кампазітар. 6. Удзельнік Парыжскай Камуны. 7. Сукупнасць метадаў і прыёмаў, якія прымяняюцца для дасягнення мэты. 9. Кароткая п'еска лёгкага, жартоўнага зместу. 12. Характар выканання музычнага твора. 13. Жыхар Айроціі. 15. Шчолачны метал. 17. Школьнае памяшканне. 19. Узвышша адпаведнай вышыні. 21. Горад у Тібеце. 23. Від мастацкай творчасці. 24. Горад у БССР. 26. Чалавек, які працуе лепш за іншых. 27. Выбуховае вешчаство. 28. Спартыўны тэрмін. 29. Сукупнасць усіх партый шматгалоснага музычнага твора. 31. Дыпламатычны зварот аднаго ўрада да другога. 33. Эстэтычнае адчуванне, падыход да чаго-небудзь. 35. Адзінка ў піянерскай арганізацыі. 37. Сельскагаспадарчая прылада. 39. Хімічны элемент. 41. Возера ў БССР. 45. Рака ў БССР. 47. Невялікі літаратурны твор фактычнага зместу. 49. Самая буйная артэрыя. 50. Агнетрывалая цэгла. 51. Грувавыя практычныя заняткі. 52. Рознасць межаў, паміж якімі вагаецца якая-небудзь пераменная велічыня. 53. Стан раздражнення. 54. Невялікая пабудова для продажу кніг, газет і інш.



**Па вертыкалі:** 1. Цана без дадатковых нацэнак. 2. Прылада для нападу або абароны. 3. Чалавек, які напісаў працу для друку. 4. Узвышэнне для прамоўцы. 6. Зімовая спартыўная пляцоўка. 8. Імклівы напад. 9. Музычны твор або ўрывак яго для аднаго інструмента або аднаго голасу. 10. Прадукты харчавання. 11. Пасуда для піцця, якая мае форму поўшар'я. 12. Ніжняя частка рачной даліны, якая заліваецца ў час паводкі. 14. Герой аповесці Я. Коласа. 16. Права карыстацца чым-небудзь на працягу абумоўленага тэрміну. 17. Рыба. 18. Вучэнне аб значэнні слоў. 19. Зорная сістэма. 20. Твор Янкі Маўра. 22. Парадкавы нумар друкаванага аркуша ў кнізе. 23. Металічны значок, які выдаецца ўдзельнікам таго ці іншага мерапрыемства. 25. Чалавек, які мае добрую мускулатуру і спартыўны выгляд. 29. Вялікі сад для гуляння. 30. Каштоўны мінерал. 32. Узнагарода за выдатную дзейнасць. 34. Трыганаметрычная функцыя вугла. 35. Бясколерны газ з едкім пахам. 36. Айчына. 38. Сухая трава. 40. Палаcа паміж якімі-небудзь двума межамі. 42. Палявая кветка. 43. Духмяная расліна. 44. Геаметрычная аб'ёмная фігура. 46. Выдатны дзеяч Французскай буржуазнай рэвалюцыі 1789 года. 48. Конь з характэрнай лёгкай хадой.


**Адказны рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Рэдакцыйная калегія: Янка БРЫЛЬ (нам. адказн. рэдактара), Юрый ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Вадзім ПОЗНЯК, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.**

**«Молодость»**
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ЦК ЛКСМБ. Тэлефоны: адказнага рэдактара — 93-892, нам. адказн. рэдакт.—93-985, адк. сакратара — 93-592, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-648, аддз. рабочай і сельскай моладзі — 93-985, аддз. мастацкага афармлення — 93-747.

АТ 04046. Здадзена ў набор 10/IX-53 г. Падпісана да друку 30/IX-53 г. Фармат паперы 70×108⅛. Друк арк. 4. (У др. арк. 65.000 зн.) Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20.000 экз.

Заказ № 585.

Цана 2 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# Вясельная




Музыка І. МАЦІНА.

Словы М. ТАНКА.

Піце гарэліцу, госцейкі, піце.
Слаўную Ганначку нашу любіце.
Першай з брыгадай яна уставала,
Першай на поле ішла, працавала.

Весела, госцейкі, песню спявайце,
Песняю Ганначку нашу ўспаўляйце.
Зорка, што свеціць ў яе, залатая
Хай ёй дарогу ў жыццё азарае.

Звонка, музыкі, ў цымбалы звініце,
Коней вясельных ускач не ганіце,
Каб развітацца магла яна з намі,
З полем, знаёмымі ёй каласамі.

Весела, госцейкі, песню спявайце,
Часта ў адведзіны вы прыязджайце.
Будзем і мы, парадніўшыся з вамі,
Частымі ў вашым калгасе гасцямі.

Танец хай стужкі вясёлкамі кружыць.
Шчасце хай з нашаю Ганначкай дружыць.
За маладых уздымем мы чаркі.
Ярка свяці, наша сонейка, ярка!

